Рыгор Яўсееў

# МАЦІ КАЗАЛА ТАК...

З гаворкі Бялыніцкага раёна



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
1978

4С(Бел)
Я24

Рэдактар
кандыдат філалагічных навук
А. А. КРЫВІЦКІ

Рэцэнзенты:
доктар філалагічных навук Ф. М. Янкоўскі,
кандыдат філалагічных навук І. Я. Яшкін

**Яўсееў Р. М.**

Я24 Маці казала так... (З гаворкі Бялыніцкага раёна). Мн., «Навука і тэхніка», 1978.
112 с.

У слоўніку прыводзіцца дыялектная і рэгіянальная лексіка, сабраная на мяжы Магілёўшчыны і Міншчыны — у Бялыніцкім раёне. Тлумачыцца каля 2000 слоў. Ілюстрацыйны матэрыял падаецца ў спрошчанай транскрыпцыі.
Разлічана на шырокія колы лінгвістаў. Карысны матэрыял знойдуць тут гісторыкі, географы, этнографы, пісьменнікі, журналісты, лектары.

Я $\frac{70105-029}{М316-78}$ 48—78 4С(Бел)

## АД РЭДАКТАРА

Збіранню лексікі і іншых выразных сродкаў жывой народнай, або дыялектнай, мовы ў нас у рэспубліцы ўдзяляецца зараз вялікая ўвага. Ствараецца такая буйная праца, як Лексічны атлас беларускай дыялектнай мовы, занальныя слоўнікі рэгіяналізмаў і інш. Мовазнаўцы часта звяртаюцца з заклікамі да філолагаў прыняць удзел у гэтай працы. Яны імкнуцца давесці, што і дыялектныя моўныя сродкі маюць пэўную каштоўнасць. Пры тым не толькі для лінгвістыкі.

Рыгор Яўсееў прыйшоў да падобнага пераканання сам. У час працы ў раённай газеце, калі яму давялося звяртацца да розных мовазнаўчых і літаратурных крыніц у пошуках найбольш прыдатных слоў і выразаў для газетных карэспандэнцый, заметак, фельетонаў. Невычэрпнай скарбніцай моўнага дабра адкрылася для яго простая гаворка яго землякоў, родная матчына мова. Са сваіх лексічных знаходак у Бялыніцкім раёне ён склаў гэты невялікі слоўнік. Асноўнай базай змешчанай у слоўніку лексікі была гаворка яго роднай вёскі Барок Лебядзянскага с/с.

Слоўнік Рыгора Яўсеева — гэта збор слоў, розных па сваёй моўнай прыналежнасці. Дыялектныя словы суседнічаюць тут з гуллівай прастамоўнай лексікай, з перарobленымі на мясцовы лад іншамоўнымі словамі з літаратурнай мовы. Трапляюцца і жаргонныя слоўцы. Але гэта, можа быць, і адна з найбольш цікавых адметнасцей слоўніка. Таму што падобная лексічная стракатасць — характэрная асаблівасць слоўнікавага складу сучаснай дыялектнай мовы. Слоўнік з'яўляецца як бы люстэркам яе стану ў адпаведным раёне, як і ў іншых рэгіёнах Беларусі.

Яшчэ адна адметнасць слоўніка — вельмі жывыя і яркія ілюстрацыі да слоў. У большасці выпадкаў чуец-

ца, зразумела, голас Маці, простай вясковай жанчыны: яна гаворыць пра свае турботы і клопаты, выказвае свае адносіны да людзей і жыцця, успамінае. Але за прыкладамі, прыведзенымі ў слоўнікавых артыкулах, чуюцца нярэдка і іншыя галасы. Пра многае з вясковага жыцця і з роздумаў сельскага жыхара можна даведацца з гэтых то разважных, то з'едлівых, то простых і прамых выказванняў, якія выступаюць у слоўнікавых артыкулах як ілюстрацыі.

Адным словам, загляніце ў гэты невялікі збор рэгіянальных слоў. Можа і вам успомніцца матчына мова. Можа і вы заўважыце ў сваёй роднай гаворцы нешта вартае агульнай увагі.

## ПРАДМОВА

У якасці супрацоўніка бялыніцкай раённай газеты «Зара камунізма» мне ў свой час давялося абхадзіць і аб'ездзіць усе далёкія і блізкія вёскі раёна, сустракацца і размаўляць з рознымі людзьмі, людзьмі розных прафесій і ўзростаў, ад піянераў да пенсіянераў. Нямала давялося рыхтаваць у набор і селькораўскіх допісаў, якіх даволі атрымлівала наша рэдакцыя.

Ды і сам нарадзіўся я ў Бялыніцкім раёне, за дваццаць пяць або трыццаць кіламетраў ад райцэнтра, у глыбіннай вёсцы Барок, што прытулілася да лесу. Да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі тут не было ні школы, ні царквы. Хто хацеў маліцца, той ішоў, як гаварылі, «за блізкі свет». Ды і маліцца не ўмелі, а зараз, пэўна, ніводнай малітвы ніхто не ведае.

Памятаецца такі выпадак. Прыйшлі мы, падшыванцы, да цёткі Алёны, а дакладней, забраць свайго дружбака на рэчку. А было нейкае рэлігійнае свята. Сябрук наш яшчэ не паспеў паснедаць, маці пакуль што не пускае яго за стол. Стаіць цётка Алёна перад іконай, моліцца:

— Мяфодзечка, Пракопачка, Агапачка...

А тут вялізны іх кот:

— Мяў, мяў!

Заўважыў, балазе, на стале смачны харч.

Тут цётка не ўтрывала:

— Псік, каб ты здох!

І зноў:

— Мяфодзечка, Пракопачка... Гасподзечка...

Вось і ўся малітва. Нямала смяяліся з цётчынай той бажбы. Няма ўжо тут ні яе, ні яе хаты, як і няма колішняй адсталасці. У кожнай вёсцы зараз і школа, і клуб, і бібліятэка, і крама, багата машын, вялікія жывёлагадоўчыя комплексы. Людзі чытаюць шмат. У кож-

ную хату ідуць газеты, часопісы, багата тэлевізараў, радыёпрыёмнікаў. Мабільным стала цяпер гутарковае слова, значна змяніліся тэмы размоў, а разам з гэтым мяняюцца і гаворкі, інакшай робіцца лексіка.

А бацька мой? Крыху разбіраўся ў чытанні, таксяк — наўскасяк умеў пісаць. Маці — ні пісаць, ні чытаць. Я ведаў шмат такіх людзей з нашай і з суседніх вёсак. Што ўжо і гаварыць пра іх бацькоў? Але ж усе яны дружылі, хадзілі адзін да другога ў госці, спявалі песні, ладзілі бяседы. А наўрад ці ведалі нашы дзяды і прадзеды такія словы, як напрыклад *канцэнтрацыя, кансалідацыя, максімалізм* або *сітуацыя, дыфузія, кульмінацыя, ратыфікацыя...* Абыходзіліся без іх і да іх падобных. А як? Вельмі проста. Замянялі сваімі, больш зразумелымі, зручнейшымі, як тут гавораць, лаўчэйшымі, лацвейшымі, сваімі, «дзеравенскімі».

Вось чаму ў народзе столькі назваў, столькі метак на адзін і той жа прадмет, на адну і тую ж з'яву, падзею.

Разгамоняцца дзядзька ці цётка, хлопец ці дзяўчына — зачаруе, заварожыць непасрэдная, жывая народная гаворка. Слухаеш і міжволі здзіўляешся: якая ж багатая ты, родная мова, якая рухомая, дынамічная, яркая! «Што хутарок — то гаварок, што сяльцо — то слаўцо»,— так сцвярджае вядомая беларуская прымаўка. Пераканацца ў гэтым зусім няцяжка.

Заехаў я неяк у адну глыбінную вёску пад назвай Голубаўка. Патрэбна было сустрэцца і пагаварыць з брыгадзірам паляводчай брыгады. У канторы калгаса яго не было, на брыгадным двары таксама не было. У каго ні пытаўся — ніхто з калгаснікаў не ведаў, дзе ён мог дзецца, куды падацца. І адзін з іх, дзядзька сярэдніх гадоў, ні то жартам, ні то ўсур'ёз сказаў:

— Брыгадзір пайшоў на скрут.

Я спачатку падумаў, што брыгадзір, які мне патрэбен, пайшоў на луг, дзе стаяць сцірты — але ж сенакос закончыўся. Мо ён дзе-небудзь ля камбайнаў — якраз была ўборка ўраджаю? Давялося запытацца ў дзядзькі, што значыць слова «скрут». Той адказаў:

— Брыгадзір пайшоў на скрут: ні дома, ні тут.

Стала зразумела, што брыгадзір кудысьці «скруціўся», сышоў ці з'ехаў, а куды — нікому нічога не сказаў. Ёміста, вобразна растлумачыў дзядзька. А што тут, здаецца, тлумачыць? Слова вельмі простае, звычайнае, вобразнае, бо народнае. Да таго ж яно і вель-

мі кароткае. Калі гаворыш яго, язык не «паламаеш». І рыфма адразу сама сабою напрошваецца: «скрут» — «тут». Атрымалася своеасаблівая прымаўка, даволі дасціпная, па-мастацку завершаная, з мяккім гумарком, з хітрынкай.

Аднойчы надарылася мне ехаць на дрыгунку (так называюць невялікія старэнькія аўтобусы) у адзін аддалены саўгас. Дрыгунок! Выдумалі ж гэтак. І нездарма. Ехаць сапраўды было дужа дрогка. Аўтобус падкідвала на выбоінах, трэсла на каляінах, брынчэла ў вокнах шкло. Словам, ехаў на дрыгунку. Лепш не скажаш. Пасажыры, вясковыя дзядзькі і цёткі, хлопцы і дзяўчаты, ладзілі вясёлую гаману, бо ўсе адзін другога ведалі, «як аблупленага» або «абсмаленага».

Гаварылі два ўжо немаладыя аднавяскоўцы, рабочыя саўгаса. Першы паглядаў на вялікі жоўты чамадан, што вёз другі, і раптоўна запытаў:

— Ну, а ты, Мікіта, чым такім дужа харошым свой рундук напхаў?

— Тут усе жончыны прошвы,— быў адказ.

А вось яшчэ:

— Харошы мой зяць, залатыя рукі ў яго, ды бяда, што алкаголец,— скардзілася бабуля суседцы.

— Ох, братка ты мой, палабавозіў дык палабавозіў я ўчора ля свайго трактара.

— Лаўды табе, калі ўсе дзеці апуціліся,— зайздросціла кабета кабеце.

— А я ў Бялынічах падмаладзіўся...

— Добрая сечка яе нявестка...

— Блузу на адну капейку верыць не трэба...

— Пажыў у горадзе два дні, дык ужо і вабражае...

Усё гэта рэплікі з размоў пасажыраў дрыгунка. Слоў, якія сустракаюцца ў гэтых рэпліках, ні ў адным слоўніку вы не знойдзеце, нават падобных слоў з такім значэннем няма. *Рундук* — вялікі чамадан, *прошвы* — просьбы што-небудзь купіць, прыдбаць, *алкаголец* — п'яніца, *палабавозіў* — добра папрацаваў, *лаўды* — добра, лацвей, *падмаладзіўся* — падстрыгся, пагаліўся, *сечка* — злая на язык, сварлівая кабета, *блуз* — манюка, балбатун, *вабражаць* — фарсіць, задавацца.

Трасецца, ляскоча дрыгунок па вясковай дарозе. Гамоніць, жартуе да ўсяго звыклы вясковы люд. Зляталюць словы, дасціпныя заўвагі, яркія моўныя метафа-

ры-вобразы... Колькі іх, важкіх, бясцэнных залатых зліткаў народнай моватворчасці! Імі аздоблена народная мова. Яны надаюць ёй гнуткасць, рухомасць, тонкасць, далікатнасць, каларыт, трапнасць, бляск.

Іншы раз адно слова замяняе цэлы сказ, стварае закончаную разгорнутую думку, дае чалавеку своеасаблівую характарыстыку, узносіць яго або карае, развенчвае. Каму, скажам, з маіх землякоў прыемна пачуць пра сябе, што ён *маталыга?* Гэта значыць, што ён дзялок, круцель, прахвост, прайдзісвет, што яго не паважаюць. А *бязула* ці *бязуліна?* (Няўмека, лайдак, недарэка; няўдаліца, лайдачка).

І кожнае слова — гэта своеасаблівы помнік, помнік гісторыі і культуры. А гісторыя — у кожным слове. Вось, напрыклад, слова *курдопа.* Я пачуў яго ад старэнькай бабулі, маці настаўніка, больш дакладней, дырэктара школы. Бульбу называў ён як усе бульбай, толькі не курдопай. Вядома, можна пачуць у нас і такое: *бульбіна ў бульбіну картошка вырасла.* Але ж адкуль узялася *курдопа?*

Бабуля малапісьменная, нарадзілася недзе ў вёсцы каля гарадскога пасёлка Дрыбін, што на Магілёўшчыне. Там бульбу называлі *курдопай.* Слова гэтае ўжо ў бабулінай крыві. Шмат гадоў як пераехала яна жыць да сына ў Бялыніцкі раён і разам са сваімі хатулькамі-клункамі прывезла і *курдопу.* Для яе мала бяды, што гаворыць непісьменна, «па-дзеравенску», галоўнае — абы лёгка гаварылася. Абы лёгка гаварылася... Пэўна, такі закон моватворчасці.

Добрапісьменных вясковых людзей у яе гадах не надта многа і засталося. Але ж бабуліна слова — добрае сведчанне, што культура і навука ў яе маладыя гады і ў яе вёсцы ля Дрыбіна былі на такім жа ўзроўні, як і ў той, дзе нарадзілася і жыла мая маці. Запісаў я бабуліна слова, забраў яго ў старой, як рэлікмю, як знаходку. Яна нават і не заўважыла гэтага.

У кожным слове ёсць нешта таямнічае, цікавае. Слова вядзе нас у далёкае мінулае, у глыбіню вякоў, дапамагае разумець час. У слове бачыцца жывы чалавек, яго душа, яго характар, думкі, мары, захапленні, занятак, яго радасці і няўдачы, пякучы боль і адчай.

Самабытнае народнае слова — гэта вялікі скарб, дарагі наш набытак. Няважна, што тое ці іншае слова бытуе толькі ў пэўнай мясцовасці, магчыма, нават у адной або некалькіх вёсках, няважна, будуць ці не ка-

рыстацца ім вучні і настаўнікі, журналісты і пісьменнікі. У практычнай рабоце ніхто не карыстаецца, напрыклад, біўнямі маманта ці рагамі дзікага тура, а ляжаць жа яны ў музеях, здзіўляюць, хвалююць людзей, вяртаючы нас у мінулае. Хочацца, каб і народнае слова не гублялася — карыстаюцца ім людзі ці ўжо адкарысталіся.

У гэтым слоўніку іх сабрана каля дзвюх тысяч. Размешчаны яны ў алфавітным парадку, да кожнага слова даецца тлумачэнне, прыводзяцца прыклады з жывой народнай мовы жыхароў Бялыніцкага раёна ў фанетычнай транскрыпцыі (як чую, так і пішу).

Маці казала так... Чытайце, калі ласка.

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

Абразл.— абразліва; асудж.— асуджальна; бат. — батаніка; безасаб. — безасабова; выкл. — выклічнік; груб.— грубае; гум.— гумарыстычнае; дзеепрым.— дзеепрыметнік; дзіц.— дзіцячае; жарг.— жаргоннае; жарт.— жартоўнае; займ.— займеннік; злучн. — злучнік; зак.— закончанае трыванне дзеяслова; зал.-бессуб'ект.— залежна-бессуб'ектны; зб.—зборны; зняваж.—зняважлівае; іран.— іранічнае; інф.—інфінітыў; каго-н.— каго-небудзь; канц.— канцылярызм; ласк.— ласкальная форма; лаян.— лаянкавае; м.— мужчынскі род; мн.— множны лік; неадабр.— неадабральна; незак.— незакончанае трыванне; н.— ніякі род; павеліч.— павелічальна; пагардж.— пагарджальнае; перан.— пераносна; памянш.— памяншальнае; прым.— прыметнік; прысл.— прыслоўе; с.-г.— сельскагаспадарчае; часц.— часціца; толькі мн.— толькі множны лік; узмацн. — узмацняльны; што-н.— што-небудзь.

# А

АБАРМО'Т і АБАРМО'ЦІНА *м.* Неахайны чалавек, лайдак. *Вечна ён абармотым ходзя. Хоць ногі абатры, абармоціна.*

АБАЦЕ'РЦІСЯ *зак.* Выцерціся. *Вазьмі рушнік і абацярыся.*

АБАЦЁРТЫ *дзеепрым.* Выцерты. *Вокны ўжо абацёртыя.*

АБВЯРНУ'ЦЦА *зак.* Перакуліцца. *Ня едзь пы кысагору, абвернісься сы сваім возым.*

АБВЯРНУ'ЦЬ *зак.* 1. Перакуліць. *Пымажы-ка, браток, воз абвярнуць.* 2. Абгарнуць. *Абвярні маю рыбу ў газету.* 3. Аб'ехаць. *Трэба гэту лужу неік абвярнуць.*

АБГАЙДАМА'ШАНЫ (абгыйдымашыны) *дзеепрым.* Абтрэсена (пра дрэва), абабраны (пра чалавека). *І антоныўка ўжо абгыйдымашыныя.*

АБГАЙДАМА'ШЫВАЦЦА (абгыйдымашывыцца) *незак.* Марна растрачвацца, бяздумна распускаць грошы. *Штаноў добрых ні маіш, а так абгыйдымашывыісься.*

АБГАЙДАМА'ШЫЦЬ (абгыйдымашыць) *зак.* Абтрэсці, абабіць (пра пладовае дрэва, кусты), абабраць, абчысціць да ніткі (пра чалавека). *Увесь сад за ноч абгыйдымашылі, а хто — ня ведыю.*

АБДЗЕ'НЬ *прысл.* За дзень. *Мы скасілі абдзень тэй лужок. Я абдзень у Мінск зыхадзіў.*

АБЕ'ДДЗЕ (абедзьдзя) *н.* Поўдзень. *Пакуль я тоя ды пакуль сёя, гляджу — абедзьдзя ўжо.*

АБЕ'ДКІ *толькі мн.* Полудзень. *Толькі прышлі і за абедкі прыняліся, шчэ і ні работылі.*

АБІ'ЦІК *м.* Гліняны збанок з адбітым горлам. *Я там табе мылако ў абіціку пыставіла.*

АБКАЛГА'НЕНЫ (абкылганіны) *дзеепрым., жарт.* Абстрыжаны абы-як. *Я ўжо абкылганіны, зыхадзі ты.*

АБКАЛГА'НІЦЦА (апкылганіцца) *зак., жарт.* Абстрыгчыся, падстрыгчыся. *У каго б гэта сабе апкылганіцца?*

АБКАЛГА'НІЦЬ (апкылганіць) *зак., жарт.* Абстрыгчы, падстрыгчы. *Дывай я цябе апкылганю.*

АБКАПЫ'ЛЕНЫ (апкапыліны) *дзеепрым.* Абкапаны, апрацаваны капаніцай. *Мыя бульба ўжо даўно апкапыліна.*

АБКАПЫЛІЦЬ (апкыпыліць) *зак.* Абкапаць, апрацаваць капаніцай. *Ніяк ні зьбяруся бульбу апкыпыліць, усё некылі.*

АБКАПЫЛЬВАННЕ (апкапылівыньня) *н.* Абкопванне, апрацоўка капаніцай. *Апкапылівыньня трэба будзя на бульбі зьдзелыць.*

АБКАПЫЛЯ'ЦЬ (апкыпыляць) *незак.* Абкопваць, апрацоўваць капаніцай. *Два дні бульбу апкыпыляю.*

АБЛАПЭШАНЫ (аблапэшыны) *дзеепрым.* Лоўка і непрыкметна ачышчаны. *Гляджу, а ў мяне кырманы аблапэшыны і пыпірос німа.*

АБЛАПЭ'ШВАННЕ (аблапэшваньня) *н.* Абкраданне. *Я ніколі ні зынімаўся аблапэшывыньнім.*

АБЛАПЭ'ШЫЦЦА *зак.* Абдзяліць сябе. *Я ўжо набіў руку, ніколі ні аблапэшуся.*

АБЛАПЭ'ШЫЦЬ *зак.* Лоўка абкрасці, абабраць. *Прыду ноччы, усе твае ігрушы аблапэшу.*

АБЛА'ХАЦЬ (аблахыць) *зак.* Абхадзіць, абшукаць. *Увесь лес аблахыіш, а грыба ні знайдзіш.*

АБЛІВА'КА *ж.* Галалёд. *І золка на вуліцы, і сьліска — аблівака.*

АБЛЕ'ЗЛІК (аблезьлік) *м., абразл.* Недаліслік. *Ад аблезьлікаў у садзе спасу (ратунку) німа.*

АБЛЫ'БАЦЬ (аблыбыць) *зак.* Пазбіваць касою буйную расліннасць. *Пайду быльнік аблыбыю ля плоту.*

АБМА'ШКА *ж.* Пралік. *Гэта я абмашку зьдзелыў, што ні паехыў разым з табой.*

АБМАХНУ'ЦЦА *зак.* 1. Памыліцца. *Ня можа быць, каб я мог тута абмахнуцца.* 2. Прамахнуцца. *Абмахнуўся і пыпаў палкый прама ў вакно.*

АБМАХНУ'ЦЬ *зак.* 1. Абдурыць, абмахляваць. *Другі раз скулу ты мяне абмахнеш.* 2. Абысці, аб'ехаць кругом. *Прыдзіцца нам гэта балота абмахнуць.*

АБМЫ'ЛКА *ж.* Прамашка. *Тут, хлопцы, нешта ня тоя, абмылка, відаць.*

АБМЫЛІ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Хто нічога ня дзелыя, тэй і ні абмыліцца.*

АБУ'ВА *ж.* Абутак. *У нашым мыгазіні дужа лоўкая абува.*

АБРО'БА *ж.* Упрыгожванне будынка. *Няма тутака дзярэўні, каб ён ня зьдзелыў абробы хоць адной хаты.*

АБШЧЫГІЛЯ'ЦЬ (апшчыгіляць) *зак.* Пераўзысці, перагнаць. *Гэтыя модніцы так і глідзяць, каб апшчыгіляць адна другую. Я цябе і ны старым трактары апшчыгіляю.*

АБШЧАПІ'ЦЦА (апшчапіцца) *ж., зак.* Абняцца. *А ты, бывала, апшчэпісься з бацькым і сьпіш.*

АБШЧАПІ'ЦЬ (апшчапіць) *зак.* Абняць. *Нады ж так апшчапіць бацьку, што ні атырваць.*

АБШЧАПЛЯ'ЦЦА (апшчыпляцца) *незак.* Абдымацца. *Ты ўжо соты раз са мной апшчыпляісься.*

АБШЧАПЛЯ'ЦЬ (апшчыпляць) *незак.* Абдымаць. *Колькі разоў ты мяне апшчыпляць будзіш, ныдаела.*

АБШЧЭ'ПКІ (апшчэпкі) *толькі мн.* Абдымкі. *Абрыдзілі мне твае апшчэпкі.*

АВАР'Я'НА (авір'яна) *ж.* Валяр'яна. *У апцеку схадзіла, авір'яны купіла.*

АВАР'Я'НАЎКА (авір'янаўка) *ж.* Валяр'яна. *Авір'яныўка ат сэрца хырашо пымыгая.*

АВАР'Я'НКА (авір'янка) *ж.* Валяр'яна. *Была ў мяне авір'янка: ды ні знаю, дзе дзелыся.*

АДАРО'БАК (адаробык) *м.* Старая рэч. *У цябе ня нож, а адаробык. Павеліч.* Адаробіна, *ж.*

АДАРО'БАЧНЫ (адаробычны) *прым.* Устарэлы. *Твыя машына адаробычныя.*

АДДА'ТНА *прысл.* Узаемна. *Які прывет, такі і атвет — усё аддатна.*

АДВІЛЬГЕ'ПАЦЬ (атвільгепыць) *зак., неадабр.* Адрэзаць вялікі кавалак. *Ого, колькі ты сала ў мяне атвільгепыў!*

АДВІЛЬГЕ'ПАНЫ (атвільгепыны) *дзеепрым., неадабр.* Адрэзаны. *І аьцюль, і аттуль добры кус атвільгепыны.*

АДГАЙДАМА'ШАНЫ (адгыйдымашыны) *дзеепрым.* Адлупцаваны моцна. *Ён ужо ні раз быў адгыйдымашыны зы свае прыдзелкі.*

АДГАЙДАМА'ШЫЦЬ (адгыйдымашыць) *зак.* Моцна пабіць. *Адгыйдымашу разы сы два, дык будзя як мілінькі.*

АДГМУЗДА'НЫ *дзеепрым.* Раскілзаны. *Конь быў адгмузданы, дык як панёс мяне, чуць уседзіў.*

АДГМУЗДА'ЦЦА *зак.* 1. Раскілзацца. *Цяпера табе,*

*мой конік, ні адгмуздацца.* 2. *Перан.* Пазбегнуць чаго-н., пазбыцца. *Ён і ат сьмерці адгмуздаіцца.*

АДГМУЗДА'ЦЬ *зак.* 1. Раскілзаць. *Каня адгмуздаць?* 2. *Перан.* Пабіць, адлупцаваць. *Дыбяруся калінебуць: адгмуздаю, што ні раз будзіш помніць.*

АДГМУ'ЗДЫВАЦЦА (адгмуздывыцца) *незак.* Раскілзвацца. *Ты хырашэнька за ім ныглідай, а то гэты конь умея адгмуздывыцца.*

АДГМУ'ЗДЫВАЦЬ (адгмуздывыць) *незак.* Раскілзваць. *Я буду свайго кыня адгмуздывыць.*

АДДУДУ'РЫНЫ *дзеепрым.* Адтапыраны, адстаўлены. *У цябе ўсе кырманы аддудурыны, што ў іх тамыка?*

АДДУДУ'РЫЦЦА *зак.* Адтапырыцца, адставіцца. *Сарочка рыспліккнецца, каўнер аддудурыцца, а яму — хоць бы хны.*

АДДУДУ'РЫЦЬ *зак.* Выставіць уперад. *Аддудурыць свой жывот, што ў кыбана, і ходзя па вуліцы днямі.*

АДКАЛАШМА'ЦІЦЬ (аткылышмаціць) *зак.* Адлупцаваць. *Аткылышмаціў раз, аткылышмачу і другі раз.*

АДКАЛАШМА'ЧАНЫ (аткылышмачыны) *дзеепрым.* Адлупцаваны. *Відна, што аткылышмачыны: вочы апусьціў.*

АДКРАМСА'ЦЬ (аткрымсаць) *зак.* Адцяць добры кавалак. *Аткрымсаў кусок мяса ні жалеючы.*

АДКУ'ЛІКА і АДКУ'ЛІКІ (аткуліка і аткулікі) *прысл.* Адкуль. *Аткуліка ў цябе такоя плацьця? Аткулікі ты ўзяўся?*

АДКУ'ЛІЦЬКА і АДКУ'ЛІЦЬКІ (аткуліцька і аткуліцькі) *прысл.* Адкуль. *Аткуліцька твой жынішок? Аткуліцькі ў цябе стольки грошы?*

АДКУ'ЛЯ (аткуля) *прысл.* Адкуль. *Аткуля ты родым будзіш?*

АДЛАПЭ'ШЫЦЬ (атлапэшыць) *зак.* Адлупцаваць. *Атлапэшу пы вушах, дык рузумнейшым будзя.*

АДПЛО'Т (атплот) *м.* Адплата. *Атплот посьлі будзя.*

АДО'ННЕ (адоньня) *н.* Тое, што застаецца на дне, аб'едкі. *Нешта адоньня сяньня многа зысталося ў цэбры.*

АДРО'СТАК (атростык) *м.* 1. Парастак. *Абрэж атросткі, ато яны мішаюць усяму дзерыву.* 2. Чалавек з радні. *Міхасёў атростык любіў хадзіць на рыбу.*

АДСТРАПАЛЕНЫ (атстрыпалёны) *дзеепрым.* Цудоўна зроблены. *Глядзі, як стулік атстрыпалёны.*

АДСТРАПАЛІ'ЦЬ (атстрыпаліць) *зак.* Адмыслова зрабіць якую-н. рэч. *Ну і атстрыпаліў, хоць на выстаўку вязі.*

АДСЮ'ЛЕКА і АДСЮ'ЛЕКІ (ацьсюліка і ацьсюлікі) *прысл.* Адсюль. *Ацьсюліка ды Бялыніч каля дваццаці кіламітраў. Ацьсюлікі ні так далёка, калі ціраз лес іці.*

АДСЮ'ЛЕЦЬКА і АДСЮ'ЛЕЦЬКІ (ацьсюліцька і ацьсюліцькі) *прысл.* Адсюль. *Ат нас ацьсюліцька цяжка дызваніцца. Ацьсюліцькі нічогачка ня відна.*

АДТАЧЫ'ЦЦА (аттачыцца) *зак.* Адкарміцца, паправіцца. *Кот за лета аттачыўся, дык аж блішчыць.*

АДТАЧЫ'ЦЬ (аттачыць) *зак.* 1. Навастрыць. *Калі гэты тапор аттачыць, дык будзя сеч ня хужы за новыга.* 2. *Перан.* З'есці, спажыць частку чаго-н. *Ні глядзі, што малы, а паўбулкі хлеба аттачыў.*

АДТО'ЧАНЫ (атточыны) *дзеепрым.* 1. Навостраны. *Твыя піла атточына?* 2. *Перан.* Сыты, спраўны. *Атточыны, як кот ны сьмітані.*

АДХА'ІЦЦА (атхаіцца) *зак.* Выздаравець. *Пыляжыць у бальніцы — атхаіцца.*

АДХА'ІЦЬ (атхаіць) *зак.* Паздаравець. *Ён жа чуць чапыў, а цяпер атхаіў.*

АДХА'ЙВАЦЦА (атхайвыцца) *незак.* Папраўляцца; набірацца сіл. *Ну хваліся, як ты тут атхайвыісься.*

АДХА'ЙВАЦЬ (атхайвыць) *незак.* Набіраць сілу, папраўляцца. *Пымаленьку атхайвыю, весялею.*

АДХЛУ'П (атхлуп) *м.* Адпачынак, перадышка. *Адхлупу праз дзяцей німа; некылі і дыхнуць за імі.*

АДХЛУ'ПІЦЦА (атхлупіцца) *зак.* Аддыхацца, адпачыць, перадыхнуць. *Дай ты мне хоць атхлупіцца з дарогі.*

АДХЛУПІ'ЦЬ (атхлупіць) *зак.* Зрабіцца лягчэй. *Выпі чаю, можа трохі атхлупіць.*

АДХЛУПЛЯЦЬ (атхлупляць) *незак.* Зрабіцца лягчэй. *У грудзях ужо атхлупляе, ато дыхнуць цяжка было.*

АДХЛЫ'Н (атхлын) *м., незак.* Перадышка, перапынак. *Увосінь ат работы атхлыну німа.*

АДХУ'КАЦЬ (атхукыць) *зак.* Адагрэць дыханнем. *Вокны мароз зымарозіў, нічога ня відна, дык Валодзька атхукыў, анціпэсна яму.*

АДЧАМАЛУ'ДЗІЦЬ (атчымалудзіць) *зак.* 1. Сказаць недарэчнае. *Ты як атчымалудзіш што, дык аж кісла слухыць.* 2. Выдумаць смешнае. *Як атчымалудзіць што, дык ад сьмеху ўсе падыюць.*

АДЧАЮ′ГА (аччаюга) *м.* Вялікі смяльчак. *Аччаюга Гырасім: голый рукой тхыра ўзяў.*

АЖНЫ *злучн.* Аж. *Стукнуўся аб лёд, ажны іскры з воч пасыпыліся.*

АЗАДА′ЧАНЫ (азыдачыны) *дзеепрым.* Задуменны, заклапочаны. *Чым ён азыдачыны, што сядзіць маўчком?*

АЗАДА′ЧВАЦЦА (азыдачывыцца) *незак.* Задумвацца, заклапочвацца. *Ці азыдачывыісься ты, аткуля ўсё гэта бярэцца?*

АЗАДА′ЧВАЦЬ (азыдачывыць) *незак.* Ставіць задачу. *Што ты нас азыдачывыіш, зьдзелый сам.*

АЗАДА′ЧЫЦЦА (азыдачыцца) *зак.* Паставіць перад сабой мэту. *Калі азыдачуся зрубіць хату, то і зрублю.*

АЗАДА′ЧЫЦЬ (азыдачыць) *зак.* Паставіць задачу. *Я вас азыдачу, а сам схаджу ў праўленьня.*

АЗЕ′ЛЕНЫ (азеліны) *дзеепрым.* 1. Затлумлены. *Я азеліны ат вашыга крыку.* 2. П'яны. *Ён чуць ня кожны дзень азеліны бывая.*

АЗЯЛІЦЦА *зак.* 1. Затлуміцца. *Азяліўся я на схоцці ат шуму.* 2. Напіцца гарэлкі. *Калі ты пасьпеў азяліцца так?*

АЗЯЛІ′ЦЬ *зак.* 1. Затлуміць. *Азеліш ты мне гылаву кожны раз, дык работа з рук валіцца.* 2. Ап'яніць. *Ён знойдзя чым мазгі азяліць.*

АКАЖАНЕ′ННЕ (акыжаненьня) *н.* Раўнадушнасць, бюракратычнасць. *У яго акыжаненьня першай ступені, хоць у лоб стрыляй, дык вокым ні міргне.*

АКАЖАНЕ′ЛЫ (акыжанелы) *прым.* Раўнадушны, чэрствы, абыякавы. *Я ад гэтай работы акыжанелым стаў.*

АКАЖАНЕ′ЦЬ (акыжанець) *зак.* Зачарствець, зрабіцца раўнадушным. *Пы няволі ны адным месьці акыжанеіш.*

АКАПА′НЫ (акыпаны) *дзеепрым.* 1. Абкапаны. *Мая бульба ўжо акыпаная.* 2. *Перан.* Заможны. *Нічога дужа ў яго ні было, а цяпер глядзі: які акыпаны.*

АКАПА′ЦЦА (акыпацца) *зак., перан.* Разбагацець. *Пымаленьку акыпаісься і будзіш жыць.*

АКАПА′ЦЬ (акыпаць) *зак.* 1. Абкапаць. 2. Уладкаваць каля сябе. *І матку трэба неік акыпаць, чаго яна будзя адна.*

АКА′ПВАЦЦА (акапывыцца) *незак.* 1. Абкапвацца. 2. *Перан.* Разжывацца. *Будзім акапывыцца як-небудзь, жыць жа трэба.*

АКА'ПВАЦЬ (акапываць) *незак.* 1. Абкопваць. 2. *Перан.* Дапамагаць абжывацца. *І сам жыву, і матку патроху акапываю.*

АКРЫЯ'ННЕ (акрыяньня) *н.* 1. Выздараўленне. *Ніякыга акрыяньня ад сваёй зныхаркі ня жджы.* 2. Паляпшэнне дабрабыту. *У нас ужо такоя-сякоя акрыяньня: цілівізыр купілі нідаўна.*

АКРЫЯ'ЛЫ *дзеепрым.* 1. Адходжаны. *Ён поўнасцю акрыялы ўжо.* 2. *Перан.* Заможны. *Ня хоча к маццы і вочы пыкызаць, былазе, акрыялы.*

АКРЫЯ'ЦЦА *зак.* 1. Набрацца сіл. *Дай мне троху акрыяцца, тады мы з табой усюдых паходзім.* 2. Разжыцца, разбагацець. *Акрыяцца посьлі вайны ні так лёгка было.*

АКРЫЯ'ЦЬ *зак.* 1. Паздаравець, набрацца сіл. *Дык ці скора ты акрыяіш?* 2. Забагацець. *Акрыяю трохі, тады і вам чым магу пымагу.*

АКУРАЦІ'СТ *м., часам іран.* Акуратны чалавек. *Акураціст наш Грышка — пад'еў і прыбраў за сабой. Пыглядзі ны сваё штаны, акураціст.*

АКУРАЦІ'СТКА *ж., часам іран.* Акуратная жанчына. *А дочкі ў яе акураціскі, што ні кажы. Акураціска, што сірыда з-пыд пятніцы відаць.*

АЛКАГО'ЛЕЦ (алкаголіц) *м.* П'яніца. *Зылатыя рукі ў чылавека, ды біда, што гарэлку п'е, алкаголіц.*

АЛЬНЯНЫ' *прым.* Ільняны. *Як ні хаці, ды альніная адзежа цяплейшыя.*

А'МБА *ж., жарг.* Каюк, канец. *Як дам, дык і амба табе будзя.*

АМБЕ'Ц *м., жарг.* Каюк, канец. *Тут ні адзін хвашыст амбец стрэў.*

АМЯ'ГНУЦЬ *зак.* Асмягнуць. *Амягніш, дык рэчка нідалёка, хоць рысьпіражыся вады тама.*

АНЦІРАСАВА'ЦЦА (анцірысувацца) *незак.* Цікавіцца. *Дужа ён машынымі анцірысуіцца. Дзеўкі анцірысуваліся, ці пычыніў ты свой гармонік.*

АНЦІРАСАВА'ЦЬ (анцірысуваць) *незак.* Цікавіць. *Мяне анцірысуя, дзе ты быў цэлую ноч? Яго рыбалка анцірысуя.*

АНЦІРЭ'С *м.* 1. Цікавасць. *Німа мне ніякага анцірэсу хадзіць зы табой пы пятых.* 2. Прыгажосць. *Так хыраша стала на вуліцы — проста анцірэс.*

АНЦІРЭ'СНЫ *прым.* 1. Прыгожы, цікавы, прываблівы. *Анцірэсныя будзя наша вуліца.* 2. Дзіўны. *Анцірэсны ты чылавек, што табе ат мяне трэба?*

АНЯМЕ'ННЕ (аняменьня) *н.* 1. Непрытомнасць. *Цэлы дзень ліжаў у бальніцы ў аняменьні.* 2. Немата, страта голасу. *Пры сваё заслугі ён гатоў ды аняменьня крычаць.* 3. Цішыня. *У лесі поўныя аняменьня зімой.*

АНЯМЕ'ЛА *прысл.* 1. Беспрытомна. *Ліжаў анямела.* 2. Ціха. *Усюды анямела.*

АНЯМЕ'ЛЫ *дзеепрым.* 1. Беспрытомны. *Яго ў лесі анямелыга знайшлі.* 2. Нямы. *Маўчыць як анямелы, ці языка ў яго німа?* 3. Ціхі, маўклівы. *І лес, і луг анямелыя: нідзе птушкі ні пачуіш.*

АНЯМЕ'ЦЬ *зак.* 1. Страціць прытомнасць. *Як дам пы гылаве, дык зразу анямеіш.* 2. Страціць мову. *Гукала я іх, гукала, а яны як анямелі, ні адгукаюцца.*

АПАСТЫ'ЛІВАННЕ (апастыліваньня) *н.* Дакука. *Зь ім дзень пысядзець, дык апастылівыньня на цэлы месіц, ой, нудны чылавек.*

АПАСТЫ'ЛІВАЦЦА (апастылівыцца) *незак.* Надакучваць, ходзячы з просьбамі. *Навошта мне зь ім апастылівыцца, усё роўна толку ні даб'есься.*

АПІВО'ША *м., жарг.* П'яніца. *Апівоша і без штаноў пойдзя, і ўсё яму хырашо.*

АПІ'РЫШЧА *н.* Кіёк. *Дзесіць гадоў як пылымаў нагу, а ўсё з апірышчам ходзя.*

АПЛАВА'КА (аплывака) *м., зняваж.* Неахайны чалавек. *Ходзя па вуліцы як аплывака, хыця б штаны пірадзеў.*

АПО'КА *м.* і *ж., асудж.* Лайдак, лежабок. *Ажаніўся апока, узяў апочыну, тут і ўсё кончына. Павеліч.* Апочына.

АПО'ЧНА *прысл.* Па-гультайску. *Увесь век апочна ці прыжывеш?*

АПО'ЧНЫ *прым.* Гультайскі. *Кынчай сваё апочныя зымашкі.*

АПУПЕ'ННЕ (апупеньня) *н.* Вялікае затлумленне. *Нейкыя апупеньня ў маёй гылаве: ня ведыю, што куды дзяю.*

АПУПЕЦЬ *зак.* Здурнець, поўнасцю страціць развагу. *Пы няволі апупеіш, пакуль за кожным пабегыіш.*

АПУ'ЧАНЫ (апучыны) *дзеепрым.* 1. Уладкаваны. *Мыя і трэцьція дычка ўжо апучыныя.* 2. *Перан.* Жанаты. *Ці ты апучыны, ці шчэ не, шукаў бы сабе якую.*

АПУЧВАННЕ (апучываньня) *н.* 1. Уладкоўванне. *Пайшоў — ды работый, якоя табе шчэ апучываньня трэба?* 2. *Перан.* Жаніцьба. *Біз апучываньня як ты будзіш жыць адзін?*

АПУ'ЧВАЦЦА (апучывыцца) *незак.* 1. Уладкоўвацца. *А куды ты апучывыцца думыіш?* 2. *Перан.* Жаніцца. *Ці скора ты апучывыцца ўжо будзіш, хоць бы на вясельля пызвай.*

АПУ'ЧВАЦЬ (апучывыць) *незак.* 1. Уладкоўваць. *Я чуў, што ты дачку ў бальніцу ны работу апучывыіш.* 2. *Перан.* Жаніць. *Буду сына ў нядзелю апучывыць.*

АПУЦІЦЦА *зак.* 1. Уладкавацца. *І ты посьлі школы куды-небудзь апуцісься.* 2. *Перан.* Ажаніцца. *Трэба ўжо і мне апуціцца.*

АПУЦІЦЬ *зак.* 1. Уладкаваць. *Куды цябе апуціць— ня ведыю.* 2. *Перан.* Ажаніць. *Калі ты ўжо сына апуціш?*

АРА'ВА *ж.* Мноства. *Навошта яму каго прасіць, калі ў яго радні цэлыя арава. Цэлыя арава гусей у Хырытоніхі.*

АРА'ВІЯ *ж.* Мноства. *Трэба ж прыкарміць такую аравію.*

АРУДАВАННЕ (арудываньня) *н.* Буянства, пагром, разбой. *І пычалі немцы тут арудываньня сваё.*

АРУ'ДАВАЦЬ (арудывыць) *незак.* Разбойнічаць, буяніць. *Ты кынчай арудывыць, а то міліцыю вызыву быстра.*

АРЭ'ДАЛА (арэдыла) *н.* 1. Беспарадак. *А ў хаці ў яе цэлыя арэдыла.* 2. Нагрувашчванне. *Такоя арэдыла ны складзі, што ні разьбярэсься.*

АСКАЛЁПАК (аскалёпык) *м.* Тоўстая трэска. *Пызьбірай гэтыя аскалёпкі ў грудок, зімой зныдыбяцца.*

АСКАЛЯПІЦЬ *зак.* Ударыць. *Як аскыляплю пы патыліцы, дык ты аж пакоцісься.*

АСПЯ'ТАК (асьпятык) *м.* Выспятак. *Схопіш асьпятка і пойдзіш за дзьверы.*

АСТАЛО'П *м., асудж.* Дурань. *Гэта такі асталоп, што сьвет ні сьвяціў, дзяўбі яму ў гылаву, ці ні дзяўбі — адзін чорт. Павеліч.* Асталопіна. *Вочы вылупіў як асталопіна.*

АТАРВІ'ЛА *м., зняваж.* Хапуга. *Калі ні так што дзе ляжыць, дык ён прыбярэ к рукам, яшчэ тэй атарвіла.*

АТО'РВА *м.* і *ж.* Лайдак, гультай, лежабок; лайдачка, гультайка, лежабочка. *Яна сыма сабе міску ляніцца памыць — тыкая аторва. Павеліч.* Аторвіна. *Паліц аб паліц ні ўдарыць, аторвіна.*

АТРА'ХА *м.* і *ж., зняваж.* Неакуратны чалавек, неахайная жанчына. *Хоць касмылі прычашы, а то і ны*

*вічарынку атрахый пойдзіш. Павеліч.* Атрахіня. *Атрахіня, пыглядзі ў зеркыла, якая ты?*

АХАЛАДЗІ'ЦЦА (ахыладзіцца) *зак., перан.* Супакоіцца. *Зывяду ў міліцыю, дык там быстра ахыладзісься.*

АХАЛАДЗІ'ЦЬ (ахыладзіць) *зак.* 1. Ахаладзіць. *Ахыладзі мылако, а то яно толькі што з печы, гырачае дужа.* 2. *Перан.* Супакоіць. *Дужа ні гырачыся, я і ахыладзіць магу.*

АХАЛО'ДЖВАЦЬ (ахалоджывыць) *незак.* 1. Пускаць холад. *Навошта лазню ахалоджывыіш?* 2. *Перан.* Супакойваць. *Калі яго ні ахалодзіш, дык ён ны гылаве станя.*

АХРА'ПКА *ж.* Храпка. *Ахрапкі ніхай карова паесь.*

АХЭ'ЛІК *м.* Кухталь. *Як ныдывалі ахілікыў, дык куды толькі яго гоныр дзеўся.*

АЧАЛАВЕ'ЧАНЫ (ачылавечыны) *дзеепрым., перан.* Жанаты. *Хведзя ўжо ачылавечыны, Анюту Хадоркіну ўзяў.*

АЧАЛАВЕ'ЧЫЦЦА (ачылавечыцца) *зак., перан.* Ажаніцца. *Трэба і табе ачылавечыцца, чаго ты будзіш хадзіць адзін?*

АЧАЛАВЕ'ЧЫЦЬ (ачылавечыць) *зак., перан.* Ажаніць. *Калі ты сына ачылавечыш?*

АЧАЛАВЕ'ЧВАЦЦА (ачылавечывыцца) *незак., перан.* Жаніцца. *Што, і ты ачылавечысься?*

АЧАЛАВЕ'ЧВАЦЬ (ачылавечывыць) *зак., перан.* Жаніць. *Трэба ачылавечывыць хлопца, пывяду ў сваты ў сыботу.*

АЧМУ'РВАННЕ (ачмурывыньня) *н.* Дурман, падман. *Ніякыя яна ня лекырка, ачмурываньнім зынімаіцца і болі нічога.*

АЧМУ'РВАЦЦА (ачмурывыцца) *незак.* Абдурвацца, памыляцца. *Каб ні ачмурывыцца, трэба гылавой хырашэнька падумаць.*

АЧМУ'РВАЦЬ (ачмурывыць) *незак.* Абдурваць, падманьваць. *Што вы мяне ачмурывыіця, я ўсё ведыю. Ці я ачмурывыю, ці што?*

АЧМУРЭ'ЛА *прысл.* Млосна, дрэнна. *Посьлі ўчырашніга ў гылаве ачмурэла.*

АЧМУРЭ'ЛЫ *прым., зняваж.* Дурны. *Носіцца пы двару як ачмурэлы.*

АЧМУРЭ'ННЕ (ачмурэньня) *н.* 1. Дурман. *Ніяк ды ладу ні дайду, нейкыя ачмурэньня ў гылаве.* 2. *Вар'яцтва. Дайшоў ды ачмурэньня.*

АЧМУРЭ'ЦЬ *зак.* Звар'яцець. *Ачмурэіш, калі ў такім дымі пысядзіш.*

АЧХНА'ННЕ (ачхнаньня) *н.* Месца знаходжання. *Яго цяперышніга ачхнаньня ніхто ня ведыя.*

АЧХНА'ЦЦА *незак.* Апынацца. *Дзе ты ачхнаісься цэлы дзень галодны?*

АЧХНА'ЦЬ *незак.* Быць, знаходзіцца. *Я цяпер у Мугулёві ачхнаю.*

АЧХНУ'ЦЦА *зак.* Апынуцца. *Калі ўклею пугуўя, дык ні замеціш, як дома ачхнесься.*

АЧХНУ'ЦЬ *зак.* Трапіць, заехаць, зайсці. *Я заўтра ачхну аццюля зы пятсот кіломітраў.*

АЧЫ'ГРЫНЫ *дзеепрым.* Адходжаны. *Пыліжаў у бальніцы — глядзіш і ачыгрыны ўжо ходзя.*

АЧЫ'ГРЫЦЦА *зак.* Папраравіцца, паздаравець. *Пірыдыхне троху — ачыгрыцца.*

АЧЫ'ГРЫЦЬ *зак.* Папраравіцца. *Ачыгру, тады прыеду дамоў.*

АШАРА'ШВАННЕ (ашырашываньня) *н.* Здзіўляючая нечаканасць. *У кожным яго пісьме мне новыя ашырашываньні.*

АШАРА'ШЫНЫ (ашырашыны) *дзеепрым.* 1. Вельмі здзіўлены. *Я ашырашыны тваім прыездам.* 2. Ударaны. *Ашырашыны дубцом пы сьпіне.*

АШАРА'ШЫЦЦА (ашырашыцца) *зак.* Вельмі здзівіцца. *Я такі канцэрт зыдам, што ты ашырашысься.*

АШАРА'ШЫЦЬ (ашырашыць) *зак.* 1. Вельмі здзівіць. *Ёсць у мяне адна новысь, што я цябе ашырашу, калі рыскажу.* 2. Выпіць гарэлкі. *Дывай, ашырашу і я чарку.* 3. Ударыць. *Ашырашу пугый ціраз лоб, і ўспакоісься.*

АШЛА'ПІЦЦА *зак.* Абняцца. *Так ашлапіліся, што ні рызарвеш іх.*

АШЛА'ПІЦЬ *зак.* Абняць. *А я цябе ашлаплю і ні пушчу.*

АШЛА'ПКІ *толькі мн.* Абдымкі. *Узяліся ў ашлапкі і стыяць.*

АШЛАПЛЯ'ЦЦА (ашлыпляцца) *незак.* Абдымацца. *Чаго ты ашлыпляісься са мной?*

АШЛАПЛЯ'ЦЬ (ашлыпляць) *незак.* Абдымаць. *А я цябе і ні ашлыпляю.*

# Б

БАБУ'Х *выкл.* Пра раптоўнае дзеянне (падзенне ў ваду, уваходжанне ў хату і г. д.). *Ішоў па клацці, пыкаўзнуўся і — бабух у ваду. А ён ні з таго, ні з гэтыга — бабух сваё жыта ў маё. Я хацела спаць класьціся, а Пятрок — бабух у хату.*

БАБУ'ХАЦЦА (бабухыцца) *незак.* Падаць у ваду, звальвацца. *Цэлы дзень бабухыіцца ныраца зь берыга.*

БАБУ'ХАЦЬ (бабухыць) *незак.* 1. Празмерна наліваць або выліваць ваду, страву. *А навошта ты стольki многа вады ў буракі бабухыіш. Кожны раз ты бабухыіш мне стольki, што ўтрох не зьясі.* 2. Ісці па цяжкай снежнай дарозе. *Бабухыіш, бабухыіш пяшком, а ішчэ ці годзя іці.*

БАБУ'ХНУЦЦА *зак.* Зваліцца ці ўпасці. *Ня лезь на дуб, а то бабухніш і рызаб'еш гылаву. У вір бабухнуўся стырчма.*

БА'ВІЦЦА *незак.* 1. Затрымлівацца. *Нешта ён дужа многа бавіцца ў кузьні.* 2. Забаўляцца. *Дзеці ў садзі бавюцца.*

БА'ВІЦЬ *незак.* 1. Марнаваць час. *Навошта нам тут час бавіць?* 2. Забаўляць. *Пайду малых бавіць.*

БАГАТЫ'Р (быгатыр) *м., іран.* Багацей, заможнік. *Хваліцца, што ён быгатыр, а што ў яго дужа ёсць?*

БАДЗЯ'КА (быдзяка) *м.* Бадзяга. *Ці ні пыра за ўрокі брацца, быдзяка ты. Быдзяка, навошта табе жонка і дзеці?*

БА'ЙБУС *м.* Гультаяваты хлопец. *Ня хочаш вучыцца — хадзі байбусым, чорт цябе бяры.*

БА'ЙБУСНА *прысл.* Гультаявата, па-лайдацку. *Ты і ясі так байбусна, як і косіш?*

БА'ЙБУСНЫ *прым.* Гультаяваты. *Байбусныя мае дзеці, сьпешчаныя.*

БА'ЙСАННЕ (байсыньня) *н.* Глуплянне. *Гляджу — тыпыра німа, ныжа німа, дакуль гэта байсыньня цягнуцца будзя?*

БА'ЙСАЦЦА (байсыцца) *незак.* Губляцца, прападаць. *Увесь інструмент байсыіцца праз цябе.*

БА'ЙСАЦЬ *незак.* Раскідваць, губляць. *У мяне ўсё пыд павецьцю ляжыць, толькі ні байсый там нічога.*

БАЛАНДА' (быланда) *ж.* Страва, якая прыгатаваная нясмачна. *У цябе зварылыся ні крупеня, а быланда. Кожны раз ныварыш нейкай быланды.*

БАЛАБО'Н (былабон) *м.* 1. Звон у царкве. *Я сам*

*вазіў у царкву тэй былабон ны кані.* 2. *Перан.* Пустаслоў, балбатун. *Ні хачу гаварыць з былабоным.*

БАЛАБО'НКА (былабонка) *ж.* Балбатуха. *Дай ты чылавеку слова скызаць, былабонка.*

БАЛАБО'НСТВА (былабонства) *н.* Балбатня. *Кынчай сваё былабонства, усім яно ныдаела.*

БАЛАБО'НІЦЬ (былабоніць) *незак.* Гаварыць недарэчнае, балбатаць. *А я ні былабоню, а праўду кажу.*

БА'ЛДАВА (былдава) *ж.* Булава. *А була ў яго былдава ны дзьвінаццыць пудоў.*

БАЛДАВЕ'ШКА *ж.* Булава. *У цябе ні кіёк, а ныстаяшчыя былдавешка.*

БАЛЬШУ'Н *м.* Рослы хлапчук. *Ого, якім ты быльшуном стаў.*

БАЛЬШУ'ННЯ (бальшуньня) *ж.* Рослая дзяўчынка. *Бальшуньня ты мыя. Ці страмна табе, бальшуньня?*

БАЛЬШУ'ХА *ж.* Рослая дзяўчынка. *Ого, якая ты ўжо бальшуха стала!*

БАЛЯ'ЧКА (былячка) *ж.* 1. Дзічка. *У мяне былячка ны патыліцы наскочыла.* 2. Ранка. *Былячка ны назе, дык іці не магу доўга.*

БАНДУ'РА *ж.* Занадта вялікая рэч. *Гэта ня бочка, а бандура. Павеліч.* Бандурана (бандурына). *Ня печ, а бандурына.*

БАСІ'ЛА *м.* Здаравяка-лайдак. *Такому басілу касу б у рукі, а ён вуду ўзяў.*

БА'ЎЛЕННЕ (баўліньня) *н.* Затрымка, марнаванне. *Нічога сабе баўліньня, ды самыга абеду.*

БАХА'Н (быхан). Кухталь. *Як дам быхана, дык успакоішся.*

БА'ЦЬКАВІЧ (бацькывіч) *м., жарт.* Замест імя па бацьку. *Васіль бацькывіч, дай зыкурыць. Тымара бацькыўна, налі яшчэ трохі чайку.*

БАЦЮ'ТА *м.* Сын, які падобны да бацькі тварам ці ўчынкамі. *Увесь бацюта: і паходка тыкая, і сьмяецца так, як Антонька. Увесь бацюта, як выліты.*

БАЧЫ'ЦЬ *незак.* Не дагаджаць. *Чым я табе бачу, што ты ны мяне так узьеўся?*

БЕДАЛА'ЖНІЧАЦЬ (бідылажнічыць) *незак.* Бедаваць, гараваць. *Ні нада дужа бідылажнічыць, усё будзя хырашо.*

БЕГАТНЯ' (бігатня) *ж.* Беганіна. *Як толькі дзень, так і пычынаецца бігатня з-за брыгадзіра.*

БЕ'ЗІК *м., груб.* Вока. *Хоць адзін безік у лбу, ды дужа многа зымічаіш. Каб табе безікі павылізлі!*

БЕЗЛА'БЕРНА (бізлабірна) *прысл.* Неахайна, непрыглядна. *А чаго ў цябе ў хаці так бізлабірна?*

БЕЗЛА'БЕРНАСЦЬ (бізлабірнасць) *ж.* Неахайнасць. *Чаму ў цябе гузікі ня ўсе, што гэта за бізлабірнысць?*

БЕЗЛА'БЕРНЫ (бізлабірны) *дзеепрым.* Неахайны. *Ну, пыглядзі, які ты бізлабірны, стolькі гразі нясеш ны нытах.*

БЗЮ'КА *м.* і *ж.* Капрыза. *Ну, еж тады дулю з макым, калі ты бзюка.*

БЗЮ'КАННЕ (бзюкыньня) *н.* Капрызнасць. *Мне ныдаела тваё бзюкыньня.*

БЗЮ'КАЦЬ (бзюкыць) *незак.* Капрызіць. *Будзіш бзюкыць, дык я дубец вазьму, тады малінывым станіш.*

БЗЮ'КНУЦЬ *зак.* Закапрызіць. *Яшчэ раз бзюкніш, дык ні пыжалею ны цябе шыціка.*

БІБІ'ПКАННЕ (бібіпкыньня) *н.* Гучанне сігналу аўтамашыны. *Я чую ззаду бібіпкыньня, пывярнулыся, а машына пірыда мной.*

БІБІ'ПКАЦЬ (бібіпкыць) *незак.* Даваць сігналы. *Ні бібіпкый, а то акымулятыр рызрадзіш.*

БІБІ'ПНУЦЬ *зак.* Падаць сігнал, засігналіць. *Ня бойся, нікуды я адзін ні паеду, а як буду ехыць, тады табе бібіпну.*

БІНО'КЛЯ *ж.* Бінокль. *Дай-ка я ў тваю біноклю пыгляджу.*

БІТО'К *м.* Падзярэча, той, хто лезе ў бойку. *Ідзі, біток, ня думый, што ты дужа крэпкі.*

БЛАТАВА'ЦЦА (блытывацца) *незак., жарг.* Валацужнічаць. *Ён увесь век блатуіцца і сядзеў ужо ні раз зы свае прадзелкі.*

БЛАТАВА'ЦЬ (блытываць) *незак., жарг.* Валацужнічаць. *Блытываць — мала радысьці.*

БЛІ'ННІЦА (бліньніца) *ж.* Пястуха. *Паследнія дычка ўсягды ў маткі бліньніца.*

БЛІ'СКАЎКА (бліскыўка) *ж.* Бліскавіца. *А бліскыўка як шахня на ўсё неба, дык я аж прысела.*

БЛО'Т *м., жарг.* Валацуга, жулік. *Блот, як табе людзей ні страмна? У горадзі глядзі — блот ны хаду падэшву атпора.*

БЛУ'З *м.* Хлус. *Блузу ны адну капейку верыць нільзя.*

БЛУЗНЕ'ННЕ (блузьненьня) *н.* 1. Плявузганне, пляткарства. *Блузьненьня ад яго сколькі заўгодна наслухыісься.* 2. Трызненне. *З гырачкі такое блузьненьня,*

БЛУЗНІ'ЦЬ (блузьніць) *незак.* 1. Плявузгаць. *Блузьніць, а што, дык і сам ня ведыя.* 2. Трызніць. *Гэта ён спрасоньня блузьніць пычаў.*

БЛУЗНЯ' (блузьня) *ж.* Хлусня. *Гэта ж блузьня, што кіна сяньня ня будзя.*

БО'ЛІ *прысл.* Больш, болей. *Болі я цябе ня буду зы сабой цігаць. Болі мне нічога ня трэба.*

БО'РАННЕ (бoрыньня) *н.* Баруканне. *Бораньне — бораньнім, а штаны пыдраў.*

БО'РАЦЦА (борыцца) *незак.* Барукацца. *Борыцца вы ўмеіця, а касу дзіржаць — я б ні скызаў.*

БО'РАЦЬ (борыць) *незак.* Барукаць. *Яму толькі быка борыць.*

БРА'ЖКА (брашка) *ж., жарг.* Радня, сваяцтва, сябрукі. *Рыман, Пятрок, Грышка — уся брашка сыбралыся. Хату Ціхон склыдая, дык брашку сыбраў. Вам самім нечыга дзелыць такой брашкай.*

БРАСКАТА'ННЕ (брыскытаньня) *н.* 1. Бразгатанне. *Я чуў нейкыя брыскытаньня ля кузьні.* 2. Буркатня. *Ці сьціхніш ты з брыскытаньнім, рыспусьціў язык. як былабон які.*

БРАСКАТА'ЦЬ (брыскытаць) і БРАСКАЦЕЦЬ (брыскацець) *незак.* 1. Бразгатаць. *Калі хочыш брыскытаць, дык ідзі на вуліцу.* 2. Балбатаць. *Як твой язык ні зыбаліць брыскытаць цэлы дзень.*

БРАСКО'ТКА *ж.* 1. Бразготка. *Хто табе купіў такую браскотку?* 2. Балбатуха. *Браскотка, сьціхні!*

БРА'ЗГНУЦЦА *зак.* Упасці, паваліцца. *Пыкаўзнуўся і бразгнуўся носым у гразь.*

БРА'ЗГНУЦЬ *зак.* Кінуць вобзем. *Так бразгну, што ні падымісься.*

БРАХЛО' *м.* 1. Манюка, падманшчык. *Ты ж кызаў, што брыгадзіра німа, брахло ты.* 2. Мацяршчыннік. *Рыспусьціў язык, брахло, што ні слова, то мат.*

БРУСО'К *м.* Мянташка для вастрэння касы. *Дзе ты такі брусок дыстаў?*

БРУСО'ЧАНЫ *дзеепрым.* Намянташаны. *Брусочыныя твыя кыса, ці не?*

БРУСО'ЧЫЦЬ *незак.* Мянташыць. *Касу будзіш брусочыць, ці я зыбяру свой брусок?*

БРЫ'ДАСЦЬ (брыдась) *ж.* Брыдота. *Ідзі, брыдась, каб я цябе ні бачыла.*

БРЫ'НДА *ж., лаян.* 1. Распусная жанчына. *А сяньня дзе была, брында?* 2. Збродлівая карова. *Тарасава брында ніколі не пільнуецца стада.*

БРЫ′НДАННЕ (брынданьня) *н.* Бадзянне, валацужніцтва. *Брынданьня ды дыбра ні дывядзець.*

БРЫ′НДАЦЬ *незак.* Бадзяцца. *Прывык брындыць пы хатых.*

БРЫ′НКАННЕ (брынканьня) *н.* 1. Дзвынканне. *Брынкыньня ў вушах стаіць.* 2. Касьба рэдкай травы. *Што гэта зы казьба — адно брынкыньня.*

БРЫ′НКАЦЬ (брынкыць) *незак.* 1. Дзвынкаць. *Я ня буду болі брынкаць.* 2. Касіць сухую рэдкую траву. *Ныдаела брынкыць гэты быльнік.*

БРЫ′НКНУЦЬ *зак.* 1. Дзвынкнуць. *Яму так і карціць, каб па струных брынкнуць.* 2. Махнуць касой. *Брынкнуць пы два разы і пад куст бягуць, што гэта зы касцы?*

БРЫ′СЬ I *м., зняваж.* Здаравяка-лайдак. *Разгудувайся і ходзя такі брысь, ані яму шум быравы.*

БРЫ′СЬ II *выкл.* Прэч. *Брысь атсюля!*

БРЫ′ЦА *ж.* Пырнік. *Сёліта ў маім гародзі дужа брыцы многа.*

БУ′Б *м.* Злаязыкі, бурклівы чалавек. *Ні хырашо мушчыну бубым быць.*

БУ′БА *ж., дзіц.* Ягада. *Хочыш, я дам табе бубы?*

БУ′БІХА *ж.* Буркліваая жанчына. *Я з такой бубіхый адныга дня ня жыў бы.*

БУБНЕ′ННЕ (бубненьня) *н.* Злосная гаворка, бурканне. *Ураньні і вечарым адно бубненьня ат цябе чую.*

БУБНЕ′ЦЬ *незак.* 1. Бурчаць. *Ці ты пірыстаніш бубнець, ці ды раньня будзіш?* 2. Гаварыць невыразна. *Нешта бубнеў пыд нос, а што, дык ні рызыбраўся.*

БУБНЯ′ *ж.* 1. Лухта, мана. *Ня слухый ты, кумычка, нікога, бубня ўсё гэта.* 2. Буркуха. *Ні бубні, бубня, хваця ўжо.*

БУЗА′ *ж.* 1. Сварка. *Трэба ж табе было такую бузу пыднімаць, а за што каб хто спрасіў.* 2. Бойка. *Рыман бузу пыдняў у клубі.* 3. Асадкі ў газе ці вадзе. *Зьлі бузу ў вядро.*

БУЗАЦЁ′Р *м.* Ініцыятар у ганебных справах. *Калі ня прыдзя ны вічарынку, дык сьвет зь яго гарыць, бузацёр з бузацёра вон.*

БУЗАЦЁ′РША *ж.* Сварлівая кабета. *Калі табе мы ні ныравімся, дык ідзі дамоў, бузацёрша.*

БУЗІ′ЛА *м.* Ініцыятар боек, сварак. *Каб ня Грышкыў бузіла, то ўсё добра было б.*

БУЗАВА′ЦЬ (бузуваць) *незак.* Буяніць. *У міліцыі многа бузуваць ня будзіш.*

БУЗІ'ЦЬ *незак.* Буяніць. *Калі табе хочыцца бузіць, то ідзі гылавой аб сьцяну луччы ўдарся.*

БУ'ЙЛА *м.* і *ж.* Дарослы плакса. *Ніяк ні ўняць буйлу, як воўк выя.*

БУЛЬБАКАПА'ЧКА (бульбыкыпачка) *ж.* Жанчына, якая капае бульбу. *У мяне было тры бульбыкыпачкі, дык ды абеда справіліся.*

БУЛЬБЯ'ННІК (бульбяньнік) *м.* 1. Блін з бульбы. *Смашна бульбяньнікі з мылаком есьці.* 2. Бульбоўнік. *Бульбяньнік будзім ны сілос убіраць.*

БУНТАВА'ЦЦА (бунтувацца) *незак.* І. Бунтавацца. Памыляцца, дапускаць памылкі. *Нільзя ж бунтувацца, трэба хырашо думыць.* 2. Блудзіць. *Хаджу па лесі, бунтуюся, ні знаю, ідзе дарогу шукаць.*

БУНТАВА'ЦЬ (бунтуваць) *незак.* 1. Перашкаджаць працаваць. *Ні бунтуй яму, хай дзелыя ўрокі.* 2. Мяшаць. *Ня трэба было бунтуваць мяшкі, а цяпер разьбірайся зь імі, ідзе чые?*

БУРДЫ'ЛЬ *м.* Бурбалка. *Бурдылі ны вадзе, дык дождж ішчэ цірабне.*

БУРУ'К *м.* Нелюдзімы чалавек. *Як толькі жонка жыве з буруком такім — ня ведыю.*

БУРЛЯ'КА *м.* Пераборлівы чалавек. *Бурляку што ні пыстаў, што ні нывары, дык ён носым круця.*

БУРЛЯ'ННЕ (бурляньня) *н.* Пераборлівасць. *Ці ўжо еш, ці кынчай бурляньня — адно з двух выбірай.*

БУРЛЯ'ЦЦА *незак.* Перабіраць, выбіраць лепшае. *Кыбан прывык бурляцца, саўсім ня хоча есьці. Ні бурляйся ў шкапу, ныдзівай, што дыла.*

БУРЛЯ'ЦЬ *незак.* Выбіраць смачнейшае, лепшае. *Я ні бурляю, а ем. Сыма ты бурляіш.*

БУ'ТЛЯ *ж.* Вялікая шкляная пасудзіна. *Дай, кумычка, сваёй бутлі, у маёй дно атскочыла.*

БУ'ТУС *м.* Гультаяваты хлопец. *Бутуса толькі кармі, а пра работу яму ні зыікайся.*

БУХЕ'КАЦЬ *незак.* Кашляць. *Кынчай бухекыць, а то дзіця пабудзіш.*

БУ'ХТА *м.* і *ж.* Бурклівы чалавек. *Бухце слова насупрыць ні скажы.*

БУХЦЕ'ННЕ (бухценьня) *н.* Бурканне. *Яна мяне сваім бухценьнім як нажом рэжа.*

БУХЦЕ'ЛКА *ж.* Буркатлівая жанчына. *Цябе, бухцелку, ніякі чорт замуж ня возьмя.*

БУХЦЕ'ЦЬ *незак.* Гаварыць злосна. *Ён зы тапор год ны цябе будзя бухцець.*

БУХЦІ'ЛА *м.* Бурклівы і сварлівы мужчына. *Твой жа бацька быў харошым чылавекым, а па кім ты ўдаўся такі бухціла?*

БУЦЯ'Н *м.* Бусел. *Буцян наеўся жаб, дык чуць пыдняўся.*

БУЦЯНЁ'НАК (буцянёнык) *м.* Бусляня. *Адзін буцянёнык чуць з гнізда ні зваліўся.*

БУЦЯНІ'ХА і БУЦЯНІЦА *ж.* Бусліха. *Буцян большы, а буцяніха меншыя. Буцяніца цэлы дзень лі гнізда сядзіць.*

БУ'ЧА *ж.* Крык, шум. *З-зы чаго ты бучу пыднімаіш?*

БЫДРЭ'ННЕ (быдрэньня) *н.* Лянота. *Быдрэньня, братка, у цябе поўны косьці.*

БЫДРЭ'ЦЬ *незак.* Лайдачыць. *Ці трэба быдрэць увосень, калі работы, хоць адбыўляй.*

БЫСТРА' *ж.* і БЫСТРА'К *м.* Быстрае цячэнне, страміна ракі. *Ны быстрэ гылаўні вялікія бяруцца. Дзе быстрак, там і брод.*

БЫ'СЯ *м.* 1. *Перан.* Лайдак-здаравяка. *Касу б узяў ды ахапык сена карові аткасіў, быся.* 2. Гадавы бычок. *Хадзі, быся, хадзі дамоў.*

БЯЗБА'ЦЬКАВІЧ (бізбацькывіч) *м.* 1. Пазашлюбны хлапчук. *Гэта Мар'ін бізбацькывіч вытвырая ўсё.* 2. Свавольнік. *Марш ацьцюль, бізбацькывічы.*

БЯЗУ'ЛА *м.* і *ж.* 1. Няўмека, лайдак, недарэка, няўдаліца, лайдачка. *У бязулы і сыбакі ў плот лазюць. Такую прасьценькую зыдачу ня ўмеіш рышыць, бязула ты.*

БЯЗУ'ЛЬСТВА *н.* Няўмельства, гультайства, бяздумнасць. *Бязульства ні набытык.*

БЯЛЁДАВАННЕ (бялёдывыньня) *н.* Глумленне. *Аж страшна, такоя бялёдываньня ў лесі.*

БЯЛЁДАВАЦЬ (бялёдывыць) *незак.* 1. Глуміць. *А нашто сасоньнічык бялёдывыць?* 2. Вытаптваць. *Коні гароды бялёдывыюць.*

## В

ВА'БІЦЦА *незак.* 1. Затрымлівацца. *Я ні зываблюся, скоранька прыбягу.* 2. Забаўляцца, гуляць. *Ленка на вуліцы вабіцца.*

ВА'БІЦЬ *незак.* 1. Марнаваць. *Што ты вабіш, пы-*

*глядзі, дзе сонца.* 2. Забаўляць. *Я буду на вуліцы вабіць дзяцей.*

ВА'БЛЕНЫ (вабліны) *дзеепрым.* Марудны. *Конь вабліны пупаўся, дык пуўдня ехылі.*

ВАБРАЖА'КА (выбрыжака) *м.* і *ж.* Фарсун, задавака. *Аткуль ты такі выбрыжака?*

ВАБРАЖА'ЙЛА (выбрыжайла) *м.* і *ж.* *Два дні ў горадзі пабыў — глядзі, які выбрыжайла.*

ВАБРАЖА'ЦЬ (выбрыжаць) *незак.* Фарсіць. *Німа чым дужа выбрыжаць. Выбрыжаць — ня жыта жаць.*

ВАБРАЖЭ'ННЕ (выбражэньне ) *н.* Ганарлівасць, пыха. *Ня столькі таго розуму, сколькі выбражэньня.*

ВАБРАЗІ'ЦЕЛЬНАСЦЬ (выбразіцільнысь) *ж.* Пыха, ганарлівасць. *Кінь сваю выбразіцільнысь, ды садзіся за стол, як чылавек.*

ВАБРАЗІ'ЦЕЛЬНЫ (выбразіцільны) *прым.* Ганарлівы. *Зыдраў нос, што кукішым ні дыстаніш, куды — выбразіцільны!*

ВА'ВА *ж., дзіц.* 1. Кроў. *Парэжыш пальчык — вава будзя іці.* 2. Ранка, балячка. *Ня слухыў маму, ударыў ножку, цяпер вава балець будзя.*

ВАДЗЕ'НЬ *м.* Авадзень. *Так балюча вадні кусаюцца, што цярпець нільзя.*

ВАДЗЯ'НКА (выдзянка) *ж.* 1. Цянёк пад дрэвамі. 2. Бочка для вады. *Ны выдзянку трэба новыя абручы набіць.*

ВАЁДАННЕ (ваёдыньня) *н.* Буянства. *Дзе ён, там і ваёдыньня.*

ВАЁДА *м.* і *ж.* Буян, буянка. *Я табе пыкажу, ваёда! Ваёда ты, во хто.*

ВАЁДАЦЬ (ваёдыць) *незак.* Буяніць, дэбашырыць. *Я цябе атучу ваёдыць.* 2. Аказваць супраціўленне. *Яго звізалі, а ён і звязаны ваёдае, вырываецца.*

ВАКО'ННІЦА (ваконьніца) *ж.* Аканіца. *Трэба, муся, і ваконьніцу новую ставіць.*

ВАЛАВО'Д (вылавот) *м.* Марнатраўца, валаводнік. *Ні брыгадзір, а сыпраўднішні вылавот.*

ВАЛАВО'ДКА (вылавотка) *ж.* Валаводніца. *Сярод баб ішчэ болі выдаводык, чым сярод мужчын.*

ВАЛЬСАВА'ННЕ (выльсываньня) *н.* Танцаванне вальса. *Было выльсываньня ды самыга раньня.*

ВАЛЮ'ШКА *ж.* Валляк. *Пыглядзі, якія валюшкі ў курэй вялікія.*

ВАЛЯР'Я'НА (вылір'яна) *ж.* Валяр'янка. *Ношку вылір'яны ў апцеку зынісла.*

ВАЛЯР'Я'НАЎКА (вылір'яныўка) *ж.* Валяр'янка.

ВАНДЖЭ'РАЧКА (ванджэрычка) *ж.* Талерачка. *Тыкая харошыя ванджэрычка разьбілыся.*

ВАНДЗЭ'ЛАК (вандзэлык) *м.* Клунак. *А куды ж я свой вандзэлык пылажыла?*

ВАРВАЛАК (варвылык) *м.* Вялікі кавалак сала, мяса. *На трох такога варвылка было б, а ён адзін усадзіў.*

ВАРОТЦЫ (вароццы) *толькі мн.* Весніцы. *Ці зычыніў ты вароццы, як ішоў?*

ВАРШАВА'ННЕ (выршываньня) *н.* Ачыстка зерня веялкай. *Посьлі абеда выршываньня скончым.*

ВАРШАВА'ЦЬ (выршываць) *незак.* Ачышчаць зерне веялкай. *Дывайце будзім пшаніцу выршываць.*

ВА'РШАЛКА (варшылка) *ж.* Веялка. *Каб варшылка ня спорцілыся, то пывыршывалі б усё.*

ВАТА'ГА (вытага) *ж.* 1. Гурт. *Дывайця, хлопцы, вытагый дакосім тую частку.* 2. *Неадабр.* Зграя. *Ходзюць адзін зы другім вытагый.*

ВАЎКАЎНЯ' (выўкыўня) *ж.* Густы лес, зараснік. *Зьбіраў грыбы, ды ўпёрся ў такую выўкаўню, што чуць выбрыўся аттуль.*

ВАЎЧАНЁНАК (выўчанёнык) *м.* Ваўчаня. *Была там ваўчыца і два выўчанёнкі.*

ВАЎЧЭ'НАК (ваўчэнык) *м.* Ваўчаня. *Пятрок учора ваўчэнка злавіў.*

ВАХЛАМО'Н (выхламон) *н.* Неахайны чалавек. *Шапку пыпраў, выхламон, ды штаны пыдцягні.*

ВАХЛАМО'НЯ (выхламоня) *ж.* Неахайная жанчына, дзяўчына. *Выхламоні як ёсць, так і добра. Павеліч.* Выхламондзія (выхламоньдзія). *Ва ўсіх людзей, як у людзей, а ў цябе, выхламондзія ты, на смецці спатыкнесься.*

ВЕ'ЛЬМА *прысл.* Вельмі. *Вельма холадна на вуліцы.*

ВЕ'ЛЬМЕННА (вельмінна) *прысл.* Вельмі, занадта. *Вельмінна цёплыя выда ў рэццы.*

ВЕРТАЛІ'КІ (вірталікі) *прым.* Круглатвары. *Красівыя твыя нявестка: чорнінькыя, вірталікыя.*

ВЕ'ТАХ (ветых) *м.* Сярпок месяца. *Ветых ныд самый нашый хатый.*

ВЕТРАГО'Н (вітрагон) *м.* 1. Прыстасаванне ў веялцы. *Нешта зь вітрагоным ні ў пырадку.* 2. *Перан.* Балбатун. *Ён табе і горы зылатыя пыабіцая, а ці ты ня ведыіш вітрагона гэтыга?*

ВЕ'ТРАННЕ (ветрыньня) *н.* Веянне на ветры. *А цяперыка за ветрыньня возьмімся, і жыта будзя ў пырадку.*

ВЕ'ТРЫЦЬ *незак.* Веяць на ветры. *Ветрыць лягчэй, чым мылаціць.*

ВЕ'ЦЦЕ (вецьця) *н.* Бярозавыя і дубовыя галінкі для венікаў. *Посьлі абеда сходзіш у лес і нарэжыш вецьця.*

ВІ'ДАМ *прысл.* Мігам, умомант. *Я відым туды зьбегыю. Ты ж — відым, ні баўся дужа.*

ВІРАПЛА'Н (вірыплан) *м.* Самалёт. *Вірыпланы адзін зы другім нешта разьлётыліся.*

ВІРТУХА'ННЕ (віртуханьня) *н.* Мітусня. *Гэты ж ні танцы, а віртуханьня нейкыя.*

ВІРТУХА'ЦЦА *незак.* Мільгаць, вярцецца. *Чаго ты віртухаісься пірад вычамі, садзіся.*

ВІРТУХА'ЦЬ *незак.* Мільгаць. *Віртухаіш ты мне пірад перыдым, нічога ні бачу.*

ВІРТУХНУ'ЦЦА *зак.* Мільгануцца. *Нешта віртухнулыся ля лесу і ня відна нічогачкі.*

ВІРТУХНУ'ЦЬ *зак.* Мільгануць. *Яшчэ раз віртухнеш тут — заробіш па шыі.*

ВІСАЖА'Р (вісыжар) *м.* Чалавек высокага росту. *Табе, вісыжару, далёка відаць, на цэлы метыр вышэй за мяне.*

ВІСАЖА'РЫСТЫ (вісыжарысты) *прым.* Высакарослы. *Твой Сашка будзя вісыжарысты хлопіц.*

ВО-ВО *прысл.* 1. Хутка. *Ён во-во прыдзя.* 2. Толькі што. *Ён толькі во-во з хаты выйшаў.*

ВО'Б'ЕДДЗЕ (воб'ідзьдзя) *н.* 1. Аб'едкі. *Воб'ідзьдзя выкінь у гной.* 2. Сенажаць, дзе пасвілася жывёла. *Ці трэба касіць гэта воб'ідзьдзя, што тут накосіш?*

ВО'ДЗЕЎКА (водзіўка) *ж.* Верхняе адзенне: паліто, фуфайка. *Пайду ў мыгазін, можа водзіўку якую куплю дзяцёнку.*

ВО'ДВЕДКІ (вотвіткі) *толькі мн.* Адведзіны. *Трэба ды кумы ў вотвіткі схадзіць.*

ВУЖЛА *прысл.* Добра, старанна. *Вужла вучыцца хлопіц.*

ВУЖЛЫ *прым.* Праворны, спрытны. *Вужлыя Мікітывы дзеці: адзін зы другім з карзінымі ў лес пабеглі.*

ВУЖЛЯК *м.* Спрытны чалавек. *Ні глядзі, што малы, а пыглядзі, які вужляк.*

ВУЖЛЯ'ЧКА *ж.* Спрытная асоба. *У яго жонка сыпраўднішныя вужлячка.*

ВУЖЭ'ЛАК (вужэлык) *м.* Спрытны маленькі хлапчук. *Грыбоў яны, вужэлкі, болі, чым ты, нашукаюць.*

ВУЗЁЛ *м.* 1. Вузел. *Завяжы вузёл.* 2. *Гум., перан.* Сур'ёзны, дзелавы хлапчук. *Увесь у бацьку, хітры вузёл.*

ВУН і ВУ'НА *прысл., часц.* Вунь. *Вун, бачыш, машына пабегла? Вуна ён тама.*

ВУ'НАКА і ВУ'НАКІ (вуныка і вунықі) *часц.* Вунь. *Вуныка яна пыйшла. Вунықі, дзе ты схываўся.*

ВУ'НАЦЬКА і ВУ'НАЦЬКІ (вуныцька і вуныцькі) *часц.* Вунь. *Вуныцька, яно што! Вуныцькі, дзе калодзіш.*

ВУ'РЗНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *Ішоў па сьлізкыму льду, як вурзнуўся гылавой аб лёд, чуць устаў быў.*

ВУ'РЗНУЦЬ *зак.* 1. Моцна ўдарыць. *Як вурзну пы піраносіцы, дык ня будзіш тут зубы лупіць.* 2. Шпурнуць. *Вуна аж куды я вурзнуў тую палку.*

ВУ'РКА *м., жарг.* Хітрэц, жулік. *Вурка толькі і глядзіць, каб што сьцягнуць.*

ВУРКАМА'Н (вуркыман) *м., жарг.* Нелюдзімы, але хітры чалавек. *Ён і ў вайну такім вуркыманым быў, ці мала плакылі ад яго.*

ВУРКАМА'НКА і ВУРКАМА'НША (вуркыманка і вуркыманша) *ж., жарг.* Нелюдзімая, але хітрая жанчына. *Як можна жыць з вуркыманкай? Ні свацьця, а вуркыманша.*

ВУ'СЬКАННЕ (вуськыньня) *н.* 1. Падбухторванне. *Хто тут вуськыньнім ны мяне зынімаўся?* 2. Павучанне. *Ня трэба яму твайго вуськыньня, ён і сам ні дурны.* 3. Цкаванне. *Ні баюся я ні вуськыньня, ні твайго сыбакі.*

ВУ'СЬКАЦЬ (вуськыць) *незак.* 1. Падбухторваць. *Я нікога ня вуськыў ны цябе.* 2. Павучаць. *Ніправільна ты яго вуськыіш.* 3. Цкаваць. *Ні страмна табе сыбаку ны дзяцёнка вуськыць?*

ВЫ'ВУРЗНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *Трэба ж мне так вывурзнуцца, аж у вычах пыцямнела.*

ВЫ'ВУРЗНУЦЬ *зак.* Паваліць. *А ты мяне вывурзнуў дыгары.*

ВЫ'ДЗЕЛКА (выдзілка) *ж.* 1. Учынак. *Гэта твыя выдзілка так проста ня пройдзя длі цябе.* 2. Выраб. *Аўчынка — выдзілкі ні варта.*

ВЫ'КАНАРКАЦЬ (выкыныркыць) *зак.* Прасіць, вымагаючы. *Ты, відна, і ў мёртвыга выкыныркыіш, калі чаго захочыш.*

ВЫ'КАПАНЫ (выкыпаны) *дзеепрым.* 1. Выкапаны. *Хрэн быў выкыпаны шчэ пазаўчора.* 2. *Прым.* Вельмі падобны. *Выкыпыны татуля.*

ВЫЛА'МВАННЕ (выламывыньня) *н.* 1. Фанабэрыстасць. *Ні магу глядзець на тваё выламывыньня, ня хочыш, дык ня трогыйся зь места.* 2. Крыўлянне. *Ні танцы, а нейкыя выламывыньня.*

ВЫЛА'МВАЦЦА (выламывыцца) *незак.* 1. Выламвацца. *Так скыкалі, што масьніцы выламывыцца сталі.* 2. Крыўляцца. *Ні люблю глядзець, як ты выламывыісься ў гэтым плацьці.*

ВЫЛІНА'ННЕ (вылінаньня) *н.* Лінянне. *Мае штаны вылінаньня быяцца.*

ВЫ'ЛІНАЦЬ (выліныць) *зак.* Выліняць. *Ня вешый сарочку на сонца — выліныя.*

ВЫМАНДЗЫ'РЫЦЬ (вымындзырыць) *зак.* Выпрасіць. *У каго ты вымындзырыў рубель?*

ВЫМАНДЗЭ'РВАЦЬ (вымандзэрывыць) *незак.* Выпрошваць. *Ты ў мяне пасьледнію пыпіросу вымандзэрывыіш.*

ВЫМА'НЧВАЦЬ (выманчывыць) *незак.* Выпрошваць. *Нывучыўся выманчывыць у людзей.*

ВЫ'МАНЧЫЦЬ *зак.* Выпрасіць. *Таварыш ліцінант, ён жа ў яго выманчыў матацыкла і паехыў.*

ВЫ'МАРАЧЫЦЬ (вымырычыць) *зак.* Выпрасіць. *Мода цяпер на кыжухі, дык унук у дзеда дзіравы вымырычыў.*

ВЫ'МЕРХАЦЦА (вымірхыцца) *зак.* Прагаладацца. *Вазьмі сабе хоць хлеба ў кырман, а то вымірхыісься скора.*

ВЫ'НЬ *часц.* Вунь. *Вынь там, пад дубамі.*

ВЫ'СІВЕНЬ (высівінь) *м.* 1. Стары халасцяк. *Высіўня толькі чыпялой можна ажаніць.* 2. Стары баравік. *Німа мыладых бырывікоў, адны высіўні.*

ВЫ'СТАРКА (выстырка) *ж.* Дзяўчына-векавуха. *Каму тыкая выстырка трэба?*

ВЫ'ЧХАЦЦА (вычхыцца) *зак.* 1. Выпарыцца, выветрыцца. *Дывай сваю сымагонку сюды, а то вычхыіцца, някрэпкыя будзя.* 2. Прагаладацца. *Ну, што ты прыбег, вычхыўся ўжо?*

ВЭ'РХАЛ (вэрхыл) *м.* 1. Гвалт. *Чаго вы тут вэрхыл пыднялі?* 2. Беспарадак. *Вэрхал у хаці, німа ніякага пырадку.*

ВЯ'ЗКА I *ж.* 1. Вязанне. *Узілася зы вязку кохты.* 2. Вязанка, нізка. *Цэлую вязку быранкыў прынёс.*

3. Вельмі многа. *Я вам вязку казык нырысказываю, толькі слухыйця.*

ВЯ'ЗКА II *прысл.* Гразка. *Дужа вязка ны балоці.*

ВЯЛЬБУ'КА *ж.* 1. Нарасць на дрэве. *На дубі многа вяльбук.* 2. Гузак. *А хто табе такую вяльбуку на лоб пысадзіў?*

ВЯЛЬБУКА'ВАТЫ (вільбукываты) *прым.* Няроўны, са шматлікімі нарасцямі. *Вільбукываты камель на шульля пойдзя.*

ВЯ'РКАННЕ (вяркынья) *н.* Дзіцячы крык, плач. *Ныдаела слухыць яго вяркыньня, дык узяў і зыкылыхаў.*

ВЯ'РКАЦЬ (вяркыць) *незак.* Крычаць. *Чаго ты там вяркыіш, што табе трэба?*

ВЯ'РКНУЦЬ *зак.* Прарэзліва крыкнуць. *Вяркнуў, як рэзаны. Вяркнуў і сьціх.*

ВЯ'СЛА *ж.* 1. Вязанка. *Я сяньня вясла рыбы нылавіў.* 2. Вялікая колькасць. *Ключоў ды гаік у мяне цэлыя вясла.*

# Г

ГА'ВІДА *ж.* Статак кароў, свінней. *У мяне кароў цэлыя гавіда.*

ГАДО'К *м.* Равеснік. *Табе — сорык, і мне сорык, дык ты — мой гадок?*

ГА'Й *выкл.* Гайда. *Хлопцы, гай, за мной! Гай, сюды!*

ГАЙНО' *н.* 1. Логава свінней. *Сьвіння залезла ў гайно і ня відна яе там.* 2. Беспарадак. *У хаці ў мяне чыстыя гайно, пыбягу прыбяру.*

ГАЙНАШЭ'ННЕ (гыйнашэньня) *н.* Псаванне. *Толькі ў лес — і зы гайнашэньня бярэзьніку ўзяўся, а яго — зы каўнер.*

ГАЙНАШЫ'ЦЬ (гыйнашыць) *незак.* Глуміць. *Ён спаў, а сьвіньні гарод гыйнашылі.*

ГА'К *м.* Лішак. *Я табе з гакым ныліваю. Будзя датуля тры кіломітры з гакым.*

ГАЛАГО'Л (гылагол) *м.* Крыклівы чалавек. *Каб табе зырвала, гылагол, як ты гылову азяліў.*

ГАЛАГО'ЛІЦЬ (гылаголіць) *незак.* Крычаць, гучна балбатаць. *Сколькі ты гылаголіць будзіш, у гылаве ўжо дурна стала.*

ГАЛАГО'ЛКА (гылаголка) *ж.* Крыклівая жанчына. *Дома ты першыя гылаголка, а тут рот баісься разінуць.*

ҐАЛАГО'ЛЬСТВА (гылагольства) *н.* Ґоман, шум, крык. *На ўсю хату гылагольства пыднялі.*

ГАЛАЙСТРА' (гылыйстра) *ж., лаян.* Гарэзлівая дзяўчынка. *Німа ўгамоньня гылайстрэ.*

ГАЛАМЯ'ТКА (гыламятка) *ж.* Вялікая костка. *Гылымятку аб'еў і болі ні хачу.*

ГАЛАПУ'ПІК (гылапупік) *м.* 1. Неаперанае птушаня. *Нашоў гняздо, а там пяць гылапупікаў.* 2. Голае дзіця. *Бегае гылапупікым па хаці.*

ГАЛАЎНЯ' (гылыўня) *ж.* 1. Галавешка. *Усё згарэла, толькі адна гылыўня дыміцца.* с-г. Сажа. *Гылыўня ны пшаніцы нашый.*

ГАЛАЦУ'ЦА (гылацуца) *м.* і *ж.* Гарэза, дураслівец. *Сядзь, гылацуца, поўну хату ныпыліў. Ня дзеўка, а гылацуца, ні сядзіцца ёй.*

ГАЛДЗЕ'Й *м.* Балбатун, крыкун. *Хоць ты рот галдзею зывяжы.*

ГАЛДЗЕ'ЙКА *ж.* Балбатуха, крыкуха. *Стань у кут, галдзейка.*

ГАЛЕ'Ц *м.* Бядняк. *Ды рывалюцыі тут жылі адны гальцы.*

ГАЛЁРКА *ж.* Гурт, каманда. *Сыбярэцца галёрка дзяцей і цэлы дзень вярхом на коніх гырцаюць, нечыга ім дзелыць.*

ГАЛУ'ЗА *м.* і *ж.* Свавольнік, дураслівец, гарэза. *Ці галуза, акрымя дубца, пынімая што?*

ГАЛЧАНЁ'НАК (гылчанёнык) *м.* Галчанё. *А я гылчанёнка сяньня злавіў быў.*

ГАМАНЕ'Т (гыманет) *м.* Кашалёк для грошай. *У цябе грошы поўны гыманет.*

ГАМАНЕ'Ц (гыманец) *м.* Кашалёк для грошай. *Пыкажы свой гыманец.*

ГАМЗА'ТЫ (гымзаты) *прым.* Гугнявы. *Калі ты стаў гымзатым?*

ГАМЗЕ'ННЕ (гамзеньня) *н.* Косназыкасць, гугнявасць. *Трошкі гамзеньня ў яго голысі чуіцца, а так — харошы чалавек.*

ГАМЗІ'ЦЬ *незак.* Гугнявіць. *Падрос і пірыстаў гамзіць, цяпер хырашо гавора.*

ГАМЗУ'Н *м.* Гугнявы мужчына. *Ня лектыр, а нейкі гамзун, нічога ні рызьбярэш, што ён гавора.*

ГАМЗУ'НКА *ж.* Гугнявая жанчына. *Ні пыглядзеў, што гамзунка і ўзяў яе замуж.*

ГА'МУЗ *м.* Гурт, талака. *Сыбраўся гамуз, быстра хату склалі.*

ГА'МУЗАМ (гамузым) *прысл.* Разам, дружна. *Дывайце гамузым тоя бярно паднімім.*

ГАРБУЗЯНЯ'ТЫ (гырбузіняты) *мн.* Семечкі гарбуза. *Гырбузіняты смашней, чым сыланешнік.*

ГАРБУ'ШКА *ж.* Скарынка. *Сабе мякішку бяры, а мне гарбушку дывай.*

ГАРБЫ'ЛЬ *м.* 1. Гарбаты чалавек. *Я і ні зымічаю, што ён гарбыль.* 2. Аполак. *Гырбылі пыд сьцяну сьнінь.*

ГАРБЯ'К (гырбяк) *м.* Пагорак. *На гырбяку нічога ня хоча расьці: зімля пішчаныя.*

ГАРБЯКАВА'ТЫ (гырбікываты) *прым.* Узгорысты. *Тут скрозь палі гырбікыватыя.*

ГАРБЯ'ЧЫЦЦА (гырбячыцца) *незак.* Выступаць узгоркамі. *Поля гырбячыцца, дрэнна і з трактырым, і з камбайным.*

ГАРГА'РА (гыргара) *ж.* Занадта вялікая рэч, прылада, пабудова. *Ні хата будзя, а гыргара.* *Узмацн.* г а р г а р ы н а (гыргарына). *Ні амбар, а гыргарына.*

ГАРО'ДЧЫК (гароччык) *м.* 1. Расаднік. *Ны маім гароччыку чырназём.* 2. Кветнік. *Хырашо ў гароччыку пысядзець.*

ГАТУТА'ННЕ (гутутаньня) *н.* Гушканне. *Гутутаньня ў гумне ўстроілі.*

ГАТУТА'ННІК (гутутаньнік) *м.* Той, хто гушкаецца. *Глядзі, гутутаньнік, каб ні зваліўся.*

ГАТУТА'ННІЦА (гутутаньніца) *ж.* Тая, хто гушкаецца. *Злазь, гутутаньніца, хваця зь цябе.*

ГАТУТА'ЦЦА (гутутацца) *незак.* Гушкацца. *Пачэпім арэлі і будзім гутутацца.*

ГАТУТА'ЦЬ (гутутаць) *незак.* Гушкаць. *Я цябе буду гутутаць.*

ГАТУТНУ'ЦЦА (гутутнуцца) *зак.* Гушкануцца. *Гутутнесься і сам ні ўбачыш, як аб зямлю носым дзюгнісься.*

ГАТУТНУ'ЦЬ (гутутнуць) *зак.* Гушкануць. *Дывай я цябе гутутну.*

ГІРЗАВА'ННЕ (гірзываньня) *н.* 1. Гізаванне. *У кароў гірзываньня пычалося.* 2. Гарэзанне. *Кынчай гірзываньня, ды за ўрокі бярыся.*

ГІРЗАВА'ЦЬ (гірзываць) *незак.* 1. Гізаваць. *Каровы гірзуюць, ні ўгнацца за імі.* 2. Гарэзаць. *Хочыш гірзаваць, дык ідзі на вуліцу.*

ГІРЗАНУ'ЦЬ *зак.* 1. Гізануць. *Каровы гірзанулі, аж пыл зыкурыўся.* 2. Пачаць гарэзаваць. *Яшчэ раз гірзанеш, дык у кут пыстаўлю ны каленькі.*

ГІ'ЦАЛЬ (гіцыль) *м.* Перарастак. *Ты ж гіцыль ужо, а з малымі дзецьмі носісься.*

ГЛАМАЖДЖЭ'ННЕ (глымажджэньня) *н.* Нагрувашчванне. *У складзі ў яго такоя глымажджэньня, што чорт ногі пылымая.*

ГЛАМАЗДЗІ'ЦЬ (глымазьдзіць) *незак.* Грувасціць. *Двор ні хачу глымазьдзіць тваімі дрывамі.*

ГЛЁҚ *м.* Гляк. *Глёк ны мылако купіла ў Бялынывічых.*

ГЛУХМА'Н *м.* Глухі чалавек. *Яму кажы ці ні кажы— ня чуя, глухман ён.*

ГЛУХМА'НША *ж.* Глухая жанчына. *Яна саўсім глухманшый стала.*

ГЛУШМЕ'НЬ *ж.* Глухое месца ў лесе. *Зайшоў у такую глушмень, што і ваўкі туды ні заходзілі.*

ГЛЫ'Қ *м.* Глыток. *Дай мне хоць адзін глык, амяг я саўсім.*

ГЛЫКНУ'ЦЬ *зак.* Зрабіць глыток. *Глыкнуў і ні хачу болі.*

ГЛЯДЗЕ'ЛҚІ *ж., абразл.* Вочы. *Як я ішоў, дык яна на ўсе глядзелкі за мной цікувала.*

ГМУЗДА'ННЕ (гмузданьня) *н.* 1. Закілзаванне. *Ня лезь ты з гмузданьнім, справісься шчэ.* 2. Біццё. *Гмузданьнім розуму яму не ульлеш у гылаву.*

ГМУЗДАНУ'ЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *Глядзі, а то гмузданесься зьверху на ток, дык ні ўстаніш.*

ГМУЗДАНУ'ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Як гмуздануў яму пы плічах, аж зыікытаў.*

ГМУЗДА'ЦЦА *незак.* Закілзавацца. *Ня хоча гмуздацца, халерыя ны яго.*

ГМУЗДА'ЦЬ *незак.* 1. Закілзваць. *Як спыймаю, загмуздаю шоўкывай гмуздою.* 2. Біць, лупцаваць. *Цябе трэба хырашэнька гмуздаць палкый, каб пурузумнеў.*

ГМУ'ЗДЫ *толькі мн.* Цуглі. *Бяз гмуздыў ны жырабку страшна ехыць.*

ГНЁҚ і ГНЁТ *м.* Груз, які кладзецца на донца пры націсканні квашанай капусты, агуркоў, грыбоў і г. д. *Гэты камінь на гнёк вазьму. Ношка, як гнёт ны плічах.*

ГНЯНУ'ЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *Зваліўся з лесьвіцы і аб камінь гнянуўся плічамі.*

ГНЯНУ'ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Як гняну чымнебудзь цяжкім, дык атойдзісься ацьцюля.*

ГО'ЛЕНЕҚ (голінік) *м.* Дзяркач. *Схадзі ды хыдзяйкі, пыпрасі голінік.*

ГО'РАСЦЬ (горысь) *ж.* Гарката. *У капусьці яшчэ многа горасьці.*

ГРАБІ'ЛЬНА *ж.* Дзяржанне ў граблях. *Гэта грабільна ішчэ твой дзед дзелыў.*

ГРА'ВІР *м.* Гравій. *Трэба гравіру прывесьці, ды засыпаць лужыну.*

ГРАВІ'РКА *ж.* Гравійная дарога. *Ад Бялынавіч да Круглыга гравірка насыпына.*

ГРА'ВІРНЫ *прым.* Гравійны. *Ды нас цяперацька гравірныя дарога.*

ГРАЗЮ'КА *ж.* Вялікая гразь. *Увосінь тут гразюка, што ні прайці, ні праехыць.*

ГРАМІ'ДЛА *м., зняваж.* 1. Здаравяк. *Такі грамідла, што ны камінь наступя нагой, дык у пырашок рызатрэ.* 2. *Асудж.* Разбойнік. *А ў другога грамідлы гузікі былі бліскучыя.*

ГРАМІ'НА *ж.* Хароміна. *Вун якую граміну сабе адгрохыў. Ні глядзі, што карова, як граміна, а мылыка — кату напіцца.*

ГРА'НКА *ж.* Гронка. *Цэлыю гранку віныграду зьеў.*

ГРА'Ч *м.* Музыкант. *Пыіграй ты мне, грачу, а я табе зыплачу, хоць сучку прыдам, табе грошы аддам* (прыпеўка).

ГРАЧА'НКА (грычанка) *ж.* Каша з грэчневых круп. *Грычанкі ныварыла, дык дзеці дужа смашна елі.*

ГРАЧАНЁ'НАК (грычанёнык) *м.* Грачанё. *Грычанёнык выліціў з гнізда і ны зямлю зваліўся.*

ГРО'БКА *ж.* Зграбанне сена. *На гробцы было пад вечыр сорык баб.*

ГРУ'Д *м.* 1. Куча. *Груд сьмецця намёў.* 2. *Прысл.* Многа. *У яго грошай груд зысталося.*

ГРУЖДЖЭ'ННЕ (гружджэньня) *н.* Пагрузка. *Трэба з гружджэньнім трошкі пытырапіцца.*

ГРУЗДЗІ'ЦЦА (грузьдзіцца) *незак.* Грузіцца. *Дывайця будзім скарэй грузьдзіцца, а то дождж пойдзя.*

ГРУЗДЗІ'ЦЬ (грузьдзіць) *незак.* Грузіць. *Увесь дзень мы салому грузьдзілі.*

ГРЫБАЗВО'Н *м., груб.* Пустазвон, балбатун. *У грыбазвона язык у році ні пымішчаіцца.*

ГРЫБАЗВО'НКА *ж., груб.* Балбатлівая жанчына. *Грыбазвонку ў цэркві ўгыдаіш.*

ГРЫБАЗВО'НІЦЬ *незак.* Пустазвоніць, балбатаць. *Што табе трэба, чаго ты грыбазвоніш пы дзярэўні?*

ГРЫБАЗВО'НСТВА *н.* Пустазвонства, балбатанне.

*Ні зынімайся ты грыбазвонствам, а скажы, як чылавек, што ты хочыш.*

ГРЫ'ЖА I. *ж.* Хвароба. *Ні пыдымай адзін — грыжу ныжывеш.*

ГРЫ'ЖА II *м.* 1. Згрызота. *Ні работа тут, а грыжа.* 2. Сварлівая жанчына. *Ні знаю, як ты з такой грыжый жывеш.*

ГУ'ЖАМ (гужым) *прысл.* 1. Гурбой. *Зы нашай доктыркай хлопцы гужым ходзюць.* 2. Разам. *Трэба гужым брацца, можа і паднімім.* 3. Дружна. *Вы ж гужым жывіця.*

ГУЛЕ'Ц *м.* 1. Гуляка, лайдак. *Гульцам можна даць дубца.* 2. Ігрок. *Зь цябе гулец, як зь мяне лёччык.*

ГУРЧЭ'ННЕ (гурчэньня) *н.* 1. Бурчэнне. *Агурок зьеў, дык у жываце гурчэньня пычалося.* 2. Мурлыканне. *Кот сы сваім гурчэньнім спаць ні дае.*

ГУРЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Бурчаць. *Ужо ні гурчыць у жываце.* 2. Мурлыкаць. *Кот наеўся мяса, лёг і гурчыць.*

ГУ'СІНА *ж.* Гуска. *Наша гусіна была большыя.*

ГУСЯНЁНАК (гусянёнык) *м.* Гусянё. *Гусянёнык астаўся адзін, дык цыгыя.*

ГУТА'ННЕ (гутаньня) *н.* Гушканне на арэлях.

ГУТА'ННІК (гутаньнік) *м.* Гушканнік на арэлях.

ГУТА'ННІЦА (гутаньніца) *ж.* Гушканніца на арэлях.

ГУТА'ЦЦА *незак.* Гушкацца на арэлях.

ГЫ'ЛЬКА *ж., ласк.* Гуска. *Гылька мыя, хадзі ка мне.*

ГЭ'ПАЛА *м.* і *ж.* Пласкаступы чалавек. *Зразу відна, што гэпыла пайшоў: кулік-кулік.*

# Д

ДАВО'РКА *ж.* Апошняя баразна. *Ты ўжо даворку гоніш, ці яшчэ бырызна будзя?*

ДАВО'РКІ *толькі мн.* Даворванне. *У мяне скора даворкі будуць.*

ДА'ЙЖА *часц.* Нават. *Дайжа адзіныццыцімятровыга (гала) ні забілі.*

ДА'ЙЖАЧКА і ДАЙЖАЧКІ (дайжычка і дайжычкі) *прысл.* Нават. *Дайжычка і ня пырснула (не пайшоў дождж) за месіц. Дайжычкі ні знаю, што табе пыраіць.*

ДАЙНІ'ЦА *ж.* Даёнка. *Я цяперыцька пы дайніцы ад каровы ныдаівыю.*

ДА'ЛІ *прысл.* Далей. *А што было далі, я ні бачыла.*

ДАЛІКА'Т (дылікат) *м.* Далікатны чалавек. *Мы ні дылікаты — з адной міскі і дайжа адной ложкай наядзімся.*

ДАПЕ'ТРЫЦЦА *зак.* Дадумацца. *Ніяк ні магу дапетрыцца, што тут ды чаго.*

ДАПЕ'ТРЫЦЬ *зак.* Дадумаць. *А тут сам дапетрыш, як дзелыць, я пайду, некылі мне.*

ДАТУ'МКАЦЦА (датумкыцца) *зак.* Дадумацца, разабрацца. *Што тут ды чаго ні так проста датумкыцца, машына склыданыя.*

ДАТУ'МКАЦЬ (датумкыць) *зак.* Зразумець правільна. *Ну, датумкый цяпер, як зыдачу рышыць?*

ДАТУ'РКАЦЦА (датуркыцца) *зак., неадабр.* Дабудзіцца. *Сьпіць, як пяньку прыдай, ні датуркыцца.*

ДАЎГАЛЫ'КІ (дыўгалыкі) *прым., зняваж.* Даўганогі. *Табе, дыўгалыкыму, дзьве мінуты хады і — там будзіш.*

ДАЎГАНУ'ТЫ (дыўгануты) *прым.* Пазычаны. *Адзін рубель і тэй дыўгануты.*

ДАЎГАНУ'ЦЬ (дыўгануць) *зак.* Пазычыць. *Пайду, можа дзе трыячку дыўгану.*

ДАЎМІВА'ЦЦА (дыўміваццa) *незак.* Дадумвацца. *Сам дыўмівайся, як далі зыдачу рышаць.*

ДАЎМІ'ЦЦА *зак.* Дадумацца. *Я сам даўмлюся, што дзелыць.*

ДАХАДЗЯ'ГА (дыхыдзяга) *м.* і *ж., жарг.* Худы, хворы чалавек. *Ён ужо саўсім дыхыдзяга, чуць ногі валоча.*

ДЖГА'ЛА *ж.* Джала. *Выні ў мяне джгала сы сьпіны.*

ДЖМУ'ХНУЦЦА *зак.* Упасці. *Ішоў ноччы і джмухнуўся носым у пясок.*

ДЖМУ'ХНУЦЬ *зак.* Ударыць у твар. *Джмухну раз, дык атвернісься.*

ДЖУ'ГЛА *н.* Лупцоўка. *Пыдраў штаны, дась матка джугла.*

ДЗЕРБАЛЫ'ЗНУЦЦА (дзірбалызнуцца) *зак.* Ударыцца. *Я як знаў, што ты дзірбалызнісься аб вушак упацёмку.*

ДЗЕРБАЛЫ'ЗНУЦЬ (дзірбалызнуць) *зак.* 1. Ударыць. *Як дзірбалызну, дык аж закруцісься.* 2. Добра

выпіць. *Дзірбалызнулі дзьве пляшкі, чуць дамоў прывылакліся.*

ДЗЁЎБАЛА (дзёўбыла) *м.* Дурань. *Табе ні трактыр, табе тыпыра даверць нільзя, дзёўбыла ты.*

ДЗІРАБАЦЬ (дзірабыць) *незак.* 1. Драпаць пальцамі. *Гэта мяне Лена падзірабыла.* 2. Палоць. *Дзіраблю рыгулярна, а трава расьце.*

ДЗЮ′ГНУЦЦА *зак.* Ударыцца лбом. *У цімнаце дзюгнуўся аб вугыл, гузак набіў.*

ДЗЮЛЁК і ДЗЮ′ЛІК *м.* Парсючок. *Харошынькі дзюлёк. Нешта зыхварэў наш дзюлік.*

ДЗЮ′НДЗІК (дзюньдзік) *м.* Размазня, хлюпік. *Чаго ты зыскывытаў, дзюньдзік?*

ДЗЮНДЗІКАВА′ТЫ (дзюньдзікываты) *прым.* Слюнцявы. *Дзюньдзікываты твой зяць.*

ДЗЮРО′К *м.* 1. Цурок. *Пот сы лба дзюрком бяжыць.* 2. Ручаінка. *Дзюркі пы дарозе пабеглі.*

ДЗЮРЧЭ′ННЕ (дзюрчэньня) *н.* Цурчэнне. *Люблю я слухыць дзюрчэньня вады вясной.*

ДЗЮРЧЭ′ЦЬ *незак.* Струменіць, ліцца. *Выда з гары дзюрчыць. Пот аж дзюрчыць сы лба.*

ДЗЯВУ′ЛЯ *ж., пагардж.* Дзяўчына-гультайка; белаstarучка. *Тыкая дзявуля, а хату ня ўмея прыбраць.*

ДЗЯРНО′ЎЕ (дзярноўя) *н.* Дзірван. *На гэтым дзярноўі нічога ня вырасьця.*

ДЗЯРНУ′Х *м.* Дзярно. *Дзярнух ны дзірнуху ліжаў, а бульба па воўчый гылаве вырысла.*

ДЗЯЎБА′К (дзіўбак) *м.* Інструмент для выдзёўбвання карыт. *Дзіўбак ступіўся, ня хоча сеч.* 2. *Зняваж.* Дурань. *Такога дзіўбака, як ён, пышукаць трэба.*

ДЗЯЎБІ′ЛА *м.* Размазня. *Ключ пыціраў, дык ходзя па полю, як дзяўбіла, шукая цяпер.*

ДЗЯЎБО′М *прысл., груб.* Не ўстаючы. *Сядзіць дзяўбом.*

ДЗЯЎБСЦІ *незак.* 1. Павучаць, вучыць. *Сколькі яму ні дзяўбі ў гылаву, усё роўна, як пень.*

ДЗЯЦЁНАК (дзяцёнык) *м.* Дзіця. *Ты ж ужо ні дзяцёнык, што табе нянька трэба.*

ДО′ і ДО′С *прысл.* Досыць. *Мне ўжо — до. Ня лі болі, мне — дос.*

ДО′СА і ДО′СЯ *прысл.* Досыць. *Доса, браток, доса. Зь мяне дося.*

ДО′СТКА *ж.* Дошка. *Тут жа раней достка ліжала, а цяпер німа.*

ДО′ЧА *ж., ласк.* Дачушка. *Хадзі ка мне, мыя доча.*

ДРА'БАЧ (драбыч) *м.* 1. Дзяркач. *Каб драбыч быў, то вуліцу падмёў бы.* 2. *Перан.* Стары, хваравіты чалавек. *Я ўжо драбыч, што зь мяне ўзяць.*

ДРАМА'К (дрымак) *м., гум.* Сон. *Ды самыга вечыра дрымыка дывай.*

ДРА'НКА *ж.* 1. Бабка. *Звары хоць раз дранкі.* 2. Гонта. *Ці хваця табе дранкі пуню накрыць?*

ДРА'Ч *м.* 1. Драч (птушка). *Драч у балоце крычыць.* 2. Дранік. *Драчы з марожыным салым еў.*

ДРЭ'ЎЦЫ *толькі мн.* 1. Кароткія дровы для растопы ў печы. *У мяне дрэўцы кынчаюцца, нечым будзе дровы рыстапіць заўтра.* 2. Саджанцы. *Дрэўцы цяпер у каўхозі прыдаюцца.*

ДРЫ'НДА *ж.* 1. Распусніца. *Рызвілася раз, з другім сыйшлася, а зноў як была, так і ёсць — дрында іна.* 2. Збродлівая карова. *Дзяцька, дзяцька, а ваша карова — дрында.*

ДРЫ'НДАННЕ (дрынданьня) *н.* Бадзянне. *Кідай ты сваё дрынданьня, ды жаніся як чылавек.*

ДРЫ'НДАЦЬ (дрындыць) *зак.* Блукаць, хадзіць без патрэбы. *Прывык дрындыць пы нычах. Карова ня ходзя, а дрындыя.*

ДРЫ'ПСА *ж.* Неахайная жанчына, дзяўчына. *Спадніцу пыпраў, дрыпса.*

ДРЫ'ХАННЕ (дрыханьня) *н., груб.* Сон. *І дзень, і ноч у яго дрыханьня.*

ДРЫ'ХАЦЬ (дрыхыць) *незак., груб.* Спаць. *Ты ж ад самыга абеда дрыхыіш.*

ДРЭ'НЧАННЕ (дрэнчыньня) *н.* Пагоршанне хваробы. *У маёй дзевычкі посьлі абеда ўзноў дрэнчыньня пычалося.*

ДРЭ'НЧАНЫ (дрэнчыны) *прым.* Нездаровы. *Цэлы месіц быў нейкім дрэнчыным, гылыва балела.*

ДРЭ'НЧЫЦЦА *незак., зал.-бессуб'ект.* ад дрэнчыць. *Нешта дрэнчыцца яму.*

ДРЭ'НЧЫЦЬ *незак.* Хварэць. *Калі ты пычаў дрэнчыць?*

ДУ'БАС (дубыс) *м., зняваж.* Перарастак. *Ходзя дубысам, а шчэ дзяціціцца.*

ДУЖА'К *м.* Моцны хлапчук. *Ня бойцеся, ён ні прастудзіцца, ён у нас — дужак.*

ДУНАЁК і ДУНА'ЙЧЫК *м.* Адуванчык. *Сарві мне адзін дунаёк. Ой, сколькі дунайчыкаў тут расце!*

ДУРАЛЕ'Й *м.* Дураслівец. *Што ты зьдзелыіш з дуралеім?*

ДУРАЛЕ'ЙКА *ж.* Дурасліўка. *Калі ты стала такой дуралейкый?*

ДУРАЛЕ'ЙСТВА *н.* Дурасліўства. *Калі ты пірыстаніш дуралействым зынімацца?*

ДУРДО'Л *м., зняваж.* Дурань. *Ці ж так бырывікі шукаюць, дурдол?*

ДУРДО'ЛА *ж., зняваж.* Дурніца. *З дурдолы які можа быць спрос. Узмацн.* Дурдоліна. *Дурдоліна ты, ягыды дзвюма рукамі бяруць, як карову доюць.*

ДУРКАВА'ТА (дуркывата) *прысл.* Па-дурному. *Дуркывата ты рызвыжаіш.*

ДУРКАВА'ТАСЦЬ (дуркыватась) *ж.* Свавольства, прыдурванне. *Я зь цябе дуркыватысь быстра выгыню.*

ДУРКАВА'ТЫ (дуркываты) *прым.* Дурасліві. *Ты і ў школі такі, як дома, дуркываты?*

ДУРКЕ'ША *ж.* Дурніца. *Ці там жа ты сваё плацця шукаеш, дуркеша? Узмацн.* Дуркешана (дуркешына). *Гэта ты дуркешына, а ні я.*

ДУ'РЫКІ *толькі мн.* Дур, глупства. *Дурыкаў у цябе многа. Хваця дурыкамі зынімацца.*

ДУРЫ'ЦЦА *незак.* Прыдурвацца, сваволіць. *Сколькі можна дурыцца, ці ні пыра ўрокі вучыць?*

ДУРЫ'ЦЬ *незак.* 1. Гаварыць глупства, назаляць размовамі. *А ні дуры ты маёй гылавы.* 2. Махляваць, аблічваць. *Хто цэн ня ведыя, тых ён і пычыная дурыць.*

ДУРЭ'Ц *м.* Дурaслівец. *Такі дурэц, што аж вочы ў яго круцюцца.* 2. Хітрэц. *Ня будзь дурцом, бяры, што даю, а не выбірай сам.*

ДУ'Х *м.* 1. Цеплыня. *Вакно пабіў, дык увесь дух з хаты выйшаў.* 2. Пара ў лазні. *Падкінь яшчэ трошкі духу.*

ДЭ'ЧАННЕ (дэчыньня) *н.* Павучанне. *Тваё дэчыньня яму ні ішло, ня ехала.*

ДЭ'ЧАНЫ (дэчыны) *дзеепрым.* Навучаны. *Кім ты дэчыны, што такім разумным стаў.*

ДЭ'ЧЫЦЦА *незак.* Навучацца, пераймаць. *Ён, відна, у маткі дэчыцца, што ваўком ны цябе глядзіць.*

ДЭ'ЧЫЦЬ *незак.* Павучаць, падбухторваць. *Ня трэба яго дэчыць, ён і сам усё ведыя.*

## Е

Е'ДАЛА (едыла) *ж.* 1. Страва. *Хай бы ты маё едыла атведыла.* 2. Абед. *Я едыла з сабой узіла.*

Е'ДЛА *н.* Страва. *Грыбочкі ды бульбычка — от гэта едла!*

Е'МЕНКА (ёмінка) *ж.* Бульба да спажывання. *Чатыры мяшкі емінкі ныкыпала.*

Е'НТА *займ.* Гэта. *Ента ж я ні падумыла і скызанула.*

Е'НТЫ *займ.* Гэты. *Енты пырысёнык усё шлуньня пыпырвағ. Ентае надвор'я ўсе планы сырвала. Ентыя пустухі нічагусінькі ні глідзяць.*

Е'СТА *займ.* Гэта. *Еста было, здаецца, тым летым.*

Е'ЖЛІ і ЕЖА'ЛІ *злучн.* Калі, як. *Ежлі ты хочыш ехыць, дык садзіся. Ежалі дам, дык болі ні палезіш.*

Ё *дзеясл.* Ёсць. *У цябе ё зыкурыць? Ё паехыць у лес. Без майго ё рышылі і зьдзелылі.*

ЁКАТ (ёкыт) *м.* Лямант, скавытанне. *Даў сыбаку пы хрыбту, дык на ўсю дзярэўню ёкыт пыдняў.*

# Ж

ЖА'БІЦЦА *незак.* Перагінацца і на згібе трэскацца. *Пылазы жабюцца, пыглядзі, што ты дзелыіш.*

ЖА'БІЦЬ *незак.* Перагінаць. *Ня трэба дужа жабіць, а то патрэскыіцца палозьзя.*

ЖАВІ'НІНА *ж.* Ягада ажыны. *Дай мне адну жавініну пыспытаць.*

ЖАВІ'ННІК (жавіньнік) *м.* Ажыннік. *Столькі многа жавіньніку лі балоцца.*

ЖАДЗЮ'БА *м.* і *ж.* Скнара. *Калі ты жадзюба, дык рызапрэ твой бок ніхай. Узмацн.* Ж а д з ю б і н а.

ЖАРАВІ'ТАСЦЬ (жыравітысь) *ж.* Пражорлівасць. *І жыравітась была ў каровы, а мылака ні было.*

ЖАРАВІ'ТЫ (жыравіты) *прым.* Пражорлівы. *Мой кыбан дык і дужа жыравіты.*

ЖВА'КА *ж.* Жвачка. *Карова жваку пыцірала, ідзі пы віцінара.*

ЖВЕНЬКА'ЛА (жвенькыла) *м.* і *ж.* Пляткарка, пляткар. *Я і ня думыў, што ты такі жвенькыла, плявускыіш што ня трэба.*

ЖВЕ'НЬКАННЕ (жвенькыньня) *н.* Пляткарства, плявузганне. *Ныдаела мне ваша жвенькыньня. Ці ё за што, ці німа — жвенькыньня чую.*

ЖВЕНЬКАЦЬ (жвенькыць) *незак.* Пляткарыць, балбатаць. *Заўтра будзіш зь ёй жвенькыць, а сяння ідзі дамоў.*

ЖМІНДАННЕ (жміндыньня) *н.* Плявузганне, пляткарства. *Жміндыньня, хоць адбаў.*

ЖМІНДАЦЬ (жміндыць) *незак.* Плявузгаць, пляткарыць. *Ні ныдаела табе жміндыць?*

ЖМОТ і ЖМУТ. *м.* Скнара. *Грышка вялікі жмот, у яго дужа нічога ня схопіш.*

ЖМУ'ЙЛА *м.* Скнара. *Жмуйла і вады напіцца ні дась.*

ЖМУ'ЦІЦЬ *незак.* Скупіцца. *Чаго ты жмуціш, аддывай за сто.*

ЖУ'ЖАЛЯ (жужыля) *ж.* Бруд у вадзе. *Там усякыя жужыля, а ты яе п'еш.*

ЖУРАВЕ'Й *м.* Журавель. *Журавей у гумно прыляцеў.*

ЖЫ'ЖА *ж., дзіц.* Агонь. *А вуна жыжа гарыць.*

ЖЫ'ЛІНА *ж.* Жыла. *Кызалі, што нейкыя жыліна ў яго лопнула.*

## З

ЗАБАБО'НСТВА (зыбабонства) *н.* Забабоны. *Ніякіх багоў ні было і німа — зыбабонства гэта.*

ЗАБАБО'ННІЧАЦЬ (зыбабоньнічыць) *незак.* Верыць забабонам. *Зь якога часу ты пычаў зыбабоньнічыць?*

ЗАБА'ВІЦЦА (зыбавіцца) *зак.* Затрымацца, загуляцца, разгуляцца. *Я ні зыбаўлюся, скора прыду. Ён зыбавіўся з цацкымі і ні плача.*

ЗАБАЛАБО'НІЦЬ (зыбылабоніць) *зак.* 1. Зазваніць. *Зыбылабоніш ты пірапынык.* 2. Забалбатаць. *Зыбылабоніла на ўвесь двор, ці сьціхніш ты?*

ЗА'БАРСТКА (забырска) *ж.* Пятля ў лапці для прадзявання аборы. *Забырскі ў лапціх пыгнілі.*

ЗАБУЗІ'ЦЬ (зыбузіць) *зак.* Забуяніць. *Калі ты яшчэ раз зыбузіш, то мала табе ня будзя.*

ЗАВА'ЛІНА (зываліна) *ж.* Прызба. *Ён сядзеў на зываліні і курыў.*

ЗАВА'Л (зывал) *м.* 1. Завала. *Пыд варотымі зывал.* 2. Вал сена. *І там сухія зывалы ліжаць.* 3. Беспарадак. *На столі такі зывал, што ні рызьбярэсься.* 4. Адставанне. *У яго рабоці пойны зывал.*

ЗАВАДСКІ' (зывацкі) *прым.* 1. Племянны. *Зывацкога жырыбка прыгналі ў брыгаду.* 2. Гатунковы. *А тута ў нас ляжыць зывацкі ячмень.*

ЗА'ВАРАЦЕНЬ (завырыцінь) *м.* 1. Моцная вяроўка для прывязвання аглабель да саней. *Глядзі, каб завырыцінь цябе ні падвёў, можа пырвацца.* 2. Віp. *Бачыш, які завырыцінь, выда аж чорныя.*

ЗАВІ'ДАЛА (завідыла) *м.* і *ж.* Зайздроснік. *Калі ты стала завідылый?*

ЗАВІНУ'ЦЬ (зывінуць) *зак.* Загарнуць. *Зывіні сала мне ны дарогу.*

ЗАГА'ЖНІК (зыгажнік) *м.* Кашалёк. *У маім зыгажніку рублей пяць, ня болі.* 2. Бакоўка. *Сала ў зыгажніку ляжыць.*

ЗА'ГАРАДЗЬ (загырыць) *ж.* Абгароджанае стойла ў полі. *Каровы цэлы дзень у загырыдзі стыяць.*

ЗА'ГАРАДНЯ (загырыдня) *ж.* Сцяжына па-за агародамі. *Вуныцька ён пы загырыдні чэша.*

ЗАГРЫ'ЎЕ (загрыўя) *н.* Нізінка перад высокім берагам. *Ны загрыўі асыка ўрост чылавека.*

ЗА'ЕДЗЬ (заідзь) *н.* Машкара. *Тыкая заідзь у лесі, хоць ні пыказувыйся.*

ЗАЖЫМА'КА (зыжымака) *м.* і *ж.* Скнара. *У зыжымакі нічога ня вымырычыш.*

ЗАЗЫКАВА'ЦЬ (зызыкуваць) *зак.* Загізаваць. *Каравы зызыкувалі ў кусты.*

ЗАІКА'СТЫ (зыікасты) *прым.* Заіклівы. *Сы страху чуць зыікастым ні стаў.*

ЗАЙЧЭ'НАК (зайчэнык) *м.* Зайчанё. *Во такенькыга зайчэнка дамоў прынёс, а цяпера ныстыяшчы заіц.*

ЗАКАВЫ'РКА (зыкавырка) *ж.* Закавыка. *З гэтай зыкавыркый ня лёгка рызыбрацца будзя.*

ЗАКАНДЗЁХАЦЦА (зыканьдзёхыцца) *зак.* Стаміцца ў хадзе. *Можна хырашо зыканьдзёхыцца пы такой дарозі.*

ЗАКАНДЗЁХАЦЬ (зыканьдзёхыць) *зак.* Зайсці куды-н. па цяжкай дарозе. *Ня скора ты зыканьдзёхыіш у сваё Прыхабы.*

ЗАКАНА'РКАЦЬ (зыкынаркыць) *зак.* Пачаць моцна прасіць, вымагаць. *А цірыз пяць мінут зыкынаркыіш есьці?*

ЗАКАЖАНЕ'ЦЬ (зыкыжанець) *зак.* Зачарсцвець. *Хлеб ужо зыкыжанеў у торбі.*

ЗАКАЖАНЕ'ЛЫ (зыкыжанелы) *прым.* Неспагадлівы. *Такі зыкыжанелы стаў, што хоць вока яму калі, дык ні пувурухнецца.*

ЗАКО'П *м.* Капец бульбы, буракоў. *Два закопы ішчэ ні пычынали. Гэта закопы рыстыраныўскія?*

ЗА'КУСАК (закусык) *м.* Закусь. *Гарэлкі было, хоць жывот рысьпіражы, а закуска мылывата.*

ЗАЛАБАВО'ЗІЦЬ (зылыбавозіць) *зак.* Узяцца за працу шчыра. *Зылыбавозіў, аж пот зыдзюрчэў сы лба, было нам...*

ЗАЛЫ'ЗГАЦЬ (залызгыць) *зак.* Пачаць папрашайнічаць, пабірацца. *Залызгыў ужо, ці ты пыпірос ня можыш сабе купіць?*

ЗАМАНДРА'ЖЫЦЦА (зымындражыцца) *зак.* Спалохацца. *Ён зайца ўбача і зымындражыцца.*

ЗАМЕ'СТА *прысл.* Замест. *Ты заместа быка купіў бы індзюка.*

ЗАМЫЛЁХА (зымылёха) *ж., гум.* Скромніца, ціхоня. *Прыдзя, бывала, ны вічарынку і сядзіць зымылёхый, рот ні разіня.*

ЗАМЭ'НЧЫЦЦА *зак.* Стаміцца. *Ны сінакосі замэнчыўся.*

ЗАМЭ'НЧЫЦЬ *зак.* Стаміць. *Сам замэнчыўся і кыня замэнчыў.*

ЗАПІКА'Н (зыпікан) *м.* Моцны тытунь. *У мяне зыпікан, ты яго ня будзіш курыць.*

ЗАПІЎКА *ж.* Тое, чым запіваюць гарэлку. *А што вам ны запіўку даць? Пакінь мне запіўкі.*

ЗА'РАСЛІК (зарысьлік) *м.* Хмызняк. *У тым жа зарысьліку ваўкі вадзіліся.*

ЗАСКА'БІЦЦА (зыскабіцца) *зак.* Застраміцца. *Паліц зыскабіўся, дык нейдзя дзецца, баліць.*

ЗАСКА'БІЦЬ (зыскабіць) *зак.* Застраміць. *Достка няроўныя, дык глядзі, каб руку ні зыскабіў.*

ЗАСКА'БЛЕНЫ (зыскаблены) *дзеепрым.* Застрэмлены. *Паліц зыскабліны быў, дык нырваў.*

ЗАСКА'БЛІВАЦЬ (зыскаблівыць) *незак.* Застрэмліваць. *Сяньня ўжо другі раз руку зыскаблівыю.*

ЗАСПІ'ЧАНЫ (засьпічыны) *дзеепрым.* Злоўлены. *Толькі мяшок насыпыў, тут і быў засьпічыны сторыжым.*

ЗАСПІ'ЧВАННЕ (заспічывыньня) *н.* Нястрыманае жаданне, хаценне. *У цябе засьпічывыньня схадзіць на рыбу, а ў мяне — у грыбы.*

ЗАСПІ'ЧЫЦЬ (засьпічыць) *зак.* 1. Захацець. *Сын жаніцца засьпічыў.* 2. Злавіць. *Яго ня лёгка было засьпічыць, хітры быў жулік.*

ЗАСПІ'ЧВАЦЬ (засьпічывыць) *зак.* Лавіць. *Каторы раз ты яго засьпічывыіш, а што толку?*

ЗАСКУВА'НЫ (зыскуваны) *дзеепрым.* Зацкаваны. *Пабег, як зыскуваны сыбака.*

ЗАСМЫ′ЖЫЦЬ *зак.* Закурыць. *Дай-ка я засмыжу ў цябе разок.*

ЗАСМЫЛЕ′ЦЬ (зысмылецъ) *зак.* 1. Забалець. *Рукі зысмылелі ад касы.* 2. Моцна захацець. *Зыкурыць як зысмыліць, а прыкурыць німа чым.*

ЗАСТУПІ′ЦЬ (зыступіць) *зак.* Закрыць, засланіць. *Зыступіў ты мне сьвет, нічога ні бачу.*

ЗАСТУПЛЯ′ЦЬ (зыступляць) *зак.* Закрываць, засланяць. *Я табе ні зыступляю, сонца зь цябе мала, ці што?*

ЗАСЮСЮКАНЫ (зысюсю́кыны) *дзеепрым.* Зганьбаваны. *Нічога яму ні кажы: ён і біз таго зысюсюкыны ўсімі.*

ЗАСЮСЮ′КАЦЦА (зысюсюкыцца) *зак.* Надоўга загаварыцца. *Пойдзіш ны мінутку, а зысюсюкыісься там да вечыра.*

ЗАСЮСЮ′КАЦЬ (зысюсюкыць) *зак.* Загаварыць каго-н. *Ты яго тутыцька зысюсюкый трошкі, пакуль я прыду.*

ЗАСЮСЮ′КВАЦЦА (зысюсюкывыцца) *зак.* Загаворвацца, затрымлівацца за размовай. *Кожны раз ты зысюсюкывыісься сы сваімі кумкымі.*

ЗАСЮСЮ′КВАЦЬ (зысюсюкывыць) *зак.* Загаворваць. *Хай ужо ідзець, што ты яго зысюсюкывыіш?*

ЗАСЯДЗЕ′ЛКА (зысядзелка) *ж.* Векавуха. *Дуня ўжо зысядзелка: трыццыць гадоў.*

ЗАТАГАНІЦЬ (зытыга́ніць) *зак.* Занесці хутка. *Такую ношку зытыганіла, ну, табе зносу ня будзя.*

ЗАТРЭШЧЫНА *ж.* Аплявуха. *Каб даў затрэшчыну, дык можа пурузумнеў бы.*

ЗАТУ′КАНЫ (затукыны) *дзеепрым.* Запалоханы. *Ці ні мачыхый ён затукыны?*

ЗАТУ′КАЦЬ (затукыць) *зак.* Напалохаць. *Чаго ты ны яго крычыш, саўсім затукыіш хлапчэнка.*

ЗАТУ′РАНЫ (затурыны) *дзеепрым.* Загнаны. *Коні аж пад лес затурыны.*

ЗАТУРЫ′ЦЦА (зытурыцца) *зак.* Зайсці са статкам. *Зытурыўся з каровымі за блізкі сьвет.*

ЗАТУРЫ′ЦЬ (зытурыць) *зак.* Загнаць. *Тады мы немцыў аж пыд Бірызіно зытурылі.*

ЗАЦЕ′ПКАЦЦА (зацепкыцца) *зак.* Замітусіцца. *Бугалцір зацепкыўся, а я і пудсунуў яму паперку.*

ЗАЦЕ′ПКАЦЬ (зацепкыць) *зак.* Замаргаць. *Нялоўка яму стала, сеў, вычамі зацепкыў.*

ЗАЧАМАДО′РЫЦЦА (зычымадорыцца) *зак., не-*

*адабр.* Заганарыцца. *Зычымадорыўся, дык і пыгыварыць ня хоча.*

ЗА'ШЧАПКА (зашчыпка) *ж.* Дзвярны кручок. *Клямку прыбіў, прыбівай цяперыцькі зашчыпку.*

ЗАШЧАПІ'ЦЬ *зак.* Закрыць на кручок. *Пыглядзі, можа ты забыўся дзьверы зышчапіць наныч.*

ЗАШЧАПЛЯ'ЦЦА (зышчыпляцца) *зак.* Закрывацца, замыкацца. *Я ніколі ні зышчыпляюся.*

ЗАШЧАПЛЯ'ЦЬ (зышчыпляць) *зак.* Зачыняць на кручок. *Ня трэба зышчыпляць, я скора вярнуся.*

ЗАШЧЭ'ПЛЕНЫ (зашчэпліны) *дзеепрым.* Закрыты на кручок. *Дзьверы былі зашчэпліны.*

ЗАШЧАРБІ'ЦЬ (зышчарбіць) *зак.* Затупіць, зазубіць. *Як ты так тапор зышчарбіў?*

ЗАШЧЭ'РБЛІВАЦЬ (зашчэрблівыць) *незак.* Затупляць. *Ты мне кожны раз тапор зашчэрблівыіш.*

ЗАШЫ'ЙНІК *м.* Шалік. *Ой, зашыйнік у школі забыўся.*

ЗАЮКАЦЕ'ЦЬ (зыюкацець) *зак.* Пусціцца з усіх ног наўцёк. *Так зыюкацеў, што іскры з-пыд пят сыпыліся.*

ЗАЯ'ЎКАЦЬ (зыяўкыць) *зак.* Заенчыць, залемантаваць, заскавытаць. *Сыбака заяўкыў, як рэзыны.*

ЗБАЖАЦЦА (збыжацца) *незак., іран.* Неахвотна ўступіць. *Неік збажыўся, даў кыня і мне.*

ЗБА'ЖЫЦЦА *зак., іран.* Сабрацца. *Ці збожысься ты мацці пісьмо ныпісаць?*

ЗБА'ЙСАНЫ (збайсыны) *дзеепрым., неадабр.* Згублены. *А кім мой мылаток збайсыны?*

ЗБА'ЙСАЦЬ (збайсыць) *зак., неадабр.* Згубіць. *Ня руш маю ручку, збайсыіш.*

ЗБАЧЫ'ЦЬ *зак.* Не дагадзіць, не ўладзіць, не патрапіць. *Чым я табе збачыў, што ты рыскрычаўся.*

ЗБО'ЖВАННЕ (збожывыньня) *н., іран.* Ласка. *Ня трэба мне такоя тваё збожывыньня.*

ЗБО'ЖВАЦЦА (збожывыцца) *незак., іран.* Рабіць ласку, прыемнасць. *Можа ты і за стол сесьці збожывыісься?*

ЗБО'ЖВАЦЬ (збожывыць) *незак., іран.* Рабіць ласку, даваць. *За цэлы месіц ты мне толькі дзісятку збожывыіш.*

ЗБУНТАВА'НЫ (збунтуваны) *дзеепрым.* Збіты з толку, з тропу. *Збунтуваны — ні п'яны, рызьбярэцца.*

ЗБУНТАВА'ЦЦА (збунтувацца) *зак.* Заблытацца, памыліцца. *Збунтуваўся ў дарозі, дык у балота выйшаў.*

ЗБУНТАВА'ЦЬ (збунтуваць) *зак.* Заблытаць. *Ты мне ўсё дзела збунтуіш.*

ЗБЯЛЕДАВАНЫ (зьбялёдывыны) *дзеепрым.* Спляжаны. *Увесь мой гарод конімі зьбялёдывыны.*

ЗБЯЛЁДАВАЦЬ (зьбялёдывыць) *зак.* Спляжыць, стаптаць, зглуміць. *Пакуль я ля печы зынілася, дык сьвінні ўспелі ўсю бульбу зьбялёдывыць.*

ЗВІХРЫ'ЦЦА *зак., неадабр.* Знікнуць у невядомым кірунку. *А Васіль ні знаю куды ўжо звіхрыўся.*

ЗВЫ'РКА *ж., асудж.* Плакса. *Ці сьціхніш ты, звырка?*

ЗВЫ'РАННЕ (звырыньня) *н., асудж.* Плач. *У дзяцей дзесіць раз на дні звырыньня.*

ЗВЫ'РЫЦЦА *незак., асудж.* Плакаць. *Пайшоў на вуліцу звырыцца, каб ніхто ня чуў.*

ЗВЫ'РЫЦЬ *незак., асудж.* Плакаць. *Бяры сваю кніжку і кынчай звырыць.*

ЗВЯ'КАЎКА (зьвякыўка) *ж., неадабр.* Языкатая жанчына. *Хто сы зьвякыўкай добры ўжывецца?*

ЗВЯ'КАННЕ (зьвякыння) *н., неадабр.* Пляткарства. *Гэта ні праўда, гэта зьвякыння, я зразу пайшоў дамоў.*

ЗВЯ'КАЦЬ (звякыць) *незак., перан.* Бурчаць. *Зьвякыіш толькі і ўсё.*

ЗВЯ'КІ (зьвякі) *толькі мн., неадабр.* Плёткі. *Хваця табе зьвякі вадзіць.*

ЗВЯ'КНУЦЬ (зьвякнуць) *зак., перан., неадабр.* Пусціць пагалоску, чутку. *Нехта звякнуў, а ён за чыстую манету прынімая.*

ЗГРУЗДЗІ'ЦЦА (згрузьдзіцца) *зак.* Выгрузіцца. *Тут няма ўжо і згрузьдзіцца дзе.*

ЗГРУЗДЗІ'ЦЬ (згрузьдзіць) *зак.* Згрузіць, выгрузіць. *А дзе мне салетру згрузьдзіць можна?*

ЗҐАМЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Сказаць невыразна ў нос. *Што ні слова, то і згамзіць, ці ён гаварыць ня ўмея.* 2. Расказаць няўмела, не цікава. *Што ён цяперыкі нам згамзіць?*

ЗДА'ЛІКУ *прысл.* Здалёк. *Я здаліку цябе ўгыдаў пы пахоццы.*

ЗДЗІ'РАШ (зьдзірыш) *м.* Дураслівец. *На гэтых зьдзірышыў штаноў ні ныбярэшся.*

ЗДЗІ'РЫШНЫ (зьдзірышны) *дзеепрым.* Дураслівы. *Зьдзірышныя дзеці цяперыка.*

ЗДО'ХЛІК *м., груб.* Хваравіты хлапчук. *А меншы мой сын здохлік нейкі.*

З'Е'ДЗЬ (зьедзь) *н., неадабр.* Вялікая колькасць жывёлы. *Тысіча сьвіньней на фермі, тыкая зьедзь, а ўсім дай ды дай есьці.*

ЗЕ'ЛКІ *мн., абразл.* Вочы. *Чаго ты ны мяне свае зелкі вытырышчыў?*

ЗЕ'ЛЬНА *прысл.* Тлумна, шумна, *Дужа зельна было ны вясельлі.*

ЗЕ'РАННЕ (зерыньня) *н.* Слабае свячэнне. *Зерыньня, нічога ні магу прычытаць.*

ЗЕ'РЫЦЦА *незак.* Сьвяціцца слаба. *Нешта там зерыцца.*

ЗЕ'РЫЦЬ *незак.* Слаба свяціць. *Раней у нас кырасіныбыя лямпы былі, ні свяцілі, а зерылі. Ні туды ты зерыш.*

ЗЕ'РНЕВА (зерніва) *н.* Зерне. *Пыглядзі, якоя вялікыя зерніва.*

ЗЛАТАШО'НЫ (злыташоны) *дзеепрым.* Абтрэсены, абабраны. *Адна ігрушына і тая злыташоныя стаіць як сірыта.*

ЗЛАТАШЫ'ЦЬ (злыташыць) *зак.* Абтрэсці, абабраць. *Увесь сад за ноч злыташылі.*

ЗЛЕ'ТАВАНЫ (зьлетывыны) *прым.* Цёплы. *Кампот зьлетывыны, пі.*

ЗЛЕ'ТАВАЦЬ (зьлетывыць) *зак.* Правесці лета. *Мае дзеці ў дзярэўні зьлетывылі.*

ЗЛЕ'ЦІЦЦА (зьлеціцца) *зак.* Стаць цеплаватай (аб вадзе), сагрэцца. *Хай выда зьлеціцца, тады і памыісься.*

ЗЛЕ'ЦІЦЬ (зьлеціць) *зак.* Падагрэць, зрабіць цеплаватай. *Вады я магу вам зьлеціць.*

ЗЛО'ДЗІ *м.* Злодзей. *Пы вычах відна, што злодзі.*

ЗЛЯ'Б (зьляб) *м., пагардж.* Непрыглядны, мізэрны чалавек. *Я зы такога зьляба ні пышла б.*

ЗЛЯБО'ЎКА (зьлябоўка) *ж., пагардж.* Непрыглядная, мізэрная жанчына. *Дзе ён выпырыў такую зьлябоўку.*

ЗЛЯБО'ЎСТВА (зьлябоўства) *н., пагардж.* Непрыгляднасць, мізэрнасць. *Столькі зьлябоўства, як у вас ны вічарынцы, нійдзе німа.*

ЗЛЫ'БЯДЗЕНЬ (злыбідзінь) *м.* Злыдзень. *Чаго ты ходзіш, як злыбідзінь, ад хаты ды хаты?*

ЗНАКАМЕ'Ц (знакамец) *м.* Знаёмы, дабрадзей. *Знакамец мне ў дарозі пыпаўся.*

ЗНА'ЛІЦА *ж.* Адваротны бок. *Пыкажы-ка мне зналіцу сваёй кохты.*

ЗНАЦЦЁ (знацьцё). Веданне. *Каб гэта знацьцё, што ёсць там польты, дык схадзіў бы пыглядзеў.*

ЗНЕ'ГРЫЦЦА (зьнегрыцца) *зак.* Уцячы, ухіліцца, схавацца. *Куды б ужо ён мог зьнегрыцца?*

ЗНЕ'ГРЫЦЬ (зьнегрыць) *незак.* Украсці. *Ты маю махорку зьнегрыў, прызнавайся?*

ЗНЕ'ЦЕЛЬКІ (зьнецількі) *прысл.* Знянацку. *Ён мяне зьнецількі за грудзі схапіў.*

ЗНЕ'ЦІКІ (зьнецікі), ЗНЕ'ЦЕЙКІ (зьнецейкі) і ЗНЕ'ЦІКУ (зьнеціку) *прысл.* Знянацку.

ЗНІ'БАДА (зьнібыда) *м.* і *ж.* Несамавіты чалавек. *Такой зьнібыдай стала, як замуж выйшла, што глядзець ны яе ня хочыцца.*

ЗНІ'БАДЗЬ (зьнібыдзь) *ж.* Непрыгляднасць, мізэрнасць. *Зьнібыдзь адна, а ні касьцюмы.*

ЗНІ'БАДНА (зьнібыдна) *прысл.* Несамавіта, непрыглядна. *Чылавек іньцілігентны, а ходзе зьнібыдна саўсім.*

ЗНІ'БАДНАСЦЬ (зьнібыднысь) *ж.* Мізэрнасць, непрыгляднасць. *Зьнібыднысьці ў яго хоць адбыўляй.*

ЗНІ'БАДНЫ (зьнібыдны) *прым.* Непрыглядны, непрыгожы. *Ні скызаць, што ў горыдзі жыве — зьнібыдны быў і астаўся.*

ЗРАКЛІ'ВА *прысл.* Уважліва, прадбачліва. *Наш старшыня зракліва глядзіць, што дзелыць. Зракліва глядзець трэба.*

ЗРАКЛІ'ВАСЦЬ (зраклівысь) *ж.* Зрок. *У цябе зраклівысь, як у мыладога.*

ЗРАКЛІ'ВЫ *прым.* 1. Чалавек з добрым зрокам. *Зраклівы ты, далёка бачыш.* 2. *Перан.* Прадбачлівы. *Зраклівы гыспыдар усягды ў выйгрышы.*

ЗЯ'БРЫ *толькі мн.* Жабры. *Шчуку зы зябры браць трэба, каб ні ўцікла.*

ЗЯЛЕ'ПКА і ЗЯЛЕПУХА *ж.* Зялёная ягада, плод. *Якія там ягыды, дзеці зялепкымі іх аб'елі.*

ЗЯЛІ'ЦЦА *незак.* Тлуміцца. *Хваця зяліцца, пашлі дамоў.*

ЗЯЛІ'ЦЬ *незак.* Тлуміць. *Ні хачу я гылавы зяліць з тваімі дзяцьмі. Зеліш ты сваімі песьнімі ўсю хату.*

# І

ІВУ'ЛЯ *м.* Дзялок. *Шапка ны івулі гарыць, так і глядзіць, каб што сцёбнуць.*

ІЗРУ'Б *м.* Зруб. *Ізруб для клуба рубім цяперыка.*

ІЛЮМІ'НЬ *м.* Алюміній. *Мы здалі пяць тон жалеза і сорык кілыграм ілюміню.*

ІЛЮМІ'ННЫ *прым.* Алюмініевы. *А дзе наша ілюмінныя кружка.*

ІМЕ'ННЕ (іменьня) *н.* Хата, двор. *Вуна і маё іменьня стаіць.*

ІСТРУ'Б *м.* Барадаўка, балячка. *Ны плячо іструб сеў.*

ІСТРЫ'ЦЬ *незак.* Вастрыць. *Пынясу ў кузьню нажы істрыць.*

ІСТРЭ'ННЕ (істрэньня) *н.* Вастрэнне. *І піла ўжо істрэньня прасіла.*

І'ЦЬВІНА *ж.* Вяз у санях. *І з гэтый бярозычкі харошыя іцьвіна палучыцца.*

# К

ҚАБАНЁНАҚ (кыбанёнык) *м.* Парсючок. *Купілі кыбанёнка, ды дужа ня хоча есьці.*

ҚАБУ'СІҚ *м.* Парсючок.

ҚАВІЛА' (кывіла) *ж.* Мыліца. *Два гады посьлі вайны кывілы з рук ні выпускаў.*

ҚАВЫЛЯ'ННЕ (кывыляньня) *н.* Кульганне. *Ня столькі тога калецтва, сколькі кывыляньня.*

ҚАВЫЛЯ'ЦЬ (кывыляць) *незак.* Кульгаць. *Қывыляю ад самый вайны.*

ҚАГАЛ (кыгал) *м., іран.* Вялікая неарганізаваная група. *Вам такім кыгалым тут німа чаго дзелыць.*

ҚАЙСТРА' *ж.* 1. Қастрыца. *Лён, здаецца, быў харошы, а кайстры многа.* 2. Палатняная сумка. *Мой нож у кайстры зыстаўся.*

ҚАЙСТРЫ'СТЫ *прым.* З кастрыцай. *Қайстрыстыя кудзеля.*

ҚАЛАҚАЛУ'ША (кылыкалуша) *ж.* Чаромха. *У нас многа кылыкалушы пыд вакном расьце.*

ҚАЛАСАВА'ЦЦА (кылысывацца) *незак.* Қаласавацца. *Жыты пычалі кылысывацца.*

ҚАЛАСО'ЎҚА (кыласоўка) *ж.* Қаласаванне. *Ны пылях поўныя кыласоўка цяпер.*

ҚА'ЛІВА *н.* 1. Зернетка. *Чыста вымылачывыіцца, ні каліва ні зыстаецца ў калоссі.* 2. Қропля. *Выпіў каліва ды іду дамоў. Памянш.* К а л і ў ц а.

КАЛО'ДАЧКА (калодычка) *ж.* 1. Калодачка. *Мяса ны калодыццы сячы.* 2. Дзяржанне нажа. *Самыя харошыя калодычка зь бярэзіны.*

КАЛТЫ'ЖЖА *мн., н.* Камякі мёрзлай зямлі на дарозе. *Пы калтыжжу ехыць дрогка.*

КАЛТЫЖЫ'НА *ж.* Камяк мёрзлай зямлі. *Калтыжына ны калтыжыні, якая гэта дарога?*

КАЛТЫ'ЖЫСТЫ *прым.* Няроўны, пакрыты камякамі мёрзлай зямлі. *Дужа дарога калтыжыстыя, ні разгонісься.*

КАЛТЫ'ЖЫЦЦА *незак.* Трэсціся, едучы па няроўнай дарозе. *Калтыжысься, калтыжысься, аж у гылаве дурна станя.*

КАЛУПА'С (кылупас) *м.* Чалавек, які не спяшаецца, робіць марудна. *Ты ў сылдатых быў ці ня быў, што як кылупас выбіраісься.*

КАЛУ'ПША *ж.* Нетаропкая, марудная жанчына. *Ці скора ты зьбярэсься, калупша?*

КАЛЮ'ГА *ж.* Брудная лужына на дарозе. *Уехыў у калюгу — ні нызад, ні ўперыд цяперыка. Узмацн.* Калюжына.

КАМІДО'РЫНА *ж.* Памідор. *Зьела кымідорыну і яшчэ зыхацелыся.*

КАМЛЫ'ЖЖА *н., зборн.* Камякі мёрзлай зямлі. *Камлыжжа ны дарозі.*

КАМЛЫЖЫ'НА *ж.* Камяк мёрзлай зямлі.

КАМЛЮ'Х *м.* Камель. *Пымажы мне камлюх пыгрузьдзіць.* Памянш. Камлюшок (кымлюшок).

КАНАПА'ЦІК (кыныпацік) *м.* Хлапчук з рабаціннем на твары. *Яму кыныпацікым быць красіва.*

КАНАПА'ТКА (кыныпатка) *ж.* Дзяўчына з рабаціннем на твары. *Яе нявестка хоць і кыныпатка, ды красівыя.*

КАНА'РКАЛА (кынаркыла) *м.* і *ж.* Чалавек, які вымагае, выпрошвае. *Ад кынаркылы ні аччэпісься.*

КАНА'РКАННЕ (кынаркыньня) *н.* Вымаганне. *Кожны раз, чуць дзень, з кынаркыньнім бяжыць у праўленьня.*

КАНА'РКАЦЦА (кынаркыцца) *незак., неадабр.* Прасіцца. *Ужо дамоў кынаркыісься?*

КАНА'РКАЦЬ (кынаркыць) *незак., неадабр.* Прасіць, вымагаць. *Кынчай кынаркыць, нічога я табе ні дам.*

КАНДЗЁХАННЕ (кыньдзёхыньня) *н.* Цяжкая хадзьба. *Кыньдзёхыньня хапіла, а толку мала.*

ҚАНДЗЁХАЦЬ (каньдзёхыць) *незак.* Ісці па цяжкай дарозе. *Каньдзёхыіш, каньдзёхыіш, а толку мала.*

ҚАНДЗІБО'БЕР (кыньдзібобір) *м., іран.* Спосаб, метад. *Пыднімаць гэта бірвяно трэба саўсім другім кыньдзібобірым.*

ҚАНДЗЮ'Қ (каньдзюк) *м., груб.* Страўнік. *Набіў свой каньдзюк, а чым занімацца будзіш цяпера?*

ҚАПА'НІҚІ (кыпанікі) *толькі мн.* Сані, у якіх палазы з дрэва, выкапанага з коранем. *Кыпанікі дужа цяжкія сані.*

ҚАПА'ЧҚА (кыпачка) *ж.* Жанчына, якая працуе на копцы бульбы. *У мяне было тры кыпачкі.*

ҚА'ПАЧҚА (капычка) *ж.* Кропелька, дажджынка. *Дождж будзя, мне капычка на нос пыпала.*

ҚА'ПАЧҚУ (капычку) *прысл.* Крышку. *Қапычку пыдстаў бліжы свой чымыдан.*

ҚА'ПЕЛЬҚА (капілька). Кропелька. *Қаб хоць капілька вады была.*

ҚА'ПЕЛЬҚУ (капільку) *прысл.* Трошачкі, крышачку. *Сядзь капільку бліжы. Яшчэ капільку пыкладзі.*

ҚА'ПҚУ *прысл.* Крышку. *І мне хоць капку мылыка пакінь.*

ҚАПЕ'ШҚА *ж.* Невялікая капа сена ці саломы. *Трэба і тую капешку прыцягнуць к стогу.*

ҚАПЕ'Ц *м.* 1. Қапец (бульбы). *Қапец бульбы зьмерз у пятый брыгадзі.* 2. *Перан.* Қаюк. *І капец тут быў пыліцэйскыму гырнізону.*

ҚАПУ'СЦІЦЦА (капусьціцца) *незак.* Раскошна садзіцца, рассядацца. *Ты, як пан, капусьцісься.*

ҚАПУ'ХА *ж.* Нетаропкая, марудная жанчына. *Хочыш ты, каб капуха табе рызыгналыся.*

ҚАПЫЗА' (кыпыза) *м.* і *ж.* 1. Қапрыза. *Ня трэба быць кыпызой.* 2. Запальчывы чалавек. *Зь людзьмі кыпызой ні ныпрацуіш доўга.*

ҚАПЫЗІ'ЦЦА (кыпызіцца) *незак.* 1. Қапрызнічаць. *Німа чаго кыпызіцца, што дыла, тоя і ныдзівай.* 2. Гарачыцца. *Брыгадзір ня должын кыпызіцца.*

ҚАПЫ'Л *м.* 1. Қапыл. *У сані кыпылы трэба новыя.* 2. *Перан.* Қапрыза. *Я ж ня думыла і ні гыдала, што ты капыл еткі.*

ҚАПЭ'РДУС *м., іран.* Қанец, каюк. *А бомба як гахня, чуць капэрдус мне ня быў.*

ҚАПЯЛІ'НАЧҚУ (кыпялінычку) *прысл.* Крышачку, чутачку. *Падлі і мне кыпялінычку крупені. Қаб яшчэ кыпялінычку, і было б грыбоў два вядры.*

ҚАПЧУ'РҚА *ж.* Газоўка. *Ны ўсякі выпадык капчурку купіў.*

ҚАРАБА'ТҚА (кырыбатка) *ж.* Гарбатая дошка. *Куды ты прэш кырыбатку, яна толькі на дровы годна.*

ҚАРАБА'ТЫ (кырыбаты) *прым.* Няроўны. *Кырыбатыя шалёўкі.*

ҚАРАБА'ЧАНЫ (кырыбачыны) *дзеепрым.* Няроўны. *Асфальт кырыбачыны ад сонца стаў.*

ҚАРАБО'Қ (кырабок) *м.* Қаробка. *Сьпічык у мяне цэлы кырабок.*

ҚАРА'ВЫ (кыравы) *прым.* Брудны, закарэлы. *Схадзі ў лазьню, а то ўжо кыравыя цела.*

ҚАРА'ВІЦЦА (кыравіцца) *незак.* Брудзіцца. *Чаго ў цябе майка так быстра кыравіцца?*

ҚАРА'ВІЦЬ (кыравіць) *незак.* Брудзіць, вымазваць, пэцкаць. *Ні дам новыя штаны лі трактыра кыравіць.*

ҚАРА'ЎҚА (кыраўка) *ж.* Ануча. *Зынясі ды спалі гэтыя кыраўкі, чаго яны выляюцца?*

ҚАРА'ЎНІҚ (кыраўнік) *м.* Анучнік. *Кыраўнік прыехаў, зьбірай кыраўкі ды нясі.*

ҚАРЖЭ'НЬ *м.* Прысадзісты, каржакаваты чалавек. *Быў жа дробненькі саўсім, а цяпер такі каржэнь стаў.*

ҚАРЖЭ'НІСТЫ *прым.* Прысадзісты, каржакаваты. *Такі здаровы, каржэністы з арміі вярнуўся.*

ҚАРҚО'ЛІҚ *м.* Кракавяк. *Рызані, Сціпан, карколіка!*

ҚАРМА'Ч (кырмач) *м.* Даглядчык жывёлы. *Арцём луччы кырмач ны нашый фермі.*

ҚАРО'ВІЦЦА *незак.* Брыдзіцца, гідзіцца. *Як ны яго цяпера пыгляджу, дык аж душа каровіцца.*

ҚАРО'ЗА *м.* і *ж.* Қапрыза. *Малыя, а тыкая кароза, што ні пацступіцца к ёй.*

ҚА'СЬ *м.* і *ж.* Назола. *Атыйдзі, кась, ныдаеў ты мне.*

ҚА'СНА *прысл.* Назойліва. *Ні прыстывай так касна, пысядзі.*

ҚА'СНІЧАЦЬ (касьнічыць) *незак.* Надакучаць, назаляць. *Пірыстань касьнічыць, нервы ўжо ні трымаюць.*

ҚА'СНЫ *дзеепрым.* Назойлівы, надакучлівы. *Які ты касны дзяцёнык!*

ҚАСМЫЛІ' *мн., груб.* Валасы. *Прычысала б хоць свае касмылі, дужа табе некылі.*

ҚАСМЫ'ЦЦЕ (касмыцьця) *н., груб.* Валоссе. *Хоць касмыцце сваё прыбяры, хай ні выляіцца пы хаці.*

ҚАСЦЮ'Қ (касьцюк) *м.* Асцюк. *Қасьцюк зы каўнер залез.*

ҚАСЦЮ'ЛЬҚА (касьцюлька) *ж.* Асцюк. *Қасцюлька ў вока пыпала, дык сьлёзы пы бабіні сыпыліся.*

ҚАТА'ЛЬ (катыль) *м.* Шапавал. *Қупіла воўны ны валінкі, дык трэба катылю занесьці.*

ҚАТО'Қ *м.* Қола. *Қаток с калёс сырваўся і пыкаціўся з гары.*

ҚАТУРХА'ННЕ (кытурханьня) *н.* Буджэнне ад глыбокага сну. *Яго ніякім кытурханьнім ня ўзбудзіш: рызыспаўся.*

ҚАТУРХНУ'ЦЬ (кытурхнуць) *зак.* Зрабіць спробу ўзбудзіць, штурхаючы з боку на бок. *Дывай яшчэ раз яго кытухнём, можа ўзбудзім.*

ҚАЎБЫ' *толькі мн.* Вантробы. *Усе каўбы быляць, пыляжу мінутку.*

ҚАЎЗА'ННЕ (кыўзаньня) *н.* Қатанне на саначках, каньках. *Пашлі дзеці ны кыўзаньня.*

ҚАЎЗА'ЦЦА (кыўзацца) *незак.* Қатацца на саначках, каньках. *Цэлы дзень кыўзаісься на санкых, а за ўрокі ці браўся?*

ҚАЎЗЕ'ЛЬ *м.* Қаток. *Дзяцей ны кыўзялі аж кішыць.*

ҚАЦЕ'ЛҚА *ж.* 1. Скалка, качалка. *Цябе жонка чыпялой ці кацелкый гыняла?* 2. Бруд на целе ад поту. *Қацелык ні было, мыўся ні так даўно.*

ҚАЦІЛЯ'ПА (кыціляпа) *м., ласк.* Қоцік. *А гэта мылако мой кыціляпа пап'е. Памянш.* Қ а ц і л я п к а (кыціляпка), к а ц і л я п і к (кыціляпік), к а ц і л я п а ч к а (кыціляпычка).

ҚАШТАРЛА'П (кыштырлап) *м.* Қасалапы мужчына. *Ён і радзіўся кыштырлапым.*

ҚАШТАРЛА'ПА (кыштырлапа) *прысл.* Қасалапа. *Ногі ж у цябе роўныя, а ходзіш неік кыштырлапа.*

ҚАШТАРЛА'ПҚА (кыштырлапка) *ж.* Қасалапая жанчына. *Қыштырлапцы туфлі ні пыдбярэш.*

ҚАШТАРЛА'ПЫ (кыштырлапы) *прым.* Қасалапы. *Масей, як мядзьведзь, кыштырлапы.*

ҚВАҚУ'ХА *ж.* Қвактуха. *Хырашо квакуха курынят глядзіць.*

ҚВО'ХҚАННЕ (квохкыньня) *н.* Қвактанне. *Дзьве курыцы квохкыньня пычалі.*

ҚВО'ХҚАЦЬ (квохкыць) *незак.* 1. Қвактаць. *Қурыца квохкыя.* 2. *Перан.* Стагнаць. *Ты ўзноў квохкыіш, узноў ні слава богу.*

КІНО'ШНІК *м.* Кінамеханік. *Зь цябе кіношнік, як з нашыга Саўкі доктыр.*

КІ'ПЯЦЕНЬ (кіпіцінь) *м.* Вар. *Кіпітнім рукі апікла.*

КІПЯЦЕ'ННЕ (кіпяценьня) *н.* Кіпенне. *Ваду ды кіпяценьня давесьці трэба.*

КІСЕТНІЦА *м.* Табакерка. *У мяне была сярэбрыныя кісетніца, ды сыну аддаў.*

КІСЛІ'ЎКА (кісьліўка) *ж.* Няспелая сліва, ягада. *Як ты ясі такую кісьліўку?*

КІСЛЯ'ЦЦЕ (кісьляцьця) *н.* Што-н. кіслае. *Ні кампот, а кісьляцьця.*

КІ'ТКА *ж.* Копка грэчкі. *Грэчку ў кіткі згрыбалі ды пуўдня.*

КЛІБ *часц.* Каб, бадай. *Кліб цябе пірыкуліла! Кліб ты ні вярнуўся!*

КЛЫ'ЧАНКА (клычынка) *ж.* Блытаная салома. *Ахапык клычынкі карові пыдыслаў.*

КЛЫ'ЧЫЦЦА *незак.* Мяцца, блытацца. *Кудзеля на ветры клычыцца.*

КЛЫ'ЧЫЦЬ *незак.* Блытаць, мяць. *Ні глядзіш ты за адзежый: гадзіш, клычыш.*

КЛЫШЫ *толькі мн., пагардж.* Штаны. *Вазьму за клышы, ды пывыкідаю на вуліцу, калі ня ўмеіця гуляць.*

КЛЯШЧО'ТКІ *мн.* Драўляныя лапаткі ў лазні, якімі бяруць гарачае каменне. *Кляшчоткі пыгарэлі, трэба новыя зьдзелыць.*

КО'ДЛА *н., неадабр.* Радня. *Усё сваё кодла ў кантору сыбраў. У Мікіты па ўсяму сьвету кодла.*

КАЛАШМА'ЦІЦЦА (кылышмаціцца) *незак.* 1. Растрасацца. *Многа сена пы дарозі кылышмаціцца.* 2. Лахмаціцца. *Выласы кылышмацюцца на ветры.* 3. Валтузіцца. *Пычалі, як дурні, пысярод вуліцы кылышмаціцца.*

КАЛАШМА'ЦІЦЬ (кылышмаціць) *незак.* 1. Растрасаць. *Я ж тожа ні ліжаў, а сена кылышмаціў.* 2. Лахмаціць. *Ты мне выласы кылышмаціш, ацстань.* 3. Валтузіць. *Ні рызыбраўся, хто там каго кылышмаціў.*

КО'МПАЛ (компыл) *м., абразл.* Галава. *Ні з тваім компылым міханікым быць.*

КО'ПАНЬ (копынь) *ж.* Сажалка. *Уся копынь травой зырысла, трэба пачысьціць.*

КРАЙ *прысл.* Вельмі, надта. *Мне к вечыру край нада дамоў вярнуцца.*

КРАМО'К *м.* Ножык з кароткім ці паламаным лязом. *А крамок мой у лесі пыціраўся.*

КРАМСА'ННЕ (крымсаньня) *н.* 1. Неразборлівая пісаніна. 2. Панажоўшчына. *У іх там чуць ды крымсаньня ні дайшло і ўсё з-за дзевык.*

КРАМСА'ЦЦА (крымсацца) *незак.* Рэзацца нажамі. *А тады пычалі, дуралеі, крымсацца.*

КРАМСА'ЦЬ (крымсаць) *незак.* 1. Пісаць неразборліва. *Што ты тут крымсаіш, хто ў цябе што прычытая?* 2. Рэзаць. *Другі раз сяньня пы пальцых крымсаю гэтым нажом.*

КРАМСАНУ'ЦЬ (крымсануць) *зак.* Напісаць, распісацца. *Крымсані, Пятровіч, на гэтый ныкладной.* 2. Разануць. *Крымсануў сам сабе пы руцэ.*

КРАМСА'Ч (крымсач) *м.* Панажоўшчык. *Такому крымсачу каб гадоў дзесіць уляпілі, стоіла б.*

КРАМСА'ЧЫК (крымсачык) *м.* Ножык з абламаным лязом. *Крымсачык забыўся дома, дык грыбы з карэньнім зьбіраў.*

КРАЮ'ШКА *ж.* Акраец. *Узяў гурок і краюшку хлеба.*

КРАЮШО'К *м.* Акраец.

КРА'НТ *м.* Кран. *Адкрыў крант і пылілася выда — хырашо!*

КРА'НЦІК (краньцік) *м.* Кранік. *Гэты краньцік з бочычкі.*

КРАПАЧО'К (крыпачок) *м.* Моцны тытунь. *Харошы твой крыпачок, як ты яго прыгатовіў?*

КРА'ПКА *ж.* Кропля, кропелька. *Ны траве крапкі расы блішчаць.*

КРА'САЧНІК (красычнік) *м.* Кветавод. *Наш бацька ныстыяшчы красычнік.*

КРА'САЧНІЦА (красычніца) *ж.* Жанчына, якая вырошчвае кветкі. *Аўдоцця красычніца старыя, у яе ўсякыя насеньня ёсь.*

КРА'СІЦЦА *незак.* Прыбірацца. *Ны вясельля зьбіраюся, дык красіцца пайду.*

КРА'ТАННЕ (кратыньня) *н.* Варушэнне, варочанне. *Пысядзелі трошкі і зы кратыньня сена ўзяліся.*

КРА'ТАЦЬ (кратыць) *незак.* Варочаць, варушыць. *Ні нада яго кратыць, хай пыляжыць.*

КРАЦЯНЁНАК (крыцянёнык) *м.* Краціянё. *Крыцянёнык у яму ўляцеў.*

КРО'ЎНІЧАК (кроўнічык) *м., ласк.* Унучак. *Ты ж мой кроўнічык дырагі, садзіся, дзяцёнычык ты мой.*

КРО′ШКА *ж.* Кавалачак. *Далі нам па булцы хлеба і па крошцы сала.*

КРУ′КАМ (крукым) *прысл.* Дзень у дзень, ні з месца. *Над кніжкымі крукым сядзіць, як яму ні ныдаела?*

КРУТАГАЛО′ЎКА (крутыгалоўка) *ж.* Птушка круцігалоўка. *Паслухый, як крутыгалоўка пяе.*

КРУТУ′Н *м.* Віхор. *Во крутун пыдняўся, адкуль яго нынясло?*

КРУХМА′ЛАЎКА (крухмалыўка) *ж.* Кісель з крухмалу. *Ні люблю я крухмалыўкі, сыма еж.*

КРЫВАШЛА′П (крывышлып) *м.* Крываногі чалавек. *Крывышлапу ня туфлі, а боты купляць трэба. Узмацн.* К р ы в а ш л а п і н а (крывышлапіна).

КРЫВАШЛА′ПКА (крывышлапка) *ж.* Крываногая жанчына. *Крывышлапцы вобуву ні падыбраць.*

КРЫВЭ′ДЛА *м.* і *ж., груб.* Крываногі чалавек.

КРЫ′КСА *ж.* Крыкуха, плакса. *Ты малыя дужа вялікыя крыкса была.*

КРЫКСУ′Н *н.* Крыкун, плаксун. *Ні ўняць крыксуна ніяк, дзярэцца і дзярэцца цэлы дзень.*

КУГА′НКА *ж.* Конаўка, якой у лазні паддаюць пары. *Падкінь яшчэ куганку, мылывата духу нешта.*

КУГА′НІЦЬ *незак.* Паддаваць пары ў лазні. *Ня трэба болі куганіць і так вушы гырацъ ад духу.*

КУГА′НШЧЫК *м.* Той, хто паддае пары. *Я ў куганшчыкі ні нынімаўся, самі куганьця.*

КУКУ′ЛЯ *ж.* Зязюля. *Ці праўда, дзед, што кукулі гнёзды ня ўюць?*

КУЛА′ГА *ж.* Кісель з ягад каліны. *Мыя матка ўмея смашную кулагу варыць.*

КУЛІ′ЧКІ *только мн.* Калені. *Прывык ў дзеда ны кулічках сядзець.*

КУЛЬДА′ННЕ (кульданьня) *н.* Перакульванне. *А ты ўмеіш кульданьня ціраз гылаву дзелыць?*

КУЛЬДА′ЦЦА *незак.* Куляцца, перакульвацца. *Ны саломі мякка кульдацца. Ны вазу ні кульдаюцца, а топчуць сена.*

КУЛЬДА′ЦЬ *незак.* Куляць, перакульваць. *Лоўка ты мяшкі ны машыну кульдаіш.*

КУ′ЛЬКА *ж.* Клёцка. *Пымажы мне булькі дзелыць, ныварым.*

КУ′МІЛЬГАМ (кумільгым) *прысл.* 1. Стрымгалоў. *Хлопцы кумільгым ны пыжар кінуліся.* 2. Умомант, мігам. *Я ды мыгазіна кумільгым адскочу.*

КУНДЗЕ'ЛЬ (куньдзель) *м.* Недарослік. *Ні глядзі, што куньдзель, ён быка за рогі зваля.*

КУНДЗЕ'ЛІСТЫ (куньдзелісты) *прым.* Маларослы. *Які зь яго сылдат будзя, саўсім куньдзелісты.*

КУРДАЯ'КА (курдыяка) *м.* і *ж.* Дзіця, якое вучыцца гаварыць. *Курдыяка, што ты мне гаворыш?*

КУРДАЯ'ЧЫЦЬ (курдыячыць) *незак.* Гаварыць незразумела, з'ядаць словы. *Ні курдыяч, гывары разборна.*

КУРЗНЕ'ННЕ (курзьненьня) *н.* Выдумкі, пляткарства. *Ні хачу слухыць твайго курзьненьня, нічога ты ня ведыіш.*

КУРЗНІ'ЦЦА (курзьніцца) *незак.* Здавацца, мроіцца. *Гэта табе нешта курзьніцца, выкінь з гылавы.*

КУРЗНІ'ЦЬ *незак.* Гаварыць няпэўна, выдумляць, мроіць. *Я ні курзьню, а гывару, як трэба дзелыць.*

КУРЗНЯ' (курзьня) *ж.* Выдумка, няпраўда. *Гэта ні курзьня, а самыя, што ня ёсь, праўда.*

КУРА'К *м.* Пеўнік. *Пысадзіла піськлят, дык car выві·ліся адны куракі.*

КАРАСА'ДЗЕНЬ (курусадзінь) *м.* Седала. *Пыглядзі-ка курусадзінь, можа там яшчэ трэба жэрдзінку прыбіць?*

КУРАСА'ДНІК (курусаднік) *м.* Седала.

КУРАСА'ДНЯ (курусадня) і КУРО'САДНЯ (куросыдня) *ж.* Седала.

КУРАСПЕ'ЛКА (курасьпелка) *ж.* Скараспелка. *Я ўжо сваю курасьпелку кыпаю.*

КУ'РАВА (курыва) *н.* Тытунь, папяросы. *Чатыры курцы ў хаці, дык ні ныбраццa курыва.*

КУСА'ННІК (кусаньнік) *м.* Агрызак. *Кусаньнікі ў вядро кідай.*

КУСМА'Н *м.* Кавалак. *Кусман кылбасы зьела і болі нічога ні хачу. Памянш.* К у с м а н ч ы к.

КУЦАБЕ'ШКА *ж.* Кукса. *Ці многа куцабешкый зьдзелыіш?*

КУЦАПА'ЛЫ *прым.* Бязногі. *І куцыпалыму пытынцуваць хочыцца.*

## Л

ЛАБАВО'З (лыбавоз) *м., гум.* Працавіты чалавек. *Такому лыбавозу, як ты, тут нечыга дзелыць.*

ЛАБА'ВОЗІЦЦА (лыбавозіцца) *незак.* Завіхацца,

шчыра працаваць. *Хваця табе лыбавозіцца з гэтай яблынькый.*

ЛАБАВО'ЗІЦЬ (лыбавозіць) *незак.* Завіхацца на працы. *Лыбавожу, а аддыхнуць німа калі.*

ЛАБАВІ'НА (лыбавіна) *ж.* Вялікі пагорак. *Ны лыбавіні жыта пывыгырала.*

ЛАБЯ'К (лыбяк) *м.* Схіл ці верх пагорка. *На лыбяку вялікі лубін пывыгыняў.*

ЛАБЯКАВА'ТЫ (лыбікываты) *прым.* Узгоркавы. *Лыбікыватыя поля, пішчаныя.*

ЛАГВО' *н.* Логава. *Ны пысьцелі лагво зьдзелыў, як мядзьведзь.*

ЛА'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Рамантаваць. *І сані трэба ладзіць к зіме.* 2. Дагаджаць. *Яму дужа ладзіць трэба. Ладжу, як скулі, а ўсё дрэнна яму.*

ЛА'ДКА *ж.* Аладка. *Нос як ладка, гарэлку папіў, а грошы ня плоця.*

ЛА'ДНАГА (ладныга) *прысл.* 1. Даўно. *Ладныга, як ён у цешчы жыве.* 2. Нямала. *І сабе ладныга адхваціў.*

ЛАЖБІ'НА *ж.* 1. Нізіна. *У лажбіні трыва ў рост чылавека. А як гэту лажбіну аб'ехыць, ня ведыю.*

ЛАЖБІ'ННЫ *прым.* Нізінны. *Ля Угольшчыны луг увесь чыста лажбінны.*

ЛА'ЙБУС *м.* Гультай, лежабок. *Жыве лайбусым, паесь і сьпіць ці гуляе.*

ЛАЙНО' *н.* Адзежына, вопратка. *Ня ўмеіш ты бірагчы лайно, ніакуратны.*

ЛАМАВІ'К (лымавік) *м.* Здаравяк. *Такому лымавіку гіктар касіць у дзень і то мала.*

ЛАМАВІ'НА (лымавіна) *м., паведіч.* Здаравяк. *Пра якую ты помыч блузьніш, сам такі лымавіна.*

ЛАПАВУ'ХІ (лыпавухі) *прым.* Аблавухі. *Усе пырысяты лыпавухія, пародзістыя.*

ЛАПАВУ'ШКА (лыпавушка) *ж.* Аблавушка. *Зы дзісятку лыпавушку купіў. Узмацн.* Л а п а в у ш ы н а (лыпавушына). *Гэта ні лыпавушка, а сыпраўдныя лыпавушына.*

ЛАПЕ'ЗА *ж., абразл.* Гультайка, беларучка. *Скажы лапезі, хай хоць у хаці памыя. Узмацн.* Л а п е з і н а. *Замуж зьбіраісься, а каму трэба тыкая лапезіна, сыма падумай.*

ЛАПУ'Х *м.* 1. Расліна лопух. *Лопух цьвіцець ны балоці.* 2. *Перан.* Д у р а н ь. *Лапух самыга простыга ні зная.*

ЛАПУХО'ВІНА (лыпуховіна) *ж.* Пусцяковіна. *З гэтай лыпуховіный мы быстра рызьбяромся.*

ЛАПУХО'ВЫ (лыпуховы) *прым.* Мізэрны, пусцяковы. *Лыпуховы кажух, ды грэя луччы, чым тваё пальто.*

ЛА'ТАННЕ (латыньня) *н.* Папрашайніцтва, пабіранне. *На зыкуры і кынчай латыньня.*

ЛА'ТАЦЦА *незак.* Пабірацца. *Чаго ты кожны дзень латаісься, ны пыпіросы дваццыць капеік німа?*

ЛАТАШЫ'ЦЬ (лыташыць) *незак.* 1. Брацаь, збіраць старанна. *Зайшлі ў лес, як пычалі апенкі лыташыць.* 2. Абтрасаць, абіраць. *Лыташу гэту яблыню, а глядзі скалькі многа яблыкаў яшчэ.*

ЛАЎДЫ' *прысл.* Добра. *Лаўды табе, калі ўсе пымыгаюць.*

ЛАЎКА'Ч (лыўкач) *м.* Дзялок, махляр. *Ня можа быць, каб ён прытыргуваўся, такі лыўкач быў.*

ЛА'ХА *ж.* Крысо. *Адна лаха здаецца ў тваім пальце кырацейшая.*

ЛА'ХАННЕ (лахыньня) *н.* Блуканне, швэнданне. *Яму лахыньня ў гылаве стаіць.*

ЛА'ХАЦЬ (лахыць) *зак.* Блукаць, швэндацца. *Цэлы дзень пы мыгазіных лахыя.*

ЛА'ХАРДЗІК (лахырдзік) *м.* Ласунак, пачастунак. *Ты, як бачу, дужа лахырдзікі любіш.*

ЛА'ХАРДЗІЦЦА (лахырдзіцца) *незак.* Ласавацца. *Ці лахырдзіўся ты ў дзеда мёдым?*

ЛА'ХАРДНА (лахырдна) *прысл.* Прыемна, смачна. *Сторыжым ні так лахырдна, як зыгаччыкым было, ды яму і цяпер ні бяды.*

ЛА'ХАРДНІК (лахырднік) *м.* Ласун. *І вялікі, як дуб, а ўсё яшчэ лахырднік.*

ЛА'ХАРДНІЦА (лахырдніца) *ж.* Ласуха. *Лахырдніца ты мыя, нічога кромі быранкыў у мяне длі цябе німа.*

ЛА'ХАРДНЫ (лахырдны) *прым.* Смачны. *Лахырдныя твае булычкі, нічога ні скажу.*

ЛАХМАВІ'ННЕ (лыхмавіньня) *н.* Дзіравае адзенне, анучы. *Ськідай сваё лыхмавіньня, пірыдзівайся.*

ЛАХМАНІ'НА (лыхманіна) *ж.* Старая вопратка. *Куды ты пойдзіш у такой лыхманіні?*

ЛАХМО'ЦЦЕ (лахмоцьця) *н.* Анучы, старызна. *І ны вясельлі ты будзіш лахмоцьцім трэсьці, пірыдзівайся.*

ЛАХУ'ДРА *ж.* Неахайная дзяўчына, жанчына.

*Лахудры хоць хамут надзень, ёй усё роўна будзя. Узмацн.* Лахудрына.

ЛА′ЦЬВІКІ *прысл.* Лепш. *Лацьвікі табе, калі ўсе дзеці ў людзі выйшлі.*

ЛЕ′МЕШ (леміш) *м.* 1. Лямеш. *Леміш знасіўся, а новыга німа.* 2. *Перан.* Гультай, абібок. *Увесь век лемішым за жонкай пражыў.*

ЛЕ′ТАВАЦЦА (летывацца) *нсзак.* Пражыць лета. *Дзе ты сёліта летывыіська?*

ЛЕ′ТАВАЦЬ *незак.* Жыць улетку. *Я ў цешчы летывыю.*

ЛЕ′ЦІЦЦА *незак.* Грэцца (аб вадзе). *Выда леціцца.*

ЛЕ′ЦІЦЬ *незак.* Падаграваць ваду. *Ты леціла мне ваду?*

ЛЕ′ТАШАК (летышык) *м.* Аднагадовае цяля. *Ны кымбінат здалі трыста летышкыў.*

ЛЕ′ШКА *ж.* Баразна. *А паўз плот пысаджу лешку буракоў.*

ЛЕ′ШЧ *м.* 1. Лешч (рыба). 2. *Гум., перан.* Апляваха. *Ці гырачы лешч быў? Будзіш ныдыідаць — схопіш лішча.*

ЛІВАНУ′ЦЬ *зак.* Лінуць. *Трэбы ж такому дажджу ліванyць. Ліванyў вады за каўнер.*

ЛІДА′ЕК (лідаік) *м.* Моташнасць. *Здаецца, нічога дрэнныга ня еў, а лідаік. Пайду на вуліцу, лідаік у мяне.*

ЛІДАЕ′ЧНА (лідаішна) *прысл.* Моташна, агідна, брыдка. *Лідаішна стала. Лідаішна ны цябе глядзець.*

ЛІДАЕ′ЧНЫ (лідаішны) *прым.* Брыдкі, агідны. *Нейкі лідаешны смурод цягня з коміна.*

ЛІЗУ′Н *м.* 1. Ласун. *Гэта ты, лізун, у варэньня лазуў?* 2. *Перан.* Падхалім. *Ён у стыршыні першы лізун.*

ЛІПЕ′ЦЦА *незак.* Ледзь трымацца. *Будзя як-небудзь ліпецца.*

ЛІПЕ′ЦЬ *незак.* Ледзь трымацца (здароўем і інш.) *Ну, як ты, браток, тут ліпіш?*

ЛІ′ПСЫ *толькі мн., пагардж.* Вочы. *Што ты выстыўляіш свае ліпсы?*

ЛІСАПЕ′ТА *ж.* Веласіпед. *Купілі сыну лісапету, у школу езьдзіць.*

ЛІ′ШНІЦА *ж.* Што-небудзь лішняе. *Пыспаў лішніцу.*

ЛАБІ′НА *м., асудж.* Гультай, здаравяка. *Пад неба лабіна вымыхыў, а пры работу яму ні зыікайся.*

ЛУ'ЗНУЦЬ *зак.* Ударыць. *Як лузну лызіной ціраз лоб, дык ня будзіш гойсыць, дзе ня трэба.*

ЛУПА'Ч *м., груб.* Губаты чалавек. *Зы такога лупыча ні за што б ні пышла замуж.*

ЛУ'ПІК *м.* Гарэза. *За гэтым жа лупікым утрох ня ўгледзіш.*

ЛУ'ПЫ *толькі мн., груб.* Губы. *Рысставіў лупы і стаіць.*

ЛУ'Т *м.* Труп, мярцвяк. *Я спаў, як лут, нічога ня чуў.*

ЛЫ'БАННЕ (лыбаньня) *н.* Кашэнне рэдкай травы. *Ныдаела мне гэта лыбыньня, рукі зыбалелі, а травы адна ношка.*

ЛЫ'БАЦЬ (лыбыць) *зак.* Касіць сухую, рэдкую траву. *Лыбыіш, лыбыіш, толькі касу тупіш дырма.*

ЛЫГНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць. *Пакуль дубцом ні лыгнуў, ні адыйшліся.*

ЛЫ'ЗГАННЕ (лызганьня) *н.* Жабраванне, выпрошванне. *Лызгыньня яму ў моду ўвайшло.*

ЛЫЗГАНУ'ТЫ *прым.* Пазычаны, выпрашаны. *Ён сам лызганутую махорку кура.*

ЛЫ'ЗГАЦЬ (лызгыць) *незак.* Жабраваць, выпрошваць. *Я ніколі ня лызгыў і лызгыць ня буду.*

ЛЫЗГУ'Н *м.* Жабрак, проська. *Лызгуну ніколі страму німа.*

ЛЫ'НДА *ж.* Палка. *Такі сыбака і лынды ні баіцца.*

ЛЯПЁХА *ж., іран.* Марудная, непаваротлівая жанчына. *Пакуль тая ляпёха раз паверніцца, дык я ў Мугулёў зайду.*

ЛЯШЧА'К (лішчак) *м.* Аплявуха. *Будзіш ныдыідаць, з'ясі лішчыка, што аж падзівісься.*

# М

МАДЗЕ'ЦЦА *незак.* Мадзець. *Ніякыга прасьвету ні бачылі тады, мадзеліся з дня на дзень.*

МАЗІ'ЛА *м., асудж.* Разява. *Мазілу куды ні пашлі, дык толку ня будзя.*

МА'ІЦЬ *прысл.* Можа, магчыма. *Маіць у грыбы пойдзім?*

МАКА'НКА (мыканка) *ж.* Мачанка. *Люблю мыканку з блінамі.*

МАКАТЫ'РКА (мыкатырка) *ж., пагардж.* Галава. *У тваёй мыкатырцы мозаг ці апілкі?*

МАКАТЫ'РЫЦЦА (мыкатырыцца) *незак., іран.* Думаецца. *А мне мыкатырыцца, што тут нешта ні так.*

МАКАТЫ'РЫЦЬ (мыкатырыць) *незак., іран.* Думаць, разважаць. *Калі ты па-сыпраўдныму станіш сваёй гылавой мыкатырыць?*

МАКА'ЧКА (мыкачка) *ж.* Мачанка. *Учора мыкачка смашнейшыя была.*

МАКУ'ШКА *ж.* Верхавіна. *І макушка ня дужа сукыватыя, харошыя сасонычка.*

МАЛАДНЯ' (мыладня) *ж.* Маланка. *Мылыдня яркыя-яркыя блiснула.*

МАЛАЖА'К (мылыжак) *м.* Малады мужчына. *Яму ж ужо шэзьдзісят гадоў, а выглiдая як мылыжак.*

МАЛАДЖЭ'ННЕ (мыладжэньня) *н., перан.* Стрыжка, галенне. *Толькі з работы і зы мыладжэньня ўзяўся.*

МАЛАДЗІ'ЦЦА (мыладзіцца) *незак., перан.* Стрыгчыся, галіцца. *Саўсім зарос вылысамі, мыладзіцца пайду.*

МАЛАДЗІ'ЦЬ (мыладзіць) *незак., перан.* Падстрыгаць, галіць. *У мяне тыкая работа, што ўсіх мыладжу.*

МА'ЛЕЦ (маліц) *м.* Хлапчук, хлопец. *Маліц у яго радзіўся.*

МАЛІ'НАВЫ *прым.* 1. Малінавы. 2. Вельмі добры, паслухмяны. *Маліныві быў бы ты ў мяне, каб быў твой бацька.*

МАЛЬГА' (мыльга) *ж.* Малеча. *Ня рыба, мыльга адна.*

МАЛЬГА'ЎКА (мыльгаўка) *ж.* Дробная рыбка. *Злавіў мыльгаўку і нызад у рэчку ўкінуў. Памянш.* Мальгавачка (мыльгавычка). *Мыльгавычкі лі самыга берыгу ходзюць.*

МАЛЮПА'СЕНЬКІ (мылюпасінькі) *прым.* Вельмі маленькі. *А носік у цябе быў мылюпасінькі-мылюпасінькі, што кнопычка.*

МАМЛЮ'К *м., неадабр.* Пястун. *Біз маткі нідзе мамлюк ні астанецца.*

МАМЛЮ'ЧКА *ж., неадабр.* Пястуха. *І замуж пойдзе такой мымлючкый.*

МАМУ'ЛЯ і МАМУСЯ *ж.* Дачка, якая падобна на маці тварам ці паводзінамі. *Нос курносы, ямычкі ў шчыках — выкыпыныя мамуля. Што ты сьмяесься, мамуся?*

МА'МНІК *м., неадабр.* Пястун. *Сьціхні, мамнік, выіш ты як воўк.*

МА'МНІЦА *ж., неадабр.* Пястуха. *І ты міскі мыіш, мамніца?*

МАМРУ'К *м.* Маўчун. *Цэлы вечыр мамруком ны вічарынцы прысядзеў.*

МАМРУ'ЧКА *м.* Маўклівая жанчына. *Ні зь кім ні гавора, жыве мамручкый.*

МА'Н *м.* Манюка. *У мана праўды і за грошы ня купіш.*

МАНДРА'Ж (мындраж) *м., жарг.* Перапалох, перапуд, страх. *Пойдзіш ны праўленьня зы свае прадзелкі, во будзя табе мындраж.*

МАНДРАЖЫ'ЦЦА (мындражыцца) *незак., жарг.* Баяцца, трэсціся ад страху. *Ці ты сто ваўкоў бачыў, што мындражысься?*

МЕЗДРАНУ'ЦЦА (міздрануцца) *зак.* Моцна ўдарыцца. *Міздрануўся гылавой аб камінь, аж зыікытаў.*

МЕЗДРАНУ'ЦЬ (міздрануць) *зак.* Моцна ўдарыць. *Палена звалілыся, чуць ні міздранула пы чырыпянцы.*

МЕ'ЛІВА *ж.* Збожжа, якое патрэбна малоць. *Зыбірай сваё меліва, ды паедзім.*

МЕШКАВА'ТА (мішкавата) *прысл.* Марудна, непаваротліва. *Неік мішкывата ты ходзіш — валюх, валюх, як мядзведзь.*

МЕШКАВА'ТАСЦЬ (мішкаватась) *ж.* Непаваротлівасць, маруднасць. *У вашый брыгадзі мішкаватысьці многа. Мішкыватысьці ў цябе многа, а сіла таксама ёсь.*

МЕШКАВА'ТЫ (мішкаваты) *дзеепрым.* Непаваротлівы, марудны. *Быў зухываты, толькі мішкываты.*

МІДУДА' *м.* і *ж.* Пагардлівая асоба. *Ды мідуды і з кукішым ні пацступісься.*

МІРГАВА'ЦЬ (міргуваць) *незак.* 1. Махляваць, круціць. *Я бачу, што ты сабе ны паўлітра міргуіш.* 2. Планаваць, меркаваць. *Міргую, каб сёліта пуню пірасыпыць.*

МІРГУ'Й *м.* Жулік, круцель. *Ні работнік, а міргуй, толькі і глядзіць, каб дзе што сырваць.*

МУ'ДРЫКІ *толькі мн.* Мудрагельства. *Ты мне свае мудрыкі ні пыказывай, я і так іх ведыю.*

МУРА' *ж., жарг.* Лухта, бязглуздзіца. *Мура ўсё гэта, што ты чуў.*

МУРА'Ш *м.* Муравей. *Пыглядзі, які мураш вялікі. Мурашоў аж кішыць у муравеньніку.*

МУРЛА'ТЫ *прым.* Здаровы, таўсташчокі. *Яе ўсе дзеці мурлатыя, здаровыя, як дуб'ё.*

МУРЛА'ТКА *м.* Круглатварая жанчына. *А тая мурлатка — гэта наш бугалцір новы?*

МУРЛА'Ч *м.* Здаровы, таўсташчокі мужчына. *Такі мурлач вып'я гырлач, толькі пыднясі.*

МУРЛО' *н., абразл.* Здаравяка. *Мурло, хоць у калёсы зыпрыгай.*

МЫЦЦЁХА (мыцьцёха) *ж., іран.* Дзяўчынка, якая няўмела мые. *Пыглядзі, як вадой аблілася, уцікай аццюль, мыцьцёха.*

МЫ'ХЛЕННЕ (мыхліньня) *н.* Беганіна. *Як дзень, так і пычыная мыхліньня пы мыгазіных.*

МЫ'ХЛІЦЬ *незак.* Бегаць па справах і без спраў за чым.-н. *Нешта Марына цэлы дзень мыхліла па вуліцы.*

МЫ'ХЛЯ *ж.* Жанчына, якая праяўляе залішнюю цікаўнасць. *Мыхля наперад зы пяць гадоў зная, што калі прыдывацца будзя.*

МЫШАНЁНАК (мышанёнык) *м.* Мышанё. *Кот два мышанёнкі злавіў у хлеві.*

МЫШАРЭ'ЗЗЕ (мышарэзьзя) *н.* Парэзанае мышамі сена, салома, мякіна. *Ні адна карова мышарэзьзя есьці ня будзя.*

МЭ'НЧАННЕ (мэнчыньня) *н.* Важданне. *Ды абеду зыцягнулыся мэнчыньня з пасікай.*

МЭ'НЧЫЦЦА *незак.* Важдацца, валаводзіцца. *Я доўга з табой мэнчыцца ні зьбіраюся.*

МЭ'НЧЫЦЬ *незак.* Валаводзіць, марудзіць. *Ці доўга ты мяне тут мэнчыць будзіш?*

МЭ'Т *м.* 1. Дзялок. *Мэт і зямлю наскрозь бачыць.* 2. *Іран.* Майстар. *Хырашо пад'есьці, пыгуляць — во ты на гэта мэт.*

МЭ'ТЛУХ *м.* Шматок. *Не, калі ты мяне дыпячэш, дык і мэтлухыў сваіх ні пысыбіраіш.*

МЯ'ГА *ж.* Смага. *Мяга дынімая, а вады німа.*

МЯ'ГНУЦЬ *незак.* Смягнуць. *Сколькі ня пі, усё роўна мягніш на сонцы.*

МЯДА'Р (мідар). Пчалавод. *Сайка мідар вопытны.*

МЯДО'ВІЦА *ж.* Расліна медуніца. *Лісная мядовіца пахня смашным.*

МЯЖДЖУ'ЛА *м.* Хуліган, скандаліст. *Прыдзя на вічарынку мяжджула, нікому пугуляць ні дась.*

МЯЖДЖУ'ЛІЦЦА *незак.* Моцна біцца. *Прышлі п'яныя і пычалі мяжджуліцца, а што ні пыдзялілі?*

МЯЖДЖУ'ЛІЦЬ *незак.* Моцна біць. *За што ты яго мяжджуліш, што ён табе дрэнныга зьдзелыў?*

МЯЗДРА′ (міздра) *ж.* Мязга. *Прывязьлі с крухмальныга завода бочку мяздры цілятым, хваця на цэлы дзень.*

МЯЗДРЫ′ЛА *м., асудж.* Хуліган. *Схывай, мяздрыла, свае кулакі.*

МЯЗДРЫ′ЦЦА *незак.* Біцца моцна. *Нечыга тут мяздрыцца, ідзіця ў кусты, калі хочыця.*

МЯЗДРЫ′ЦЬ *незак.* Біць моцна. *За што ты так кыня мяздрыш, ці ён вінаваты, што ты дурны.*

МЯКІ′ШКА *ж.* Мякіш. *Мне скарынка, а табе мякішка — хырашо?*

МЯРЭ′ЧА *ж.* Трушчоба, гушчар. *Зайдзіш у мярэчу, дык ня выйдзіш адзін.*

МЯРЭ′ЧНА *прысл.* Цёмна, сумна. *Адныму ў лесі дужа мярэчна. А бары ў Дулебых* (назва вёскі ў Бярэзінскім раёне) *мярэчна стыяць.*

МЯРЭ′ЧНЫ *прым.* Густы, дзікі, сумны. *Мярэчны лес у дождж быў.*

МЯ′РНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *Зваліўся з дуба, мярнуўся аб карэньні і пыкаціўся, зыікытаўшы.*

МЯ′РНУЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Як мярну, дык пыпаўзеш.*

МЯ′ТЛЮШКА *ж.* Матылёк. *Мятлюшкі разьлётыліся на дождж.*

МЯ′ЦІВА *ж.* Бацвінне. *Была ны гародзі нылымала мяціва сьвіньням.*

## Н

НАБАБА′ХАЦЬ (ныбыбыхыць) і НАБАБЭХАЦЬ (ныбабэхыць) *зак.* Наліць праз меру. *Цэлую лыханку ныбыбыхыла крупені. Ныбабэхыла, цяпер сыма еж.*

НАБІ′ЎКА *ж.* Настойлівая прапанова. *Ні прыставай сы сваімі пырысятымі: набіўка дзёшыва цэніцца.*

НАБІВА′ЦЬ (ныбіваць) *незак.* Прапаноўваць. *Я табе купцоў харошых ныбіваю, а ты сыма глядзі.*

НАБЛУЗНІ′ЦЦА (ыблузніцца) *зак., неадабр.* Нагаварыцца, наплявузгацца. *Ныблузьнілыся з Мар'ій, цяпер бубніць будзіш?*

НАБЛУЗНІ′ЦЬ (ныблузьніць) *зак.* Наплявузгаць, нагаварыць чаго не след. *Што ты ныблузніў брыгадзіру пры мяне?*

НА′БРЫДЗЬ *ж., пагардж.* Зброд. *Была тут і пыліцэйскыя набрыдзь.*

НАБРЫ'ДНА *прысл.* Надакучліва, назойліва. *Набрыдна зы каровымі хадзіць пы дажджу. Набрыдна хадзіць ды яго.*

НАБРЫ'ДНЫ *дзеепрым.* Назойлівы, надакучлівы. *Дужа набрыдны ты дзяцёнык.*

НАБРЫ'НДАЦЦА (набрындыцца) *зак.* Нахадзіцца, нашвэндацца. *Яшчэ набрындыісься да вечыра, а цяпер нысячы дроў.*

НАБРЫ'НДАЦЬ (набрындыць) *зак.* Наслядзіць, швэндаючыся. *Памыла, было так чысьцінька ў хаці, а ўжо ўсьпелі набрындыць.*

НАБУНТАВА'ЦЬ (ныбунтываць) *зак.* Наблытаць. *Каб ты ні ныбунтуваў, дык сам бы я ні збунтуваўся.*

НАВІХНУТЫ (нывіхнуты) *дзеепрым.* Удараны. *Кыбан, відна, нывіхнуты нечым, што нагу цігая.*

НАВІХНУ'ЦЦА (нывіхнуцца) *зак.* Ударыцца. *Зьляцеўшы са стога, можна хырашо нывіхнуцца.*

НАГАНЯ'Й (ныгыняй) *м.* Ушчуванне. *Будзя табе ныгыняю зы сымапраўства.*

НАГАНЯ'ЦЬ (ныгыняць) *зак.* 1. Паўшчуваць. *Ці ныгыняў цябе брыгадзір зы трактыр?* 2. *Незак.* Даганяць. *Я цябе чуць ня кожны раз ля лесу ныгыняю.* 3. *Зак.* Наараць баразён для копкі бульбы. *Ныгыняў быразён на цэлы дзень, хай толькі кыпаюць.*

НАГНА'ЦЬ (ныгнаць) *зак.* Дагнаць. *Ныгнаў бацьку лі хаты.*

НАДАЎМІВА'ННЕ (ныдыўміваньня) *н.* Падказванне, падаць думку. *Я і біз твайго ныдыўміваньня абыйдуся.*

НАДАЎМІВА'ЦЦА (ныдыўміваццa) *незак.* Прыходзіць да нейкай думкі, рашэння. *Як ні ныдыўміваюся нічога ні выходзя ў мяне.*

НАДАЎМІВА'ЦЬ (ныдыўміваць) *незак.* Падказваць, падаваць думку. *Дакуля я цябе ныдыўміваць буду, сам думый.*

НАДАЎМІ'ЦЦА (ныдаўміцца) *зак.* Дадумацца. *Трэба ж табе ныдаўміцца пайці і пакінуць хату ні зачыніный.*

НАДАЎМІ'ЦЬ (ныдаўміць) *зак.* Падказаць, паказаць, падаць думку. *Я цябе трошкі ныдаўмлю, а тады сам рышай .Ніяк ні ныдаўміць дурня.*

НАДУ'ЦЬКА *м.* Пыхлівы, ганарлівы чалавек. *Кончыў інсцітут, дык надуцькым стаў.*

НАДЭ'ЧАНЫ (надэчыны) *дзеепрым.* Падбухтораны. *Цешчый надэчыны, дык злы, як зьмей.*

НАДЭ'ЧЫЦЦА *зак.* Падбухторыцца. *Надэчыцца дома, а тады бегыя тут, ні пацступісься ды яго.*

НАДЭ'ЧЫЦЬ *зак.* Падбухторыць. *Ты яго надэчыш, а ён тады аж сінея, аж кіпіць.*

НАЗУБІ'ЦЬ (нызубіць) *зак.* Нарабіць вострых зубчыкаў на лязе. *Пайду ў кузню, трэба серп нызубіць.*

НАЗУ'БЛЕНЫ (назубліны) *дзеепрым.* Навостраны зубчыкамі. *А мой серп назубліны.*

НАЕ'ТЫ *дзеепрым.* Сыты. *Я ўжо наеты, ні хачу болі.*

НА'ЙДА *ж.* Распусная жанчына. *Дзе ты ходзіш да поўнычы, як найда.*

НАКА'З (ыказ) *м.* Просьба, запрашэнне. *Помні бацькаў ныказ. Пірыдай мой ныказ Зьмітру, хай прыдзя.*

НА'КАЛЛЕ (накыльля) *н. Усё, што ёсць навакол. Лазіш пы накыльлю, глядзі, каб ні прабіўся дзе.*

НА'КАСЬ (накысь) I *м.* і *ж.* Назола. *Ацстань, накысь.*

НАКАСЬ (накысь) II *прысл.* Коса. *Твой стэнд накысь вісіць.*

НАКА'ЧКА (ныкачка) *ж., жарг.* Ушчуванне. *Была табе ныкачка зы ўчырашнія ці не?*

НАКЛЕ'ЙКА *ж.* Цырата. *Будзіш у горадзі, дык купі мне там наклейку.*

НАКО'ЛЬНІК *м.* Гарэза. *Штаноў ні ныбрацца гэтым накольнікым.*

НА'КРУТКА *ж.* Жанчына лёгкіх паводзін. *Накруццы ніколі страму німа.*

НАКЛЮ'КАЦЦА (наклюкыцца) *зак., гум., жарг.* Напіцца гарэлкі. *Я ўжо наклюкыўся, болі нічога ні хачу.*

НАКУРЗНІ'ЦЬ (ныкурзьніць) *зак.* Нагаварыць лухты, наплявузгаць. *Ныкурзьніў і пайшоў.*

НАЛАБАВОЖАНЫ (нылыбавожыны) *дзеепрым.* Стомлены. *Я і так ужо нылыбавожыны.*

НАЛАБАВО'ЗІЦЦА (нылыбавозіцца) *зак.* Напрацавацца, стаміцца ад працы. *Хырашо нылыбавозісься, пакуль дровы сваe спырадчыш.*

НАЛАБАВО'ЗІЦЬ (нылыбавозіць) *зак.* Нарыхтаваць, навазіць, нанасіць. *Цэлую машыну дроў нылыбавозіў.*

НАЛАТАШЫ'ЦЬ (нылыташыць) *зак.* Назбіраць, набраць парадкам. *Нылыташылі сяньня адных быры-вікоў.*

НАЛЕ′ЦЦЕ (налецьця) *н.* Наступны год. *Сена ў мяне столькі, што і ны налецця будзя.*

НАЛЕ′СНІК (налесьнік) *м.* Тонкі блін. *Налесьнікыў цэлыя рэшыта ныпікла.*

НАПАПА′ (ныпыпа) *прысл.* Вертыкальна. *Стаў цяпер бірвяно ныпыпа. А шкап ныпыпа ны машыну будзім ставіць?*

НАПЕРАХО′ПКІ (ныпірахопкі) *прысл.* Навыперадкі. *Цэлы дзень, бывала, жнём жыта ныпірахопкі.*

НА′ПІС *м.* Надпіс. *А я на помніку напіс чытала.*

НАПУЗЫ′РЫЦЦА (ныпузырыцца) *зак., перан., гум.* Добра наесціся. *Ныпузырыўся і пайшоў.*

НАПУЗЫ′РЫЦЬ (нупузырыць) *зак., перан., гум.* Добра накарміць. *Нупузырыў пырысят, дык як ні палопуюцца.*

НАРУ′ГА *ж.* Здзек. *Хацела лён выбіраць іці, а тут дождж, як ны наругу зыцірабіў.*

НАРУГА′ЦЦА (нуругацца) *незак.* Здзекавацца, дражніцца. *Я яму кажу як луччы, а ён слухыя і нуругаіцца. Мяне завуць Ціма, а Сьціпан Цімохым ны мяне ныругаіцца.*

НАРУ′ЖНА *прысл.* Здзекліва. *Кажы ім ці ні кажы, усё роўна наружна дзелыюць.*

НАРУ′ЖНІК *м.* Неслух. *Воц скажы, чаго ты такі наружнік?*

НАРУ′ЖНІЦЦА *ж.* Непаслухмяная дзяўчына. *У школі можа і не, а дома быльшая наружніца.*

НАРУ′ЖНІЧАЦЬ (наружнічыць) *незак.* Дурэць, дражніцца, сваволіць. *Ты і ныстаўніцы сваёй так наружнічыіш?*

НАСЕ′НКА *ж.* Бульба на насенне. *Я табе магу даць мяшкі два насенкі.*

НАСКІПА′ЦЬ (ныськіпаць) *зак.* Накалоць дробна. *Пайду дроў ныськіпаю к вечыру.*

НАСТРАПАЛЁНЫ (ныстрыпалёны) *дзеепрым.* Падбухтораны, раздражнёны. *Прышоў ныстрапалёны і панёс тут мат-пірымат.*

НАСТРАПАЛІ′ЦЬ (ныстрапаліць) *зак.* Падбухторыць, раз'юшыць. *Дык ты і зяця свайго ны мяне ныстрыпаліў?*

НАСТРАПАЛЯ′ЦЬ (ныстрыпыляць) *незак.* Падбухторваць. *Я ны цябе нікога ні ныстрыпаляю, табе дужа многа чаго здаецца.*

НАТУ′РЛІВА *прысл.* Упарта. *Натурліва адмахывыіцца ад работы. Натурліва ня хоча іці.*

НАТУ'РЛІВАСЦЬ (натурлівысь) *ж.* Упартасць. *Натурлівысьці і ўседлівысьці мне ні пызычаць.*

НАТУ'РЛІВЫ *дзеепрым.* Упарты. *Нейкі ў цябе конь натурлівы, ня слухыіцца.*

НАТУ'РЫЦЦА *незак.* Упарціцца. *Я зваў яго, дык ён нешта натурыцца.*

НАТУХЦЕ'ЦЦА (нытухцецца) *зак., неадабр.* Наплявузгацца, напляткарыцца. *Ідзі ўжо спаць, ніяк ты ні нытухцісься.*

НАТУХЦЕ'ЦЬ (нытухцець) *зак., неадабр.* Наплявузгаць, напляткарыць. *Хто табе нытухцеў пра мяне?*

НАРО'ШНІ *прысл.* Знарок, спецыяльна. *Гэта я нарошні прыдумаў. Ты нарошні бырану прычапіў?*

НАЎДА' (ныўда) *ж.* Навіна. *Сто разоў я тваё кіно глядзеў, яно мне ні ныўда.*

НАХАПКІ' (ныхапкі) *прысл.* Наперагонкі. *Ныхапкі, адна пірад другой стыраліся.*

НАХАПО'К (ныхапок) *прысл.* 1. Хутка. *Ныхапок сена сыграблі.* 2. Абы-як. *Ныхапок хата ня рубіцца.*

НАХЛЕПЯСТА'ЦЦА (ныхліпістацца) *зак., перан.* Насмяяцца. *Ныхліпісталіся, цяпер спаць.*

НАХЛЮМЕ'НДЗІЦЦА (ныхлюменьдзіцца) *зак., неадабр.* Наплакацца. *Ці ныхлюмендзілыся ты ўжо?*

НА'ЦІМАК (націмык) *м.* Адвячорак. *Толькі пірыбрала бульбу, гляджу і націмык.*

НА'ЦІМКАМ (націмкым) *прысл.* Адвячоркам. *Націмкым паехылі.*

НАШКА'РАДЗІЦЬ (нышкарыдзіць) *зак., асудж.* Нашкодзіць, напаскудзіць. *Я ж цябе зы хызяіна пакінула, а ты ні ныхызяйнічыў, а толькі нышкарыдзіў.*

НА'ШЧЫЦЦА *незак.* Пахмяляцца. *Хадзі, кум, будзім нашчыцца.*

НА'ШЧАННЕ (нашчыньня) *н.* Пахмелка. *Толькі прыспаўся і зы нашчыньня ўзяўся.*

НЕ'ВЕСЬ (невісь) *прысл.* Невядома, немаведама. *А мне невісь што дзелыць было. Невісь куды пыдацца.*

НЕ'ГАДЗЬ (негыдзь) *ж.* Дрэннае надвор'е. *У негыдзь добры чылавек сыбаку з хаты ні выгыняя.*

НЕДАЛУ'ГА (нідалуга) *м.* і *ж.* Няўдаліца. *А маўчы ты, сястрыца, ні зяць, а нідалуга.*

НЕДАЛУ'ЖНА (нідалужна) *прысл.* Ганебна, няўдала, непрыгожа, нетактоўна. *Саўсім ты, братка, нідалужна косіш. Нідалужна ты з нашый аграномкый пыступіў.*

НЕДАЛУ'ЖНЫ (нідалужны) *прым.* Ганебны, няў-

далы, непрыгожы, мізэрны. *Ны такім нідалужным кані ты ў госьці зьбіраісься?*

НЕДАПЕ'КА (нідапека) *м.* і *ж., абразл.* Дурань, дурніца. *Яму кажу бяжы быстрэй, а ён стаіць, як недапека, рот разінуў.*

НЕ'КАЛІКА і НЕ'КАЛІКІ (некыліка і некылікі), НЕКАЛІЦЬКА і НЕКАЛІЦЬКІ (некыліцька і некыліцькі) *прысл.* 1. Некалі. *Некаліка і прысесьці за дзяцьмі. Мне цяперыка некылікі.* 2. У будучым, у хуткім часе. *Некылікі і яму, як тому кату, мінецца масьлінка. Некылікі і ў цябе бырыда вырысьця.*

НЕ'КАЛІЦЦА (некыліцца) *незак.* Затрымлівацца, марудзіць. *Трэба ўжо і бульбу кыпаць, а зы другімі работымі некылюся. Яна ўсё некыліцца.*

НЕ'ЛУПАК (нелупык) *м.* Неслух, свавольнік. *Ці за нелупкым угледзіш, ці нелупка ўпасеш?*

НЕ'ЛЮДЗЬ *м.* і *ж.* Нелюдзімая асоба. *Такой нелюдзі, як твой сын, ці знойдзеш дзе ў сьвеці.*

НЕ'МАЧ (немыч) *ж.* Хвароба. *Немыч нейкыя прыстала была, дык у бальніцы ліжаў.*

НЕНАЕ'ДАК (нінаедык) *м.* Ненаедны чалавек, жывёліна. *Ты ж ні хвытай, як нінаедык, а спакойна еж.*

НЕПУТНЫ' (ніпутны) *прым.* Разбэшчаны, непаслухмяны. *Ніпутныя Зініны дзеці: б'юцца, дурэюць.*

НЕЎВІРУ'ТНА (ніўвірутна) *прысл.* Лоўка, хітра. *Ён так табе ніўвірутна зьдзелыя, што кымар нос ні патточа.*

НЕЎВІРУ'ТНАСЦЬ (ніўвірутнась) *ж.* Лоўкасць, хітрасць. *У яго і ў руках, і ў вычах ніўвірутнасць.*

НЕЎВІРУ'ТНЫ (ніўвірутны) *прым.* Няўлоўны, хітры, лоўкі. *Ён злодзі ніўвірутны.*

НЕЎМІРУ'ХА (ніўміруха) *ж.* Вельмі старая жанчына. *У нас тыксама ніўміруха жыве, сто пяць гадоў ёй.*

НЕХТА'ЧКА і НЕ'ХТАЧКІ (нехтычка і нехтычкі) *займ.* Нехта. *А ды нас нехтычка прыехыў. А ў нас нехтычкі быў.*

НЕХУЦА'ВАСЦЬ (ніхуцавась) *ж.* Мізэрнасць, неахайнасць, нязграбнасць. *Зыйшла ў кароўнік, ой, якая тамыцькі ніхуцавысь.*

НЕХУЦА'ВА (ніхуцава) *прысл.* Неахайна, мізэрна, нязграбна, няўдала. *Надзеўся я сяньня неік ніхуцава.*

НЕХУЦА'ВЫ (ніхуцавы) *прым.* Нязграбны, неакуратны. *Хоць і новыя хата, ды ніхуцавыя.*

НІЧО'ГАЧКА і НІЧО'ГАЧКІ (нічогычка і нічо-

гычкі) *прысл.* Нічога, нічагуткі. *Нічогычка яшчэ ня ведыю. Нічогычкі ад раньня ня ела.*

НЕЦІХО'ЎЛЯ (ніціхоўля) *ж.* Галас, шум. *У іх дзеці, ніціхоўля там, а мне спакой трэба.*

НЕ'ШЧАСЬ (нешчысь) *м.* і *ж.* Нешчаслівы. *Чаго я тыкая нешчысь, сыма ні знаю.*

НО'ЎДЫ *прысл.* Можа, магчыма. *Ноўды ты мне рублі са тры пазычыш? Ноўды ў мыгазін зьбегыім?*

НЫ'КАННЕ (ныканьня) *н.* Швэнданне, бадзянне. *Тут ёсь, тут німа — ня можа бяз ныканьня.*

НЫ'КАЦЦА (ныкыцца) *незак.* Бадзяцца, швэндацца. *Жаніся, хваця ныкыцца.*

НЫ'КАЦЬ (ныкыць) *незак.* Хадзіць, швэндаць *Я ня ныкыю, а шукаю, што трэба.*

НЮ'НЯ *ж., неадабр.* Плакса. *Ці сьціхніш ты выць, нюня?.*

НЯГО *часц.* Няўжо. *Няго ён пасьпеў туды так быстра? Хвёдырка, няго гэта ты?*

НЯДА'ЎНАЧКА і НЯДА'ЎНАЧКІ (нідаўнычка і нідаўнычкі), НЯДАЎНАКА і НЯДАЎНАКІ (нідаўныка і нідаўныкі), НЯДАЎНАЦЬКА і НЯДАЎНАЦЬКІ (нідаўныцька і нідаўныцькі) *прысл.* Нядаўна. *Ён саўсім нідаўныка паехыў. Нідаўныкі пычалі ў нас сінакос. Нідаўныцька быў тут, а куды пайшоў, ня ведыю. Толькі нідаўныцька ацьсеяліся і мы. Нідаўнычка выхадзіла замуж, а ўжо дваіх дзетык мае. Нідаўнычкі я ў яго быў.*

НЯМА'ШАКА і НЯМА'ШАКІ (німашыка і німашыкі), НЯМА'ШАЦЬКА і НЯМА'ШАЦЬКІ (німашыцька і німашыцькі) *прысл.* Няма. *У цябе німашыка зыкурыць? Махорка ё, а газеты німашыкі. У мяне сёлета гусей німашыцька. А вады німашыцькі, як ны нарыгу.*

НЯМА'ШКА (німашка) *прысл.* Няма. *Болі арэхыў німашка.*

НЯЎДО'БІЦА *ж.* Малаўрадлівая зямля. *Ны няўдобіцы і быльнік ня хоча расьці.*

НЯЎКЛЮ'ДНЯ *ж.* 1. Мізэрнасць, непрывабнасць, няўтульнасць. *Чаго ў вашым клубі заўсёды тыкая няўклюдня?*

НЯЎКЛЮ'ДНЫ *прым.* Непрыгожы, непрывабны. *Пальто як пальто, лучны скажы, што сам няўклюдны.*

НЯЎСЦЕ'РП (няўсьцерп) *м.* Нецярплівасць. *Каб няўсьцерп ні браў, дык ні курыў бы.*

НЯЎСЦЕ'РПНА (няўсьцерпна) *прым.* Нецярпяліва. *Няўсьцерпна пукупацца хочыцца.*

НЯЎСЦЕ'РПНЫ (няўсьцерпны) *прым.* Нецярплівы. *Падаждэкы мінутку, дужа ты няўсьцерпны.*

НЯХО'ТА *ж.* Неахвота. *Гультай усё няхотай дзелыя. Няхота мне туды хадзіць.*

## О

О'ПА, О'ПАЧКА і О'ПАЧКІ (опычка і опычкі) *выкл.* Гоп. *Ну, бяром, пыднімаем, опа! Разым, разым, опычка! Ну, хлопчыкі, опычкі!*

О'ПСА *выкл.* Гоп. *Ну, яшчэ раз, опса!*

О'ХАР (охыр) *м., жарг.* Дзялок. *Быў клыдыўшчыком, цяпер вісыўшчыком, па вычах відна, што охыр.*

## П

ПАБАЛАБО'НІЦЬ (пыбылабоніць) *зак.* 1. Пазваніць. *Як скончыцца ўрок, тады пыбылабоніш зы мяне.* 2. *Перан.* Пабалбатаць. *Ці скора ты пыбылабоніш зъ ёй, ныдаела стыяць.*

ПАБАРАБА'НІЦЬ (пыбырыбаніць) *зак.* 1. Паіграць на барабане. *Дай я трошкі пыбырыбаню.* 2. *Перан.* Пабалбатаць. *Заўтра пыбырыбаніш.*

ПАБРАСКАТА'ЦЬ (пыбрыскытаць) *зак.* 1. Пабразгатаць. *Табе, відна, так і хочыцца кыблукамі пыбрыскытаць.* 2. *Перан.* Пабалбатаць. *Пыбрыскытала трохі і хваця.*

ПАБРЫ'НДАЦЬ (пабрындыць) *зак.* Пашвэндацца. *Пабрындыя і прыдзя, нідзе ня дзеніцца.*

ПАБРЫ'НКАЦЬ (пабрынкыць) *зак.* Пакасіць няўмела. *Ні пыкасіў, а пабрынкыў, толькі траву згадзіў.*

ПАБУНТАВА'ЦЦА (пубунтувацца) *зак.* Збіцца ў падліках, у справах, пераблытаць. *Пабунтуваўся, цяпер ніяк ні рызьбяруся што ды чаго.*

ПАБУНТАВА'ЦЬ (пубунтуваць) *зак.* Перашкодзіць, збіць з правільнага шляху, пераблытаць. *Ня лезь, а то пубунтуіш мне тут усё.*

ПАВАЁДАЦЬ (пываёдыць) *зак.* Пабуяніць. *Пываёдыіш, дык пы заслугых схопіш.*

ПАДАБА'БАК (пыдыбабык) *м.* Грыб абабак. *Бырывікоў дужа німа, а пыдыбабкыў хыпая.*

ПАДБА'ВАК (пыдбывак) *м.* Дабаўка. *Хто пыдбаўка хоча, яшчэ многа зысталося крупені.*

ПАДБА'ВІЦЬ (пыдбавіць) *зак.* 1. Дадаць. *Ну сколькі будзя, калі ды сямі пыдбавіць пяць?* 2. Павялічыць. *Мне на дзесіць рублей пеньсію пыдбавілі.* 3. Падліць (стравы), падкласці бульбы, кашы. *Пыдбаў мне яшчэ з палоньнічык.*

ПАДБАЎЛЯ'ЦЬ (пыдбыўляць) *незак.* 1. Дадаваць, складаць. *Атнімаць ты ўмеіш, а пыдбыўляць пывучыся.* 2. Павялічваць. *Ён трохі сабе гадоў у пашпырці пыдбавіў.* 3. Падліваць (стравы). *Я ні хачу болі пыдбыўляць.*

ПАДКАПАНІ'ЧЫЦЬ (пыдкыпанічыць) *зак.* Падрыхліць капаніцай. *Клубніцы пайду пыдкыпанічу.*

ПАДКАПЫЛІ'ЦЬ (пыдкыпыліць) *зак.* Падрыхліць капаніцай.

ПАДЛАБУ'НІЦЦА (пыдлабуніцца) *зак.* Падысці, падладзіцца, знайсці падход. *Пыдлабуніўся ды брыгадзіра і ходзя кум кыралю.*

ПАДЛАТА'ЦЦА (пыдлытацца) *зак.* Расстарацца, выпрасіць. *У швагра пыдлытаўся закурыць.*

ПАДМАЛА'ДЖАВАЦЬ (пыдмыладжвыць) *незак., гум.* Падстрыгаць. *Думыіш я цябе дырма пыдмыладжывыю?*

ПАДМАЛА'ДЖВАЦЦА (пыдмыладжывыцца) *незак., гум.* Падстрыгацца, галіцца. *Ны вясельля зьбіраюся, дык пыдмыладжывыюся.*

ПАДМАЛАДЗІ'ЦЦА (пыдмыладзіцца) *зак., перан.* Пагаліцца, пастрыгчыся. *Трэба і сабе схадзіць пыдмыладзіцца.*

ПАДМАЛАДЗІ'ЦЬ (пыдмыладзіць) *зак.* Пагаліць, пастрыгчы. *Ты сумеіш мяне пыдмыладзіць, а то зарос як воўк.*

ПАДМАЛО'ДЖАНЫ *прым.* Пастрыжаны, паголены. *Я ўжо пыдмалоджаны.*

ПАДМАЛО'ДЖВАЦЦА (пыдмалоджывыцца) *незак.* Падстрыгацца, галіцца. *Я ціраз дзень пыдмалоджывыюся.*

ПАДМАЛО'ДЖВАЦЬ (пыдмалоджваць) *незак.* Падстрыгаць, галіць. *Ты хырашо падмалоджывыіш.*

ПАДО'РВА *м.* і *ж.* Гультай, гультайка. *Падорву ны работу ні пыдпячэш.*

ПАДПІКА'Н (пыдпікан) *м.* Самапал. *Посьлі вайны порыху было многа, дык мы пыдпіканы дзелылі і стрылялі ў лесі.*

ПАДСТО'ЛІЧ (пацстоліч) *м.* Стул. *Пыстаў вазычкы ны пацстоліч.*

ПАДЫ'СПАДДЗЕ (падыспыдзьдзя) *н.* 1. Ніз. *Падыспыдзьдзя ўсё пыгніло.* 2. Споднее адзенне, бялізна. *Цэлую гару падыспыдзьдзя намыла.*

ПАД'ЯЛДЫ'КА (пыд'ялдыка) *м.* і *ж.* Падбухторшчык. *Прышоў ды мяне пыд'ялдыка, у сваю тылаку сватыў.*

ПАД'ЯЛДЫ'КАЛА (пыд'ялдыкыла) *м.* і *ж.* Падбухторшчык. *Пыд'ялдыкылаў многа было, толькі я іх ня слухыў.*

ПАД'ЯЛДЫ'КАННЕ (пыд'ялдыканьня) *н.* Падбухторванне. *Ідзі сы сваім пыд'ялдыкыньнім ды цілят, а ні ды мяне.*

ПАД'ЯЛДЫ'КВАННЕ (пыд'ялдыкываньня) *н.* Падбухторванне. *Мне яго пыд'ялдыкываньня ў адно вуха ўляцела, а ў другоя выліціла.*

ПАД'ЯЛДЫ'КАЦЦА (пыд'ялдыкыцца) *незак.* Падбухторыцца. *Пыд'ялдыкыісься як дурань і тады ня ведыіш, што табе дзелыць, ны якім месцы сесьці.*

ПАД'ЯЛДЫ'КАЦЬ (пыд'ялдыкыць) *незак.* Падбухторваць. *Ны каго ты яго пыд'ялдыкыіш?*

ПАД'ЯЛДЫ'КВАЦЦА (пыд'ялдыкывыцца) *незак.* Падбухторвацца. *Пыд'ялдыкывыісься ў людзей, слухыіш усіх і тады дурнеіш.*

ПАД'ЯЛДЫ'КВАЦЬ (пыд'ялдыкывыць) *незак.* Падбухторваць. *Я цябе ніколі ні пыд'ялдыкывыю, а толькі вучу.*

ПАД'ЯЛДЫ'КНУТЫ (пыд'ялдыкнуты) *дзеепрым.* Падбухтораны. *Пыд'ялдыкнуты і дурны — адно і тоя ж, як браты родныя.*

ПАД'ЯЛДЫ'КНУЦЬ (пыд'ялдыкнуць) *зак.* Падбухторыць. *Яго ня дужа пыд'ялдыкніш.*

ПА'К *м.* Стос. *У мяне дома газеты цэлы пак.*

ПАМАЗО'К (пымазок) *м.* Пэндзаль. *Я з радысьцю нымылюваў бы цябе, ды пымазок дрэнны.*

ПАМІРГАВА'ЦЦА (пыміргывацца) *зак.* Памеркавацца, параіцца. *Пыміргуюся з бацькым, тады будзя відна.*

ПАМІРГАВА'ЦЬ (пыміргываць) *зак.* Памеркаваць, падумаць. *Пыміргую, тады скажу дыкладна.*

ПАМЫ'ХЛІЦЦА *зак.* Пафарсіць. *Што яна памыхлілыся сы сваёй машыный дык бацюшкі-сьвет.*

ПАМЫ'ХЛІЦЬ *зак.* Пафарсіць. *Куды ты ўжо памыхліш з гэтым пальтом?*

ПА'НАЎКА (паныўка) *ж.* Палонка. *Пойдзіця на рэчку, то глядзіця ў паныўку дзе ня ўрыньціся, лёд гнілы цяпера.*

ПАТАНО'К (пытанок) *м.* Грузік. *Паплавок малы, а пытанок дужа цяжкі.*

ПАПІКА'ННЕ (пыпіканьня) *н.* Дакаранне. *За кожную капейку пыпіканьня ад яе чую.*

ПАПІКА'ЙЛА (пыпікайла) *м.* і *ж.* Чалавек, які бясконца дакарае, буркун. *Сьціхні, пыпікайла, ны сябе луччы пыглядзі.*

ПАПІКА'ЦЬ (пыпікаць) *незак.* Дакараць. *Нечыга ны мяне абіжацца, я нічым табе ні пыпікаю.*

ПАПІКНУ'ЦЬ (пыпікнуць) *зак.* Сказаць у дакор. *Зы работу ты мне ні пыпікнеш.*

ПАПІРА'ШКА (пыпірашка) *ж.* Кульба. *А дзе я сваю пыпірашку пыставіў?*

ПАПІРО'СНІК (пыпіросьнік) *м.* Муштук. *Хырашо сігарэты ў пыпіросьнік курыць.*

ПАПІХА'ЙЛА (пыпіхайла) *м., асудж.* Невук, няўдаліца. *Ня хочыш вучыцца, каб чылавекым стаць, дык пыпіхайлым станіш.*

ПАКА'МЕСЬ (пыкамісь) *прысл.* Пакуль. *Пыкамісь тут тоя ды сёя, мы на рэчку зьбегыім.*

ПАКАСМЫ'ЦІЦЦА (пыкасмыціцца) *зак.* Палахмаціцца. *Прычоска біз плытка пыкасмыціцца.*

ПАКАСМЫ'ЦІЦЬ (пыкасмыціць) *зак.* Палахмаціць. *Ты мне кудзелю так пыкасмыціш.*

ПАКЛЫ'ЧАНЫ (паклычыны) *дзеепрым.* Памяты, паблытаны. *Салома паклычыныя, дык многа на воз ні ныкладзеш.*

ПАКЛЫ'ЧЫЦЦА *зак.* Памяцца, пацерціся. *Паклычыш платок, тады і хадзіць будзіш у ім.*

ПАКУ'ЛІКА і ПАКУ'ЛІКІ, ПАКУ'ЛІЦЬКА і ПАКУ'ЛІЦЬКІ *прысл.* Пакуль. *Пакуліка прыехыла, дык саўсім стамілыся. Пакулікі выда цёплыя ў рэццы. Пакуліцька ты прыдзіш, дык я бульбы ныварy. Пакуліцькі пісьма ад яго німа.*

ПАКУРЗНІ'ЦЬ (пукурзьніць) *зак.* Пагаварыць пра пустое. *Пакуліка пукурзьніць з кожным, дык і дзень пройдзя.*

ПАЛАБАВО'ЗІЦЦА (пылыбавозіцца) *зак.* Добра напрацавацца. *Пылыбавозімся мы з гэтым дубым, пакуль зрэжым.*

ПАЛАБАВО'ЗІЦЬ (пылыбавозіць). Шмат папрацаваць. *Хырашо пылыбавозіш, пакуля з лужы выідзіш.*

ПАЛАТАШЫ'ЦЬ (пылыташыць) *зак.* Назбіраць. *А мы зысталіся яшчэ і ягыд пылыташылі ці мала.*

ПАЛЕ'ВА *ж.* Галалёдзіца. *Тыкая палева, што ні ступіць.*

ПАЛО'ННІК (палоньнік) *м.* Апалонік. *Палоньнік крупені.*

ПАЛО'ЎНІК *м.* Апалонік. *Палоўнік дужа ёмкі купіла новы.*

ПАПСУ'Й *м., асудж.* Партач, няўмека. *Ты ні кравец, а папсуй, толькі ні абіжайся.*

ПАПСУ'ЙКА *ж., асудж.* Партачка, няўмека. *Болі я той папсуйцы ня толькі плаццяшыць, а гузік прышыць ні дыручу.*

ПАПСУ'ЙСТВА *н.* Псаванне. *Аж гадка глядзець: ні работа, а папсуйства.*

ПАПЕТУШЫ'ЦЦА (пупітушыцца) *зак.* Паскандаліць з гонарам. *Ня першы раз яна так: пупітушыцца і сьціхня.*

ПАПРАСТАРЭ'КВАЦЬ (пыпрыстарэкывыць) *зак.* Пасмяшыць, звастрыць. *Папрастарэкывыў і зы работу бярыся.*

ПАПЫНІ'ЦЬ (пыпыніць) *зак.* Пазбіраць ягад, грыбоў. *Пакуля ты вочы працёрла, дык людзі ўсе ягыды пыпынілі.*

ПАПЯРЭ'ЧКА (пыпярэчка) *ж.* Баразна ўпоперак у канцы поля. *У нас толькі ны пыпярэццы бульба зыстылася.*

ПА'РАНІНА (парыніна) *ж.* Папар. *Буду парыніну араць пад жыта.*

ПАРО'НКА *ж.* Фуражная бульба. *Адна емінка, сеінкі і паронкі саўсім мала.*

ПАСКАДНЯ' (пыскадня) *ж.* Сцябло маніц. *Пыскадня ў пыскадню пывыгыняла.*

ПА'СТВА *н.* Пасьба жывёлы. *Выгыніш кароў і сьпіш ля іх, ні нада нам такое паства.*

ПАТРЭ'БКА *ж.* Патрэба. *Еду ў горыд па патрэбцы.*

ПА'СЦІЦЬ (пасьціць) *незак.* Пасвіць. *Пыганю заўтра кароў пасьціць.*

ПАСЮСЮ'КАЦЦА (пысюсюкыцца) *зак.* Пашаптацца. *Нешта пысюсюкыліся і пабеглі.*

ПАСЮСЮ'КАЦЬ (пысюсюкыць) *зак.* Пашаптаць употай. *Хадзі ка мне, пысюсюкыім.*

ПАТРАП'Е (патрыпья) *н.* Ачоскі. *А што з патрып'ім дзелыць будзім?*

ПАТНІ'ЦА *ж.* Хвароба, гарачка. *Прыстудзіўся ны рабоці, дык патніца прыніла была.*

ПАТУРЫ'ЦЬ (путурыць) *зак.* Пагнаць. *А ў Бірызіно як пыднялі мы іх, дык путурылі ды Мінска.*

ПАЎХУ'Н *м.* Аплявуха. *Каб ён табе даў пуўхуна і варта было б.*

ПАЎШАБЭ'ЛАК (пуўшабэлык) *м., пагардж.* Недаростак. *Ны танцы адны пуўшабэлкі зьбіраюцца.*

ПАХАДЗЯ'КА (пыхыдзяка) *м.* Чалавек, які швэндаецца ад хаты да хаты. *Поўзае пы дзярэўні як пыхыдзяка які.*

ПАХАДНІ' (пыхадні) *толькі мн.* Хаджэнне. *Вы ж прышлі, дык гуляйця, а то ў вас па ўсіх хатых пыхадні.*

ПАХЛЕПЯСТА'ЦЬ (пахліпістаць) *зак.* Дробненька пасмяяцца. *Пыхліпісталі і ўжо можа сьціхніця?*

ПАХЛЮМЕ'НДЗІЦЬ (пыхлюменьдзіць) *зак., неадабр.* Паплакаць. *Ня лезь ды яго, пыхлюменьдзіць і пірыстаня.*

ПАЦЫ'РКАЦЬ (пацыркыць) *зак.* Падаіць. *Пайду карову пацыркыю.*

ПАЦА'ХЛІЦЬ (пыцахліць) *зак., неадабр.* Паблукаць, пашвэндацца. *Калі ні пыцахліць па ўсіх кутках, дык ня жыва.*

ПАЦЯЖО'К (пыцяжок) *м.* Повад, кавалак вяроўкі. *Такі харошы пыцяжок быў, а йдзе дзеўся?*

ПАЦЯЛЁПА (пыцялёпа) *м.* і *ж., асудж.* Балбатун, чалавек, які адно і тое ж расказвае па некалькі разоў. *Дакуля ты пра таго зайца ўспамінаць будзіш, пыцялёпа ты.*

ПАЦЯЛЁПНІЧАЦЬ (пыцялёпнічыць) *незак.* Плявузгаць, балбатаць пра адно і тое ж па некалькі разоў. *Прывык пыцялёпнічыць, што хоць кол яму на гылаве цяшы.*

ПАЧАМАДО'РЫЦЦА (пычымадорыцца) *зак.* Пафанабэрыцца, пазадавацца, паважнічаць. *Пакуля ні пычымадорыцца, дык нічога ад яго ні даб'есься.*

ПАШТА'Р (пыштар) *м.* Паштальён. *Табе пыштар грошы прынёс.*

ПАШТА'РКА (пыштарка) *ж.* Паштальёнка. *Пыштарка нешта цябе шукала.*

ПАЮРЫ'ЦЬ (пуюрыць) *зак.* Пасумаваць, панудзіцца. *Трохі пуюрыў біз маткі і пірыстаў.*

ПАЯ'ГЛІЦЬ (пыягліць) *зак.* Праявіць вельмі вялікае жаданне. *Пыягліў дамоў зразу, а посьлі разгуляўся.*

ПЕРАБУНТАВА'ЦЦА (пірыбунтувацца) *зак.* Збіцца з правільнага шляху, памыліцца. *Пакуля сыбірай матор, ні раз пірыбунтувайся.*

ПЕРАБУНТА'ВАЦЬ (пірыбунтуваць) *зак.* Перашкодзіць, пераблытаць. *Я рышаў задачу, а ты мне пірыбунтувай. Яны хацелі залезьці ў сад, ды я ім пірыбунтувала.*

ПЕРВІНА' (пірвіна) *ж.* 1. Навіна. *Што Мархва замуж пышла — гэта для мяне ні пірвіна.* 2. Першы раз. *Ні пірвіна мне ны сымалётых лётыць.*

ПЕ'ТРЫЦЬ *незак.* Разумець. *Які ж ты міханік, калі ў трактыры нічога ня петрыш?*

ПЁРКА *ж.* Лупцоўка, ушчуванне. *Ны тываріскі суд цябе вызываюць, будзя там табе пёрка.*

ПІ'ЛЬНА *прысл.* Неадкладна, абавязкова. *Мне пільна ў Мугулёў трэба зьезьдзіць. Ты мне пільна трэба.*

ПІ'СКЛЯТНІЦА (піськлятніца) *ж.* Курыца, якая водзіць куранят. *Наша піськлятніца чуць куршуна ні забіла.*

ПЛІ'К *м.* Гузік. *У тваім пальце плік атырвайся.*

ПНЕ'ЎЕ *н., зб.* Пні. *Апенкі трэба шукаць там, дзе многа пнеўя.*

ПНЮШО'К *м.* Пянёк. *А мядзьведзь і кажа: «Сяду на пнюшок, зьем піражок».*

ПО'ЛІЎКА *ж.* Юшка. *Нылавілі рыбы і поліўкі ныварылі.*

ПО'РАЗЬ (порызь) *прысл.* Паасобку. *А мы спалі ўсе порызь.*

ПО'ЎХ *м.* Аплявуха. *Поўх за поўх і пычалі біцца.*

ПО'ЎХУ *прысл.* Наводмаш. *Ну, ён яму і змазый поўху.*

ПРАБІРА'НЕЦ (прыбіраніц) *м.* Ушчуванне. *Прыспай дзень — цяпер дась табе брыгадзір прыбіранца, пыглядзіш.*

ПРАБІРА'НКА (прыбіранка) *ж.* Ушчуванне. *Далі табе прыбіранкі зы ўчарашнія ці не?*

ПРАБІРА'ЦЬ (прыбіраць) *незак.* Ушчуваць, бэсціць. *Хваця яго прыбіраць, ён ня будзя дурэць болі.*

ПЛАВУ'Н *м.* Човен. *Старынькі ў мяне плавун быў і цяжкі ны хаду.*

ПРАГАЙДАМА'ШЫЦЦА (прыгыйдымашыцца) *зак.* Абанкруціцца, растранжырыцца. *Можна быстра прыгыйдымашыцца, калі будзіш у чарку глядзець.*

ПРАГАЙДАМА'ШЫЦЬ (прыгыйдымашыць) *зак.*

Растранжырыць. *Прыгыйдымашыць і мільён нядоўга, калі гылыва дурная.*

ПРЫГА'РАК (прыгарык) *м.* Бульбіна, якая падгарэла зверху. *Я люблю прыгаркі зь мёрзлым салым есьці.*

ПРАДУ'ХВІНА *ж.* Палонка. *Ішоў вечырым па льду, цёмна было, быяўся, каб дзе ў прадухвіну ні ўваліцца.*

ПРА'ЗНАЦЬ (празныць) *незак.* Паважаць, слухаць, прызнаваць за аўтарытэт. *Я цябе, гылубок, мала празныю.*

ПРАКАВЕ'ЧНА (прыкавечна) *прысл.* Спрадвечна. *П'яніца ты быў і будзіш прыкавечна.*

ПРАКАВЕ'ЧНАСЦЬ (прыкавечнысь) *ж.* Няўмольнасць, непахіснасць. *Прыкавечнысці большай, як у яго, ні ў кога німа.*

ПРАКАВЕ'ЧНЫ (прыкавешны) *дзеепрым.* Спрадвечны, няўмольны. *Гэта быў злодзі прыкавешны.*

ПРАКУРА'Т (прыкурат) *м.* Свавольнік, неслух. *Гэта Хвёдыраў прыкурат салому пыдпаліў, я знаю.*

ПРАКУРА'ТКА (прыкуратка) *ж.* Свавольніца. *Ах ты, прыкуратка, што ж ты мне нытварыла.*

ПРАКУРА'ЧЫЦЦА (прыкурачыцца) *незак.* Свавопіць, дурэць. *Хваця прыкурачыцца, урокі вучы.*

ПРАМАКА'ЧКА (прымыкачка) *ж.* Прамакатка. *Тут жа ў мяне нейдзя прымыкачка была.*

ПРА'РАСТАК (прарыстык) *м.* Расток. *Жыта нідаўна пасеілі, а ўжо прарысткі ёсць.*

ПРАСТАЛЫ'ТКА (прысталытка) *ж.* Бессаромніца, прастытутка. *Прысталытка толькі і круціць хвастом, ёй абы за парог толькі.*

ПРАСТАРЭ'КА (прыстарэка) *м.* Вастраслоў. *Ні знала я, што ты такі прыстарэка.*

ПРАСТАРЭ'КАННЕ (прыстарэкыньня) *н.* Вастраслоўе. *Я ўжо чула ні раз тваё прыстарэкыньня.*

ПРАСТАРЭ'КВАННЕ (прыстарэкывыньня) *м.* Вастраслоўе. *У цябе, як у Штэпсіля з Тырапунькым, прыстарэкывыньня.*

ПРАСТАРЭ'КАЦЦА (прыстарэкыцца) *незак.* Вастрасловіць. *Цэлы дзень прыстарэкыісься, а ныкасіў, як кот ныплакыў.*

ПРАСТАРЭ'КАЦЬ (прыстарэкыць) *незак.* Вастрасловіць. *Прыстарэкыць ты сьпец, а што бырына аччапілыся, дык ты ні бачыш.*

ПРАСТАРЭ'КНУЦЬ (прыстарэкнуць) *зак.* Адпус-

ціць вострае слоўца. *Ты прыстарэкні валу, а мне ня трэба твайго прастарэкывыньня.*

ПРАСЯ'НКА (прысянка) *ж.* Прасяная каша. *Даўно прысянку еў, гадоў ужо дзесіць.*

ПРАФУ'РА *ж.* Бессаромніца. *Хто ні знае прафуру, пы вычах яна відна. Узмацн.* П р а ф у р ы н а.

ПРАЧУХА'НКА (пручуханка) *ж.* Ушчуванне, дакаранне. *Ой, було пручуханкі ад нычальніка.*

ПРАХІНДЗЕ'Й (прыхіндзей) *м.* Прайдзісвет. *Я табе рыскажу, які ён прыхіндзей.*

ПРАХІНДЗЕ'ЙКА (прыхіньдзейка) *ж.* Прайдзісветка. *Ня вер ты гэтай прыхіньдзейцы.*

ПРО'РАЗЬ (прорызь) *ж.* Палонка. *Ня хочыш жыць, дык ідзі гылавой у прорызь укінься.*

ПРО'ШВА *ж.* Наказ, просьба што-н. купіць. *Гэтыя боты — жонкіна прошва, купіў і вязу дамоў.*

ПРУ'ТКА *прысл.* Трапна, лоўка. *Прутка ты шубаіш, як шубнеш, так і пацэліш.*

ПРУ'ТКАСЦЬ (пруткысь) *ж.* Трапнасць. *Мне за пруткысь стральбы кыманьдзір роты ўвальніцельную даў.*

ПРУ'ТКІ *прым.* Трапны. *Пруткім словым у тысічу пацэліш.*

ПРЫДЗЕ'ЛАК (прыдзелык) *м.* Прыбудова. *Прыдзелык ды хаты буду кынчаць.*

ПРЫКІМА'РЫЦЬ *зак., жарг.* Прыдрамаць. *Увесь дзень пац стогым прыкімарылі, работнікі мне нашліся, а ны абед ні забыліся.*

ПРЫМАСКАТА'ЦЬ (прымыскытаць) *зак.* Моцна прыбіць. *Прымыскытаў, што ніхто ні атарве.*

ПРЫСКАПІ'ЦЦА *зак.* Прыстаць назолай. *Я ўжо калі прыськаплюся, то нідзе ня дзеніцца.*

ПРЫСКЕ'ПА (прыськепа) *ж.* Назола. *Ацстань, прыськепа!*

ПРЫСКЕ'ПЛІВАЦЦА (прыськеплівыцца) *незак.* Назойліва прыставаць. *Я ў цябе нічога не браў, ні пызычаў і ні прыськеплівыйся.*

ПРЫСЦЯБА'ЙЛА (прысьцібайла) *м., неадабр.* Непажаданы кампаньён, непатрэбная персона. *Куды нычальнік, туды і ён, як прысьцібайла.*

ПРЫ'ТНА *прысл.* 1. Шчыльна. *Хай бы ты што зьдзелыў, каб дзьверы зычыняліся прытна.* 2. Нізка. *Касі прытна. Кыса прытна бярэ.*

ПРЫ'ТНАСЦЬ (прытнысь) *ж.* Шчыльнасць. *Німа прытнасьці ў дзвірах.*

ПРЫ′ТНЫ *прым.* Шчыльны. *Прытныя крыша ні пыцячэ.*

ПРЫТУРЫ′ЦЬ *зак.* Хутка прыгнаць. *Рынывата ты сяньня карођ прытурыђ.*

ПРЫТЫ′РАНЫ (прытырыны) *дзеепрым., жарг.* Дурны. *Сядзіць і сьмяецца як прытырыны.*

ПРЫХЛЯБА′ЙЛА (прыхлібайла) *ж., неадабр.* Непажаданы кампаньён. *Біз прыхлібайлыђ нідзе ні абыйдзісься.*

ПРЫХЛЯБА′ЦЕЛЬ (прыхлібаціль) *м., неадабр.* Непажаданы кампаньён. *Дзе прыдсідаціль, там і прыхлібаціль.*

ПРЫ′ЦЕМКАМ (прыцімкым) *прысл.* 1. Адвячоркам. *Прыцімкым карову даіла.* 2. Калі яшчэ не развіднела, на золаку. *Прыцімкым прачхнуђся і паехыђ.*

ПРЫЯ′КА *м., іран.* Дабрадзей. *Прышођ прыяка, пыкурыђ тыбаку і пуђдня ны былбатню адняђ.*

ПРЫЯ′ННЕ (прыяньня) *н.* Спагада. *Я і біз твайго прыяньня абыйдуся.*

ПУ′К *м.* 1. Стрэлка ў цыбулі. *Уся цыбуля ђ пукі пыйшла.* 2. Пукі *мн.* Чарот. *Рэчка пукамі пызырыстала.* 3. Снапок. *Нышчыпађ пук шчађлю і зьеђ з сольлю. Зборн.* П у ч ч а.

ПУКТА′ *м.* і *ж.* Буркун, буркуха. *Прышла пукта, дык нікому спакою ні дась.*

ПУКЧЭ′ННЕ (пукчэньня) *н.* Буркатня. *Дзень і ноч пукчэньня ђ хаці, аж няхота дамођ іці.*

ПУКЧЭ′ЦЦА *незак.* Бурчаць. *Хваця табе пукчэцца німа за што.*

ПУКЧЭ′ЦЬ *незак.* Бурчаць. *За тыя дровы ён год будзя пукчэць.*

ПУ′ПСІК *м.* Пампон. *У цябе ж ны шапцы пупсік быђ, а дзе ён дзеђся?*

ПУПЫ′РКА *ж.* Бародаўка. *Гэта тэй інжынер наш, у якога на носі пупырка?*

ПУЧЫ′ЦЦА *ж.* Расці ў стрэлкі (аб цыбулі). *Цыбуля сёліта пучыцца.*

ПУШЭ′ННЕ (пушэньня) *н.* Бурчэнне. *Нічога, здаецца, ня еђ асаблівыга, а ђ жываце пушэньня.*

ПЫНЕ′ННЕ (пыненьня) *н.* Стараннае збіранне ягад, грыбоў. *Як узяліся за пыненьня, дык аж гай шумеђ.*

ПЫНІ′ЦЬ *незак.* Збіраць ягады, грыбы. *Пыню, пыню, а толькі пуђвідра сыбрала.*

ПЭ′ЦКАЛЬ (пэцкыль) *м.* Той, у каго справа не

ідзе на лад. *Ты ні трыктарыст, а пэцкыль, нічога ні пынімаіш.*

ПЯРВО'СЦЕЛКА (пярвосьцілка) *ж.* Карова, якая ацялілася першы раз. *Як якая пярвосьцілка: адна дась мылыка, другая — не.*

ПЯРНУ'ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Як гывару, дык ты ня чуіш, а як пярну, тады пачуіш.*

ПЯСКЛЁНАК (пяськлёнык) *м.* Куранё. *Пяськлёнык астаўся адзін і цыгыя на ўвесь двор.*

# Р

РАБАЦЁНКА (рыбацёнка) *ж., жарг.* Невялікая, нязначная работа. *Была рыбацёнка, дзіржаўся б пымаленьку, дык ні зыхацеў.*

РАБІ'НІНА *ж.* Рабіна. *Хырашо наша рабініна прынілася.*

РАЗАРА'ЦЦА (рызырацца) *незак.* Дэбашырыць, буяніць. *Ныбраўся гаркушы, а цяпер рызыраецца.*

РАЗБУБНЕ'ЦЦА (рызбубнецца) *зак.* Разбурчацца. *Як рызбубнісься, тады ні суняць.*

РАЗБУБНЕ'ЦЬ (рызбубнець) *зак.* Растрызвоніць, распляткарыць. *Нічога болі табе ні скажу — рызбубніш.*

РАЗБУ'ТЫ *прым.* Босы. *У лес ні хадзі разбуты.*

РАЗБУ'ЦЦА *зак.* Разуцца. *Пымажы мне разбуцца.*

РАЗБУ'ЦЬ *зак.* Разуць. *Ні магу сагнуцца, каб ногі разбуць.*

РАЗБРЫ'КІ *толькі мн.* Разлад, нелады. *Толькі пыжаніліся і ўжо разбрыкі ў іх пычаліся.*

РАЗБЫДРЭ'ЦЦА (рызбыдрэцца) *зак.* Разленавацца. *Як пыляжыш трохі, рызбыдрэісься, тады і ўстываць ня хочыцца.*

РАЗБЫДРЭ'ЦЬ (рызбыдрэць) *зак.* Аблянець. *Пра работу яму ні зыікайся — рызбыдрэў.*

РАЗГАЛАГО'ЛІЦЦА (рызгылаголіцца) *зак.* Разгарэзацца, раскрычацца. *Рызгылаголіліся дзеці на вуліцы.*

РАЗГМУЗДА'НЫ (рызгмузданы) *дзеепрым.* Раскілзаны. *Мой конь і рызгмузданы спакойны.*

РАЗГМУЗДА'ЦЦА (рызгмуздацца) *зак.* Раскілзацца. *Калі я зыгмуздаю, дык ні рызгмуздаіцца.*

РАЗГМУЗДА'ЦЬ (рызгмуздаць) *зак.* Раскілзаць. *Трэба кыня разгмуздаць, хай травы скубане.*

РАЗГМУ'ЗДЫВАЦЬ (разгмуздывыць) *незак.* Раскілзваць. *Хто цябе прасіў разгмуздывыць кыня?*

РАЗЗЫКАВА'ЦЦА (рыззыкывацца) *зак.* Разгізавацца. *Каровы рыззыкуваліся і пырызьбігаліся пы кустах.*

РАЗІБО'ДДЗЕ (рызібодзьдзе) *н.* Неразбярыха. *А ны вуліцы сяньня рызібодзьдзя нейкыя.*

РАЗІВО'Н *м.* Разявака. *Рызівон толькі і плача, што ён ні бачыў ды ня чуў.*

РАЗМЯЖДЖУ'ЛЕНЫ (рызмяжджуліны) *дзеепрым.* Раструшчаны, разбіты. *Разьмяжджуліныя бульба.*

РАЗМЯЖДЖУ'ЛІЦЬ (рызьмяжджуліць) *зак.* Раструшчыць. *Паліц мылатком рызьмяжджуліў.*

РАЗ'ЮРЫ'ЦЦА (рызьюрыцца) *зак.* Занудзіцца, засумаваць. *Пы бацьку рызьюрыўся.*

РАЗ'Я'ГЛІЦЦА (рыз'ягліцца) *зак.* Надта захацець. *Разьягліўся дамоў, дык ідзі, ніхто цябе ні дзяржыць.*

РАСКЕ'ПА (раськепа) *м.* і *ж.* Разявака. *Ня толькі ключы, а гылаву скора пыціруя тыкая раськепа.*

РАСКІРЭ'ЧВАЦЬ (раськірэчывыць) *незак.* Расстаўляць ногі. *Ты як ідзеш, то ўсягды ногі рыськірэчывыіш.*

РАСКІРЭ'ЧЫЦЬ (рыськірэчыць) *зак.* Расставіць ногі. *Ны два метры ногі рыськірэчыў.*

РАСКІРЭ'ЧЫЦЦА (рыськірэчыцца) *зак.* Расставіць ногі.

РАСКУРДАЯ'ЧВАЦЬ (рыскурдыячывыць) *незак.* Размаўляць (аб малых дзецях). *Пра што ты там рыскурдыячывыіш?*

РАСКУРДАЯ'ЧЫЦЦА (рыскурдыячыцца) *зак.* Разгаварыцца (аб малых дзецях). *Дзеці рыскурдыячыліся, інцірэсна іх слухыць. Во рыскурдыячыліся разым.*

РАСПРАСТАРЭ'КАЦЦА (рыспрыстарэкыцца) *зак.* Пачаць вастрасловіць. *Дося рыспрыстарэкыцца, пашлі ўжо касіць.*

РАСПРАСТАРЭ'КВАЦЬ (рыспрыстарэкывыць) *незак.* Вастрасловіць. *Я не рыспрыстарэкывыю, а кажу, як было. Што ты тут рыспрыстарэкывыіш, ці ні пыра дамоў?*

РАСПУКЧЭ'ЦЦА (рыспукчэцца) *зак.* Разбурчацца, раскрычацца. *Ха — ха, чаго ў цябе вушы сінеюць, як ны мяне рыспукчысься?*

РАСТАРА'ЧВАЦЬ (рыстырачывыць) *незак.* Балбатаць, мянціць языком. *Стаіш тут, рыстырачывыіш, а ні бачыш, што трэба плот ныладзіць.*

РАСТАРАДО'НІЦЦА (рыстырадоніцца) *зак., неадабр.* Разбалбатацца. *Ты толькі гаворыш, што ны мінутку пойдзіш, а тады да вечыра рыстырадонісься.*

РАСТАРАДО'НІЦЬ (рыстырадоніць) *зак., неадабр.* Разбалбатаць. *Табе скажы, ты рыстырадоніш па ўсёй дзярэўні.*

РАСТАРАДО'НЬВАЦЬ (рыстырадонівыць) *незак.* Разносіць розныя чуткі, балбатаць. *Я ні рыстырадонівыю, а кажу, што сваімі вычамі бачыў.*

РАСТАРАЧЫ'ЦЦА (рыстарачыцца) *зак.* 1. Раскрычацца. *Як рыстырачылася, дык мне хоць з хаты ўцікай.* 2. Разгаварыцца. *Рыстырачылася з Матруный, ні замеціла, калі час прайшоў.* 3. Рассакатацца. *Куры наеліся ячменю і рыстырачыліся.*

РАСТАРАЧЫ'ЦЬ (рыстырачыць) *зак.* Разбалбатаць. *Ты ўсе мае сікрэты рыстырачыла.*

РАСТАРО'ЧАНЫ (рыстарочыны) *дзеепрым.* Разбалбатаны. *Такія чуткі і ны Барку ўжо рыстарочыныя.*

РАССЮСЮ'КАЦЦА (рысьсюсюкыцца) *зак.* Разгаварыцца па сакрэту, шапатком. *Што вы там рысьсюсюкыліся, дзе болі двух — там гаворуць услух.*

РАСХЛЕПЯСТА'ЦЦА (рысхліпістацца) *зак.* Рассмяяцца ўпотай, ціха разрагатацца. *Што ты такоя сьмешная зьеў, што рысхліпістаўся.*

РАСХЛЮМЕ'НДЖВАЦЦА (рысхлюменджывыцца) *незак., неадабр.* Плакаць, расплаквацца. *Чаго ты рысхлюменджывыісься, аддам я табе твой нож.*

РАСХЛЮМЕ'НДЗІЦЦА (рысхлюмендзіцца) *зак.* Расплакацца. *Можа табе вядро на сьлёзы прынесьці, што рысхлюмендзіўся дужа.*

РАСШАБУНЯ'ЦЦА (рысшыбуняцца) Разгаварыцца. *Яны там рысшыбуняліся і забыліся ны нас.*

РАСШАБУНЯ'ЦЬ (рышшыбуняць) *зак.* Развесяліць, падбіць на размову. *Ён і мёртвыга рышшыбуняў бы.*

РАЦЁНАК (рацёнык) *м., памянш.* Рот, роцік. *Разіня рацёнык і глядзіць, ці прынёс яму што, харошы хлопчык.*

РАХАМУ'Д (рыхамуд) *м.* 1. Галадранец, чалавек у лахманах. *Што ты такім рыхамудым у горыд паедзіш?* 2. Неакуратны, брудны чалавек. *Хоць рукі памый, рыхамуд.*

РАХАМУ′ДКА (рыхамудка) *ж.* 1. Неакуратная дзяўчына, жанчына. *Дывай плацьця памыю, рыхамудка.* 2. Брудная ануча. *Памый гэту рыхамудку ў біньзіні і пратры кырдан.*

РАХАМУ′ДДЗЕ (рыхамудзьдзя) *н.* 1. *Зняваж.* Прылады, прычандалы. *Сыбраў сваё рыхамудзьдзя і пыдаўся на возіра.* 2. *Зняваж.* Старая вопратка, ануча, старызна. *Надзеўся ў рыхамудзьдзя і бульбу кыпаць пайшоў. Дзе толькі ні выляецца рыхамудзьдзя.*

РАХАМУ′ДЗІНА (рыхамудзіна) *ж.* 1. *Зняваж.* Рыбацкая ці паляўнічая рэч, прылада, снасць. *Адной рыхамудзіны ніяк ні найду.* 2. Старая адзежына. *Рыхамудзіну гэту шкода выкінуць?*

РАХАМУ′ЙЛА (рыхамуйла) *м., абразл.* Неахайны чалавек. *Боты сабе ні пачысьця, рыхамуйлым ходзя.*

РАЛЯ′ (рыля) *ж.* Ралля. *Рыля сагрэлыся, парыць.*

РО′ЙЛА *н.* Беспарадак. *У маіх кырманых цэлыя ройла.*

РУНДУ′К *м.* Вялікі чамадан. *Усю сваю маёмысь у рундук складу.*

РУ′ШНА *прысл.* Спакойна (толькі пра жывёлу). *Ціляты рушна да горыда ехылі.*

РУ′ШНЫ *прым.* Спакойны, прыручаны. *Наш бычок саўсім рушны.*

РУ′ХАННЕ (руханьня) *н.* Рохканне. *Свіньня рухыньня пычыла.*

РУ′ХАЦЬ (рухыць) *незак.* Рохкаць. *Пырысяты ліжаць у пяску, рухыюць.*

РУ′ХНУЦЦА *зак.* Зваліцца. *Ня лезь вышэй, рухнісься.*

РУ′ХНУЦЬ *зак.* 1. Зваліцца. *Пы клацці ішоў, пыкаўзнуўся і ў рэчку рухнуў.* 2. Разваліцца. *Рухня сціна і цябе разым з каровый прыцісьня.* 3. Рохнуць. *А сьвіньні як рухнуць, як пыбягуць!*

РЫ′БНІК *м., жарт.* Рыбак. *Такому рыбніку, як ты, кырасі самі ў вядро скыкаць будуць.*

РЫ′ЗЗЕ (рызьзя) *н.* Старая, непрыгодная вопратка. *У грыбы пойдзіш, дык найдзі якоя рызьзя ды надзень.*

РЫ′ЗНІК (рызьнік) *м.* Дрэнна апрануты чалавек. *Надзенься ты як чылавек, ні хадзі рызьнікым.*

РЫ′ЗНІЦА (рызьніца) *ж.* Дрэнна апранутая жанчына. *Ці ня стыдна табе хадзіць рызьніцай, быццам у цябе німа чаго надзець.*

РЫ′ПАННЕ (рыпаньня) *н.* 1. Буркатня. *Німа таго*

*дня, каб ты ні пычынала ны мяне рыпыньня.* 2. Няўмелае гранне на гармоніку. *Гэта, браток, ні граньня, а рыпаньня.*

РЫ'ПАЦЦА (рыпыцца) *незак., жарг.* Незадаволена бурчаць. *Сам прытрухніся, тады ня будзіш ны мяне рыпыцца.*

РЫ'ПАЦЬ (рыпыць) *незак.* 1. Няўмела граць. *Пылажы гармонік, ні нада рыпыць.* 2. *Жарг.* Выказваць крыўды. *Я тут ні пры чым, можаш ны мяне ня рыпыць.*

РЭГЕ'НТ *м.* Рэнтген. *Хадзіла ны рэгент, прывіралыся.*

РЭ'ЗАНКА (рэзынка) *ж.* Рэзаная бульба для пасадкі. *З вялікый бульбы можна рэзынкі зьдзелыць і садзіць.*

РЭ'ПАЦЦА (рэпыцца) *незак.* Трэскацца. *У ботах пірады рэпыцца пычалі.*

РЭ'ПКУ ПЕЦЬ *незак.* Пакутваць ад болю, плакаць. *Ногі пасевірыюць, тады будзіш сядзець дома, ды рэпку пець.*

## С

САБАКА'Р (сыбыкар) *м., асудж.* Дураслівец. *Эх, сыбыкары, ім толькі насіцца адзін за другім.*

САБАКА'РКА (сыбыкарка) *ж., асудж.* Дурасліўка. *Што, сыбыкарка, есьці ўжо зыхацела?*

САЛЫ'ПАННЕ (салыпаньня) *н.* 1. Палыханне (пра агонь). *Я ад лесу салыпаньня ўбачыў і здыгадаўся, што пыжар.* 2. Лізанне. *Карова выпіла пойла, салыпаньня пычыла.*

САЛЫ'ПАЦЬ (салыпыць) *незак.* Шугаць, палыхаць (пра агонь). *А полымя па сценых салыпыя.* 2. Лізаць. *Салыпыя карова языком па цэбру.*

САЛЫ'ПНУЦЬ (сылыпнуць) *зак.* 1. Палыхнуць (пра агонь). *А полымя як салыпне пы саломі.* 2. Ліznуць. *Карова салыпнула і, відна, прыглынула кусок дроту.*

САМАДЗЕ'ЛАК (сымадзелык) *м.* Самаробная рэч. *Каб хоць нож быў талковы, а то сымадзелык.*

САМАГНЁТ (сымагнёт) *м.* Самагон. *Я ня п'ю сымагнёту.*

САМАГНЁ'ТКА (сымагнётка) *ж.* Самагон. *Ад стыкына сымагнёткі еткі п'яны ты ня быў бы.*

САМАПА'С (сымыпас) *м.* Пасьба без пастуха. *Карова наша ны сымыпасі.*

САМАПА'САМ (сымыпасым) *прысл.* Без пастуха. *Захварэла карова, ні пускаім у поля, сымыпасым цяпера ходзя.*

САМАСЕ'Й (сымасей) *м.* і САМАСЕ'ЙКА (сымасейка) *ж.* Тытунь, які вырошчваецца на агародзе. *Я ні пыпіросы, ні махорку ні купляю ні разу, у мяне сымасею хыпая.*

САМКА'ЦЦА (сымкацца) *незак.* Спатыкацца. *Ні дырма ны парозі сымкаісься, нугусцюваўся.*

САМКНУ'ЦЦА *зак.* 1. Спатыкнуцца, аступіцца. *Пы клацы ішоў, самкнуўся, чуць у ваду ні пыляцеў.* 2. Прамахнуцца, памыліцца. *Сек жалезіну, а зубіла самкнулыся, дык я мылатком пы пальцах.*

СА'НКІ *толькі мн.* Скіўіцы. *Гэта яму ў вайну санкі зьвярнулі, каб даўгі язык ня меў.*

САПСЕ'ЛЫ *прым., груб.* Стары. *Саўсім сапселы стаў за гэты год, німа здароўя.*

САПСЕ'ЦЦА *зак., груб.* Састарыцца. *Мікалай ужо дужа сапсеўся. Сапсеісься і ты.*

САПСЕ'ЦЬ *зак., груб.* Састарэць. *Калі ён усьпеў так сапсець?*

СА'РПАННЕ (сарпыньня) *н.* Фырканне. *Пы сарпыньню чую, што коні тут.*

САРПАНУ'ЦЬ (сырпануць) *зак.* Фыркнуць. *Як сырпанеш сваім носым, то ў мяне аж мурашкі пы спіне бегыюць.*

СА'РПНУЦЬ *зак.* Фыркнуць. *А коні як сарпнуць — ды ў гурт.*

САСЦЁБАЦЬ (сасьцёбыць), САСЦЯБА'ЦЬ (сысьцібаць) *зак.* Сшыць на скорую руку. *Мяшкоў німа, пайду сасьцёбую штукі два.*

САСЦЯБНУ'ЦЬ (сысьцябнуць) *зак.* Хутка сшыць, зашыць. *Сасьцябну трохі і ладна будзя.*

СА'К *м., жарг.* Гультай, сімулянт. *Адзе ўжо Мікітыў сак дзеўся?*

САЧО'К *м.* 1. Рыбалоўная снасць. *Сачок за дзень звізаў.* 2. *Жарг.* Сімулянт, лайдак. *Такі сачок ны сінакос ня пойдзя.* 3. Пінжачок. *Накінь сачок на плечы, цяплей будзя.*

САЧКАВА'ЦЬ (сычкываць) *незак., жарг.* Увільваць ад работы. *Нечыга сычкываць, бяры касу, ды пойдзім.*

САЧКАНУ'ЦЬ (сычкануць) *зак., жарг.* Увільнуць

ад работы, прагуляць. *Ён ны любой рабоці ўмудрыцца сычкануць.*

СВІНТО'С *м., абразл.* Няўдзячны чалавек. *Хыця б дзяцьку спасіба скызаў, ці трэба такім свінтосым быць.*

СВІННЁНАК (сьвіньнёнык) *м.* 1. Свінчук, кабанчык. *Сьвіньнёнка за дзісятку купіў.* 2. *Перан.* Неакуратны хлапчук. *Рукі ідзі памый, сьвіньнёнык.*

СВІННУ'РКА (сьвіннурка) *ж.* Свінарка. *У нас усе сьвіннуркі пірыдавыя.*

СВІННУ'ШНІШЧА (сьвіннушнішча) *н.* Стойла для свінней. *Смурод, як ны якім сьвіннушнішчы.*

СВІСТУ'ЛЯ (сьвістуля) *м., перан.* Манюка. *Ты ж кызаў, што адных бырывікоў ныбраў, сьвістуля ты за гэта.*

СВІ'ШЧ (сьвішч) *м.* Дзірка, шчыліна ў варотах, дзвярах, вокнах, куды дзьме вецер. *Пыпрасіў яго, каб вокны асадзіў, дык ён мне сьвішчоў надзелыў.*

СВІ'ШЧЫК (сьвішчык) *м.* 1. Дзірачка, шчыліна ў дзвярах, вокнах. *Чым бы гэта сьвішчык задзелыць, каб вецір ня дуў?* 2. *Перан.* Манюка. *Гэты сьвішчык табе ныгавора, што дулі ны вярбе растуць.*

СЕ'ДЗЕНЬ (седзінь) *м.* Сядун, гультай. *Седзінь заўсягды думая, што яму будзя ўсё ліцца і сыпацца дырма.*

СЕ'ДНЯ *ж.* Спакой. *Чаго вы разьбегыліся, седні вам німа ці што?*

СЕ'ЧАНКА (сечынка) *ж.* Здробненая салома, рэзь. *Дужа ня хочуць каровы посьлі сілысу сечынку есьці.*

СЕ'ЧКА *ж., перан.* Сварлівая, уедлівая кабета. *Не ведыіш ты ці што, гэты ж першыя сечка.*

СЕ'ЯНКА (сеінка) *ж.* Бульба для пасадкі. *Сеінкі ў мяне многа астанецца.*

СІВУ'Н *м., неадабр.* 1. Стары халасцяк. *Зы такога сівуна ні адна дзеўка ня пойдзя.* 2. Стары баравік. *А яму абы быравік, дык поўнае вядро сівуноў ныэьбіраў.*

СІ'ТНІК *м.* Хмызняк. *Мар'ян вун у сітніку пыдасінавікыў ныэьбіраў і ні хадзіў за блізкі сьвет.*

СІЛА'КА *м.* Асілак. *Ні падніміш адзін і ні бярыся, сілака мне нашоўся.*

СКА'БКА *ж.* 1. Стрэмка. *Ці ёсць у цябе іголка, трэба скабку выніць.* 2. Скаба. *Скрапі бярвеньня скабкай, каб ні рыссувалыся.* 3. *Перан.* Злая жонка; дрэнная, уедлівая нявестка. *Яго скабка як рыспукчыцца, дык нядзелю будзя бырыбаніць.*

СКАБЛЯНУ'ЦЬ (скыблянуць) *зак., перан.* Уда-

рыць палкай. *Атлезь, а то як скыбляну, дык аж пірацруцісься. Зняць кару з большага. Скыбляні трошкі ў камлі.*

СКАПЫЦІ'ЦЦА (скыпыціцца) *зак., перан., груб.* Памерці. *Адзін парцізан узяў яго зы каршэнь, дык чуць ні скыпыціўся сы страху.*

СКАПЭ'РДЗІЦЦА *зак., груб.* Згінуць, памерці. *Мог бы і ты скапэрдзіцца ў балоці, каб ні я.*

СКАПІРДА' (ськіпірда) *м.* і *ж.* Скнара. *Ськіпірда ніколі ні скажа, што многа, а ўсё мала.*

СКАЧО'К *м.* 1. Конік. *Трэба скачкоў нылавіць, на іх плоткі хырашо бяруцца.* 2. *Перан.* Чалавек, які часта мяняе месца працы, лятун. *Ты ні работнік, а скачок.*

СКЛАДА'НЧЫК (склыданчык) *м.* Сцізорык. *Гэты склыданчык у мяне гадоў дзесіць носіцца.*

СКЛАДНЯ' (склыдня) *ж.* Сцірта сена, саломы. *Трэба ў першую вочырыдзь піравезці тую складню, што лі дарогі.*

СКЛІЗГАНУ'ЦЦА *зак.* Слізгануцца. *Глядзі, а то склізганешсься, дык і мазгі ні пысыбіраеш.*

СКЛІЗГАНУ'ЦЬ *зак.* 1. Слізгануць. *Я толькі з горкі склізгануў.* 2. Ударыць рукой па твары. *Калі склізгану, дык ні захочыш.* 3. Хутка збегаць. *Склізгані, прынясі мылаток.*

СКЛІ'ЗКА *прысл.* Слізка. *Дужа склізка ў маіх ботых хадзіць.*

СКЛІ'ЗЕНЬ (склізінь) *м., перан.* Капрызны хлапчук. *Па кім ён удаўся, такі склізінь?*

СКЛІЗНЯ' (склізьня) *ж.* 1. Смоўж. *Ны шчаўлі — адны склізні.* 2. *Перан.* Капрызная дзяўчынка. *Чаго ты рыскрычалася, склізня?* 3. Слізота, галалёд. *Тыкая склізня, што іці нільзя.*

СКЛІЗО'ЦЦЕ (склізоцьце) *н.* Слізота. *Склізоцце — ні ступіць.*

СКАРО'ВІЦЦА *зак.* Зморшчыцца ад агіды. *Як зірнуў ны яго рукі, дык аж скаровіўся.*

СКУКАРЭ'ЧАНЫ (скукарэчыны) *прым.* Згорблены. *І ні скажыш, што ён нычальнік, скукарэчыны нейкі.*

СКУКАРЭ'ЧЫЦЦА *зак.* Згорбіцца ад холаду, сагнуцца. *Пыняволі скукарэчышся ад такога марозу.*

СКУКАРЭ'ЧЫЦЬ *зак.* Сагнуць, згорбіць. *Чаго цябе скукарэчыла ў тры пагібілі, хворы ці што?*

СЛАБА'К (слыбак) *м.* Нядужы, някемлівы чалавек. *Слыбак ты яшчэ, мала кашы паеў. Я ў зыдачах слыбак быў, а ліціратуру любіў.*

СЛАБІНА' (слыбіна) *м.* і *ж.* 1. Воля, свабода. *Слыбіну пачуў біз бацькі, дык ны гылаве хадзіць будзіш!* 2. Нядужы, хілы чалавек. *Ідзі дамоў, слыбіна.*

СЛАБО' *прысл.* Боязна. *Слабо табе мяне ўдарыць. Слабо табе кыня за хвост узяць. Мне слабо рэчку піраплыць?*

СЛЕПЕНДРА' (сьліпіндра) *м.* і *ж., груб.* Слепаваты чалавек. *Калі ты сьліпіндра, дык бяры вочы ў кулак і глядзі.*

СЛІ'БА (сьліба) *часц.* Хіба. *Валодзя, гад ты печаны, сліба толькі ты дамоў ня прыдзіш, я з табой рызьбяруся.*

СЛІЖА'К (сьліжак) *м.* Казляк (грыб). *Бырывікоў німа, а сьліжакоў — хоць касой касі.*

СЛІ'ЖАНЬ (сьліжань) *м.* Смоўж. *Адкуль толькі гэтыя сьліжні бяруцца? Халодны як сьліжань.*

СЛУ'ШНІК *м.* Паслухмяны хлапчук. *Ты ж у мяне слушнік, дык я табе і купіла новы касьцюм.*

СЛУ'ШНІЦА *ж.* Паслухмяная дзяўчынка. *Будзіш слушніца — буду жалець.*

СМАЛІ'ТАРКА (смалітырка) *ж.* Бессаромніца. *Пабегла, як якая смалітырка, некуды ны Бялынічы.*

СМЕ'РГЛЫ (сьмерглы) *прым.* Сапсаваны, разложаны. *Кінь гэта яйцо, яно даўно ўжо смерглае.*

СМЕ'РГНУЦЦА (сьмергнуцца) *незак.* Псавацца. *Ужо нядзелю твае яйцы смергнуцца, як ты іх есьці будзіш?*

СМЕ'ТНІШЧА (сьметнішча) *н.* Сметнік. *Куры ўвесь дзень на сьмэтнішчы кыпаюцца.*

СМЕ'Х (сьмех) *м.* 1. Смех. *У цябе смех, як у жырабка.* 2. Жарт, забава. *Прывізаў кату банку за хвост і пусьціў — во сьмех знайшоў.*

СМЕ'ХАМ (сьмехым) *прысл.* Жартам. *Я сьмехым зь ёй прайшоўся раз ці два, а іна думая, што я рыстану пірад ёй.*

СМЕХАТУ'Н (сьмехатун) *м.* Весялун. *Сьмехатун, цётка, твой Коля.*

СМЕХАТУ'РА (сьмехатура) *ж., жарг.* Камедыя, што-н. смешнае. *Пабегла Ганна, за ёй — Аўдоцьця, тады Хрысьціна — ой, сьміхатура была.*

СМЕ'ШАЧКІ (сьмешычкі) *мн.* Жартачкі. *Сьмешычкі яму, што каровы пы гародах пасуцца. Гэта табе ня сьмешычкі.*

СМЕХАТА' (сьміхыта) *м.*, СМЯХО'ЦЦЕ (сьмяхоцце) *н.* Што-н. смешнае, вясёлае. *Сьміхыта адна з гэты-*

*мі бабкымі, якога чорта ня выдумаюць.* 2. Вартае сьмеху. *Праз цябе сьміхаты ні адбяруся.*

СМЫ'ГНУЦЬ *зак.* Зрабіць зацяжку (пры курэнні). *Дай я разок смыгну, а то даўно ні курыў, аж вушы пыапухалі.*

СМЫ'ЖАННЯ (смыжаньня) *н., неадабр.* Курэнне. *Калі вы кініця гэтая смыжаньня, дыхнуць ужо нечым.*

СМЫ'ЖЫЦЬ *незак., неадабр.* Курыць. *Цэлы дзень смыжа і смыжа пыпіросу за пыпіросый.*

СПО'ДКА *ж.* Рукавіца. *Вазьмі сподкі, а то рукі пымарозіш.*

СПЕ'ТРЫЦЬ (сьпетрыць) *зак.* Прыдумаць, дадумацца. *Цяпер я сьпетрыў, што нам далі дзелыць.*

СПЕ'Ц (сьпец) *м.* 1. Спецыяліст, майстра. *Печ скласьці і я спец.* 2. *Жарг.* Дзялок, жулік. *Нічаго ні скажыш, сьпец, ны хаду падмёткі адпора і ні пачуіш.*

СПАДЛО'Б'Я *прысл.* З-пад ілба. *Чаго ны мяне глядзіш спадлоб'я?*

СПІЧА'К (сьпічак) *м.* Ражон. *Ны сьпічаку сала напёк.*

СПРАВО'НКІ *мн.* Абновы. *У яе адно ў гылаве — кожны дзень справонкі спрыўляць.*

СТАЛАВА'ЦЬ (стылываць) *незак.* Карміць кватаранта. *Толькі ды панядзелка, а там я сыма цябе стылываць буду.*

СТАЛІ'ЦЬ *незак.* Слаць столь. *Сталіць трэба, а дошкі сырыя.*

СТА'ЛІЦЬ ЛОБ *незак.* Набіваць гузы на лбу. *Насталіў лоб — пыхадзі цяперыцька, пыкрасуйся.*

СТАЎБЕ'НЬ *м.* Ёлупень. *Нічога ні пынімае, як стаўбень.*

СТУКАТНЯ' *н.* Грукат. *Пысярод ночы стукатню пыдняў.*

СТУКАЦЕННЕ (стукаценьня) *н.* Грукат. *Я чула ны дварэ стукаценьня і ні здыгыдалася нічога.*

СТУКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Грукаць. *Кынчай стукацець — дзеці сьпяць.*

СТРА'М *м.* Сорам. *Які страм хадзіць пы хатых, ды прасіць гарэлкі.*

СТРАМІ'ДЛА *м.* Бессаромнік. *Стрáмідла ты, а ні чылавек.*

СТРАМІ'ЦЦА *незак.* Нажываць сорам. *Чаго ты ходзіш за ім, чаго ты страмісься?*

СТРАМІ'ЦЬ *незак.* Сароміць. *Ні хачу сымыго сябе страміць у гэтых штынах.*

СТРА'МНІК *м.* Бессаромнік. *Ці ж люцкія дзеці дзелыюць так, страмнік ты.*

СТРА'МНІЦА *ж.* Бессаромніца. *Надзень другоя плацьця, страмніца.*

СТРАХАЛЮ'Д (стрыхалюд) *м.* Вырадак, пачвара. *Я б зы такога стрыхалюда ўвек бы ні пышла і ні жыла б.*

СТРАХАЛЮ'ДДЗЕ (стрыхалюдзьдзя) *н.* Пачварнасць. *Быў у зьвярынцы, уй, стрыхалюдзьдзя там колькі ўсякыга.*

СТРАХАЛЮ'ДКА (стрыхалюдка) *ж.* Пачварная жанчына. *Сам дык яшчэ нічога, як пыглядзець, а яна чыстыя стрыхалюдка.*

СТРАХАЛЮ'ДНА (стрыхалюдна) *прысл.* Брыдка, агідна, страшна. *Ны яго глядзець стрыхалюдна.*

СТРАХАЛЮ'ДНІЧАЦЬ (стрыхалюднічыць) *незак.* Хадзіць неакуратна апранутым, неахайным. *Прывык стрыхалюднічыць, дык яму цяпер хоць у лоб стрыляй— нічога ні пынімая.*

СТРАХАЛЮ'ДНЫ (стрыхалюдны) *прым.* Пачварны, неахайны. *І такім стрыхалюдным ты ў горыд зьбіраісься?*

СТРАХО'ЦЦЕ (страхоцьця) *н.* Вялікі страх. *Ці мала мы страхоцьця ныбачыліся ў вайну?*

СТРА'ШНА *прысл.* 1. Боязна. *Страшна было ці не?* 2. Дужа, вельмі. *Страшна многа грыбоў.*

СТРУГА'НАК (струганык) *м.* Рубанак. *У цябе, я чуў, ёсь харошы струганык, дык дай мне.*

СТРУГА'НІЦЬ *незак.* Чысціць рубанкам дошкі, бярвенне. *Ці добра ты пычаў струганіць?*

СТРУГА'НКІ *ж.* Падструганыя дошкі, клёпкі. *Аж звіняць мае струганкі на сонцы.*

СТРУ'П *м.* Балячка. *Усё цела струпамі пыбралася, трэба ў бальніцу схадзіць.*

СТЫ'ЛІЦА *ж.* Халадэча. *На дварэ тыкая стыліца, хоць вочы ні пыказывый.*

СТЫ'РЫНЫ *прым., жарг.* Украдзены. *Гэты ножык, я бачу, у цябе стырыны.*

СТЫ'РЫЦЬ *зак., жарг.* Украсці. *Мог і Нічыпыр стырыць твае шчыпцы.*

СУКАЛЯ'ЦІНА (сукыляціна) *ж.* Сукаватае дрэва. *Што ты будзіш дзелыць з такой сукыляцінай, іна і на дровы ні гадзіцца.*

СУКАЛЯ'ЦЦЕ (сукыляцьця) *н., зб.* Сучча. *Сукыляцьця трэба пазьбірацць ды пыдпаліць.*

СУРДУЛА'К *м.* Нелюдзімы чалавек. *З табой хоць пыгыварыць можна, а сын твой саўсім сурдулак.*

СУРДУЛА'ЧЫЦЦА *незак.* Ухіляцца ад людзей. *Чаго ты сурдулачысься як злодзі.*

СУСТО'Й *м.* Адстой. *Сустою цэлы стыкан ныбраласся.*

СХЛІЯ'ЛЫ *прым.* 1. Кволы, слабы. *Схліялы ты нешта пасьля жаніцьбы.* 2. Стары. *Я ўжо чылавек схліялы, а вы мыладыя.*

СХЛІЯ'ЦЬ *зак.* Аслабець, састарыцца. *Схліяім некылі і мы.*

СХЛЯСНУ'ЦЦА *зак.* Сыйсціся ў бойцы, счапіцца ў спрэчцы. *Гыварылі, сьміяліся, а тады чорт зная чаго схляснуліся.*

СШЫПУ'ЛЕНЫ (шшыпуліны). Сшыты ў спешцы абы-як. *А штаны чуць-чуць толькі шшыпуліны. Ні прышыты рукавы, а чуць шшыпуліны.*

СШЫПУ'ЛІЦЬ (шшыпуліць) *зак.* Стуліць, сшыць. *Шшыпуліў полы і пашоў як кыралёў кум.*

СЫНУ'ЛЯ *м., ласк.* Сынок. *Глядзі, сынуля, што я табе прывёз.*

СЮСЮ'КАЛА (сюсюкыла) *м.* 1. Той, хто любіць шаптацца. *Сьціхні, сюсюкыла, дзе болі двух, там гаворуць услух.* 2. Даносчык. *Што, сюсюкыла, пылягчэла табе, як зь міханікым у машыні праехыў?*

СЮСЮ'КАННЕ (сюсюкыньня) *н.* Шаптанне, даносы. *Ці хырашо ж там выслухылі тваё сюсюкыньня?*

СЮСЮ'КАЦЦА (сюсюкыцца) *незак.* Гаварыць шэптам, змоўнічаць. *Выйшла я на вуліцу, а ён стаіць зь ёй лі варот і нешта сюсюкыюцца.*

СЮСЮ'КАЦЬ (сюсюкыць) *незак.* Гаварыць шэптам, змаўляцца. *Што ты яму там сюсюкыіш?*

СЮСЮ'КНУЦЬ *зак.* Шаптануць, сказаць што-н. употай. *Глядзі, брыгадзіру ні сюсюкні, што я тут.*

СЯ'ДЗЬБА *ж.* Прысядзібны ўчастак. *На маёй сядзьбі дужа харошыя бульба.*

СЯ'ННЯ (сяньня) *прысл.* Сёння. *Сяньня па радзіву пірыдавалі, што дож будзя.*

СЯ'ННІКА (сяньніка) *прысл.* Сёння. *Сяньніка буду дома цэлы дзень.*

СЯ'ННІЦЬКА (сяньніцька) і СЯ'ННІЦЬКІ (сяньніцькі) *прысл.* Сёння.

# Т

ТАЛА'Н (тылан) *м.* Разумнік, шчасліўчык. *Кацюшыны дзеці ўсе, як адзін, тыланы.*

ТАЛА'ННЕ (тыланьня) *н.* Шанцаванне, шчасце. *Калі німа тыланьня, то і бог ні бача.*

ТАЛА'НІЦЦА (тыланіцца) *незак.* Шчасціцца. *Што калі яму ўсё жыццё тыланіцца.*

ТАЛА'НІЦЬ (тыланіць) *незак.* Шчасціць. *Што калі яму ўсё жыццё тыланіць.*

ТА'МА *прысл.* Там. *Нікога ты тама цяперацька ні найдзіш.*

ТА'МАЦЬКА (тамыцька) і ТА'МАЦЬКІ (тамыцькі) *прысл.* Там. *Тамыцька дужа мокра тады было. Тамыцькі я ні разычку ні была.*

ТА'ПАЦЬ (тапыць) *м.* 1. Лапаць. *Я дзедыў тапыць знайшоў на столі.* 2. *ж.* Сандаля. *Хто куды мае тапці звалок?*

ТАРАБА'НІЦЬ (тырабаніць) *незак., перан.* Несці на плячах. *Тырабаню мылако на бызар.*

ТАРАДЭ'ЙКА (тырадэйка), ТАРАРЭ'ЙКА (тырарэйка) *ж.* Стары, пабіты грузавік. *На гэтай тырадэйцы мяне ніхто не тое што ў горад, а на шашу ня пусця. Тырарэйка ўжо — ні машына.*

ТАРАХЦЕ'ЛКА (тырахцелка) *ж.* 1. Бразготка. *Гылаву азяліў сваёй тырахцелкай.* 2. *Перан.* Буркуха. *Зывілася, тырахцелка, ікая муха цябе ўкусіла?*

ТАРАХЦЕ'ЦЬ (тырахцець) *незак.* 1. Бразгатаць. *Дзеці тырыхцяць цацкамі, не даюць пыспаць.* 2. Ракатаць. *Ці ні Валодзіў гэта трактыр тырахціць?* 3. Бурчаць, сварыцца. *Кынчай тырахцець — ныдаела.*

ТАРАЧУ'ШКА (тырачушка) *ж., ласк.* Курыца, сакатуха. *Тырачушкі мае, хадзіця, я вас пыкармлю.*

ТАРАЧЭ'ННЕ (тырачэньня) *н.* Сакатанне. *Куры тырачэньне пыднялі — пыцяплея.*

ТАРАЧЫ'ЦЬ (тырачыць) *незак.* 1. Сакатаць. *Пад'ела, цяперыцька тарочыш, курычка ты мая.* 2. *Перан.* Бурчаць, сварыцца. *Ну, за што ты ны мяне тарочыш?* 3. *Перан.* Размаўляць з прыемнасцю. *Сыбраліся лі калодзіжа і тарочуць.*

ТАРБАХВА'Т (тырбыхват) і ТАРБАХВА'ТНІК (тырбыхватнік) *м.* 1. Кар'ерыст. *І ня думаў, што Пархвенчык такі тырбахват.* 2. Злодзей. *Калі што ні так пыклаў, то ад тыкога тырбыхвата не ўвойдзе.*

ТАРБАХВА'ТКА (тырбыхватка) і ТАРБАХВА'ТНІЦА (тырбыхватніца) *ж., перан.* 1. Кар'ерыстка. *Яго жонка ныстыящая тырбыхватка.* 2. Зладзейка. *Я вам тутака ні тырбыхватка ікая-небудзь.*

ТАРБАХВА'ЦТВА (тырбыхваства) і ТАРБАХВАТНІЦТВА (тырбыхватніства) *н.* Зладзейства. *Я вас адучу ад тырбыхваства.*

ТАРБЕ'ШНІК *м.* Сярмяжнік, бедны чалавек. *Даўней жа там адны тарбешнікі жылі.*

ТАРБЕ'ШНІЧАЦЬ (тарбешнічыць) *незак.* Выпрошваць. *Хваця нам ужо тарбешнічыць у людзей, свайго сена хваця.*

ТАРБЕ'ШНІЦТВА (тарбешніства) *н.* Жабраванне, выпрошванне. *Я і ў Мыгілёў, я і ў Бялынывічы — ныдаела ўжо тарбешніства такое,— дзе тых запчастык ныбярэшся.*

ТАРБЕ'ШНІЦКІ *прым.* Бядняцкі. *Нашы тарбешніцкія землі былі ўсе ны пісках.*

ТАРБУ'ЛЬ *м.* 1. Цяжкі клунак. *Тарбуль зы плічамі пакуль прынісла, дык аж дыхыць зыняло.* 2. *Перан.* Здаровы хлопчык. *Ого, які ты ўжо тарбуль, ні пыдняць.*

ТАТУ'ЛЯ *м., перан.* Сын, які чым-н. падобны да бацькі. *Увесь татуля і ўпарты такі.*

ТАЎКА'ЧЫК (тыўкачык) *м.* 1. Невялікі таўкач, мяшалка. *Пыдай тыўкачык, ну, скорынька.* 2. Хвошч. *Тыўкачыкі на кіслых землях растуць.*

ТАЎХАНІ'НА (тыўханіна) *ж.* Штурханіна. *Зайшоў у клуб, а там тыкая тыўханіна, тыкая цісната, дык я пыстаяў — ды нызад.*

ТАЎХА'ННЕ (тыўханьня) *н.* Штурханне. *Ны танцах тыўканьня, людзей многа.*

ТАЎХАНУ'ЦЦА (тыўхануцца) *зак.* Штурхануцца. *Я табе калі тыўхануся, дык ты, як чылавек, спакойна пысядзіш.*

ТАЎХАНУ'ЦЬ (тыўхануць) *зак.* Штурхануць. *Січас яшчэ раз тыўхану, можа і адчыню.*

ТАЎХНУ'ЦЦА *зак.* Штурхануцца. *Таўхнецца лі касцоў і — дамоў.*

ТАЎХНУ'ЦЬ *зак.* Штурхнуць. *Таўхнуць і цябе з брыгадзіра.*

ТО'ЎСТАЯ *прым.* Цяжарная жанчына. *У вайну іна была з трымя дзяцьмі і чацвёртым тоўстая.*

ТРА'ПАШНІК (трапышнік) *м.* Анучнік. *Трапышнік прыехаў, нясі сваё рызьзя.*

ТРАПЫ'ШКА *ж.* Мянташка. *Харошыя трапышка была, ды пабілыся.*

ТРАПЫ'ШЫЦЬ *незак.* Мянтышыць. *Трапыш ці ні трапыш, а каса рэзаць ня будзя, калі ні кліпаныя.*

ТРУБЛО' *н.* Пражорлівы конь або карова. *Ны зіму трэба пяць вазоў сена, ні, карова, а трубло.*

ТРУБІ'ЦЬ 1. Трубіць. *Пастух трубіць, каровы ідуць.* 2. Плакаць. *Хваця табе трубіць як ласю.* 3. *Перан.* Шмат есці. *Трубіць і трубіць, куды яно яму ўжо лезя.*

ТРЫЛУ'ЗА *м.* і *ж.* Пустазвон, балбатун і пустазвонка, балбатуха. *Трылуза табе ныгавора, толькі слухай. Ходзіш, кожнага трылузу слухыіш.*

ТРЫЛУ'ЗІННЕ (трылузіньня) *н.* Пустазвонства, балбатня. *Хваця трылузіньня, пашлі вячэрыць. Усякыга трылузіньня начулыся.*

ТРЫЛУ'ЗІЦЦА *незак.* 1. Здавацца, казацца. *Яму трылузіцца, што і ўсе такія зладзеі, як ён сам.* 2. Сніцца. *Трылузіцца нешта кожную ноч.*

ТРЫЛУ'ЗІЦЬ *незак.* Гаварыць лухту, балбатаць, пляткарыць. *Ты тама быў, ты бачыў, не, дык чаго трылузіш лішняе. Што ты трылузіш ны мяне, ны сябе пыглядзі.*

ТУГНУ'ТЫ *дзеепрым.* Выгнаны, напалоханы. *Дрыжыць, як тугнуты.*

ТУГНУ'ЦЬ *зак.* 1. Спалохаць, пужнуць. *Як тугну, дык будзіш біз аглядкі ўцікаць.* 2. Зняць з пасады. *Ну, і міханіка нашыга тугнулі, хваця яму.*

ТУГО'ШЫНА *ж.* Непраходнае балота ў лесе. *У тугошыні ўсе ваўкі зьбіраюцца.*

ТУ'КАННЕ (тукыньня) *н.* Ушчуванне, пакрыкванне. *Кожны дзень ад цябе тукыньня чую.*

ТУ'КАЦЬ (тукыць) *незак.* Крычаць, пагражаць. *Не трэба ны яго тукыць, ён болі ня будзя.*

ТУ'КНУЦЬ *зак.* Крыкнуць, каб спалохаць. *Ці тукніш ты на яго, каб пірастаў дурэць?*

ТУМА'К *м.* 1. Кухталь. *Глядзі, каб ты ў мяне тумакоў ні зарабіў.* 2. Дурань. *Які ж ты тумак, ні дырызуміўся тыпыра ўзяць.*

ТУ'МБА *ж.* 1. Тумба. *Прытаколы ліжаць у тумбі.* 2. *Перан.* Тоўстая, мажная кабета. *Прышла тумба, села, дык аж лаўка сагнулася.*

ТУ'МКАННЕ (тумкыньня) *н., груб.* Разважанне, раздумванне. *Дося тумкыньня, будзім стырацца дзелыць быстрэй.*

ТУ'МКАЦЬ (тумкыць) *незак., груб.* Думаць, разважаць. *Нічога ты сваёй гылавой ня тумкыіш.*

ТУ'МКНУЦЬ *зак., груб.* Прыйсці нечакана ў галаву (пра думку). *Тумкнула мне ў гылаву, што трэба на сходку іці.*

ТУРНУ'ЦЬ *зак.* Хутка пагнаць. *Турнуў кароў з гары, дык яны чуць галовы адна другой ні пызвырачылі.*

ТУРЫ'ЦЬ *незак.* Хутка гнаць. *Турылі мы немцаў ды самыга Бярліна ны танкых.*

ТУ'ТА *прысл.* Тут. *Тута баба выражыла, тута сала палажыла, тута яно ёсь* (скарагаворка).

ТУ'ТАКА (тутыка) і ТУ'ТАКІ (тутыкі) *прысл.* Тут. *Тутыка табе места німа. Тутыкі я і біз цябе абыйдуся.*

ТУ'ТАЦЬКА (тутыцька) і ТУ'ТАЦЬКІ (тутыцькі) *прысл.* Тут. *Тутыцька дужа дрэнныя гароды. Тутыцькі летам дужа хырашо.*

ТУ'ТАЧКА (тутычка) *ж.* Курачка. *Тутычка мыя, хадзі пыдзяўбі і ты.*

ТУШАВА'ННЕ (тушываньня) *н., жарг.* Хваляванне. *Ідзі біз тушываньня, ня бойся дужа, здасі свой экзамен.*

ТУШАВА'ЦЦА (тушывацца) *незак., жарг.* Хвалявацца. *Ня трэба тушывацца, калі вучыў, то здасі.*

ТУШАВА'ЦЬ (тушываць) *незак., жарг.* Хваляваць, непакоіць. *Ты мяне дужа не тушуй, я не баюся.*

ТЭ'ПАННЕ (тэпыньня) *н.* Тупанне. *Чую тэпыньня пы хаці, гляджу, а гэта вожык.*

ТЭ'ПАЦЬ I (тэпыць) *незак.* Ісці, тупаць. *Куды ты тэпыіш? Тэпый к дзеду.*

ТЭ'ПАЦЬ II (тэпыць) *м.* Лапаць, сандаля. *Тэпці рызмяклі.*

ТЭ'ПНУЦЬ *зак.* Зрабіць крок (пра дзіця). *Тэпнуў два разы і пываліўся.*

ТЫ'КАЦЬ (тыкыць) *незак.* 1. Называць непачціва. *Ня тыкый дужа, я болі пражыў і болі ведыю.* 2. Указваць на каго-н. *Што ты тыкыіш ны мяне, сам схадзі.*

## У

УБАБУ'ХАЦЦА (убабухыцца) *зак.* Уваліцца. *Ішоў упацёмку і ўбабухыўся ў гразь.*

УБАБУ'ХАЦЬ (убабухыць) *зак.* 1. Пераплаціць або аддаць задарма. *Убабухыў тыкія грошы, а за што,*

*каб хто спрасіў.* 2. Залішне многа закласці. *Усе яблыкі ўбабухыў у кампот.*

УБЛЮСЦІ′ *зак.* Захаваць, сэканоміць. *Ублюла яшчэ трохі арэхыў.*

УБО′ІНА *м.* і *ж., зняваж.* 1. Упарты чалавек, упартая. *Тыкая ўбоіна, што хоць у лоб стрыляй — не зварухнецца.* 2. Каляіна. *Па ўбоінах дрогка ехыць.*

УБУ′ХАЦЦА (убухыцца) *жарг., зак.* Улезці ў гразь. *Убухыўся ў лужу.*

УБУ′ХАЦЬ (убухыць) *зак., жарг.* Заплаціць залішне. *Убухыў столькі грошы, а за што.*

УВАЛІ′ЦЬ *зак., іран.* Даць, выдзеліць. *Ну, і ўваліў жа ты мне, луччы саўсім ні дываў бы нічога, ні было б і гаворкі.*

УВЕ′К *прысл.* Навек. *Я зы такога прыхіньдзея ўвек бы замуж ні пыйшла.*

УВЕ′ЛЬКІ *прысл.* Велічынёй. *Ны нашым клубі вісіць замок увелькі з ваўчыную гылаву.*

УВЫ′ШКІ *прысл.* Вышынёй. *Наша хата ўвышкі ня меншая, чым ваша.*

УГАЙДАМА′ШАНЫ (угыйдымашыны) *дзеепрым.* Забіты. *Певень ужо угыйдымашыны, дужа ныдаеў, зыраза.*

УГАЙДАМА′ШЫЦЬ (угыйдымашыць) *зак.* Знішчыць, забіць. *Іньдзюкоў трэба ўсіх ны мяса ўгыйдымашыць, толку з іх німа.*

УДАВА′ЦЬ (удываць) *незак.* Прытварацца. *Ляжыць і ўдае, што спіць.*

УДО′ЎЖКІ *прысл.* Даўжынёй. *Кожныя бырызна ўдоўжкі тры кіламетры будзя.*

УЕ′ЖНА *прысл.* Гасцінна. *Нічога сабе жывуць, і сустрэлі ўежна.*

УЕ′ЖНАСЦЬ (уежнысь) *ж.* 1. Утульнасць. *Пырадычык, уежнысь, што болі трэба.* 2. Сытнасць. *Ад уежнысьці ўжо крэкча.*

УЗБУ′ЧЫНА *ж.* Пстрычка. *Даў узбучыну, дык шышка на лбу, што рог вырысла.*

УЗБУ′ЧКА *ж.* Лупцоўка, праборка. *Пыдраў штаны, будзя табе ад маткі ўзбучка. Адрыманцірываў два плугі, а брыгадзір яшчэ ўзбучку даў. Узбучку зы цябе ў праўленні дадуць.*

УЗБУ′ЧЫЦЬ *зак.* Разгневаць, раззлаваць. *Узбучыць які дурынь, дык кідаецца на ўсіх як сыбака.*

УЗБУ′ЧЫЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Ты як узбучысься, дык дужа пыганы.*

УЗНО'Ў *прысл.* Зноў. *Ты ўзноў зы старые ўзяўся, глядзі, брат.*

УЗРЭ'Х *м.* Агрэх. *Каб цябе пастрыглі з такімі ўзрэхымі, як ты поля ўзыраў, то няведыю, што б ты тады дзелыў?*

УКЛА'ДНА *прысл.* Добра. *У нас пакуль што ўсё ўкладна.*

УКЛЯПА'ЦЦА (укліпацца) *незак.* 1. Прыняць аднаго чалавека за другога. *Прасціця, гэта я думыла, што мой ліхадзей, ды ўкліпалыся, саўсім ні пызнала.* 2. Закахацца. *Ні дуры, ведыю, што ў Мархвычкіну Машку ўкліпаўся.*

УКРА'ДНІ *прысл.* Употай, цішком. *Ты ад мяне і ясі ўкрадні.*

УКРА'ДНІК *м.* Той, хто хаваецца ад людзей, нешта робіць употай. *Ты і ў кузьні сваёй такі ўкраднік?*

УКРА'ДНІЦА *ж.* Змоўніца. *Ты ўкрадніца, ведыю цябе.*

УЛІЗНУ'ЦЬ *зак., жарг.* Ухіліцца, пазбегнуць ад каго-н. *Ты ж учора ўлізнуў, а мы да вечыра яшчэ мучыліся.*

УЛІНІ'ЦЬ *зак.* Ударыць дзягай. *Як уліню ціраз лоб, дык ты аж закруцісься.*

УЛЫ'НДЗІЦЬ (улыньдзіць) *зак., перан.* Ударыць палкай. *Улынджу пы ныгах, дык пыпаўзеш.*

УМО'РА *м.* і *ж.* 1. Камедыянт; штукар. *Умора нейкыя, а ні чылавек, усе жыватьі ад яго пыпырвалі.* 2. Штосьці смешнае, вясёлае. *А ны вяселлі чыстыя ўмора была.*

УМЫКНУ'ЦЬ *зак.* Уцячы, вышмыгнуць. *І ад суда сумеў умыкнуць.*

УНУЧУ'РЫК *м.* Унучык. *І ты, унучурык, мой, прыехаў, а я ж цябе ні ждаў.*

УНУЧУ'РКА і УНУЧУ'РАЧКА (унучурычка) *ж.* Унучка. *Хадзі ка мне, зылытая ты мыя ўнучурычка. Я ж цябе так хацеў бачыць, унучурка ты мая, ці вялікыя ты вырысла.*

УПІКА'ЙЛА *м.* Уедлівы на язык чалавек. *Упікайлу такому, як ты, луччы ні прызнывацца, а то сто разоў выгывара.*

УПІКА'ННЕ (упіканьня) *н.* Папрокі. *Я можа ны капейку прывініўся, а ўпіканьня на руб і дваццыць капеік.*

УПІКА'ЦЬ *незак.* Папракаць. *Ты мне за тыя боты ды самай сьмерці ўпікаць будзіш.*

УПІ'ЧЫСТА *прысл.* З'едліва, здзekліва. *Ён гаворыць, здаецца, і дужа спакойна, а паслухый, як упічыста.*

УПІ'ЧЫСТЫ *прым.* З'едлівы, здзеклівы. *Ня будзь ты такім упічыстым.*

УПІ'ШЧЫЦЦА *зак.* Уладкавацца, знайсці цёплае месца. *Архіп Іваньвіч, можа б і я там лі цябе ўпішчыўся.*

УПО'БРЫКІ *прысл.* З падскокамі. *Каровы як выйшлі з кароўніка, дык і пайшлі ўпобрыкі.*

УРО'СТКІ *прысл.* Ростам. *Жыта павыгыняла ўросткі з чылавекым.*

УРЭ'ДНІК *м.* Шкоднік. *Ні нады ж быць урэднікым.*

УРЭ'ДНІЦА *ж.* Шкодніца, гарэза. *Навошта ты платок у гразь кінула, урэдніца ты.*

УСІВУ'ЛІЦЬ *зак.* Сцебануць пугай. *Усівуліў карові разы сы два, дык дужа нікуды ня бегыя.*

УСПЯЛЕ'ГАВАЦЬ (усьпялегывыць) *зак.* Вырасціць, выгадаваць. *Адна дзяцей успялегывыла.*

УСЮ'ДЫХ *прысл.* Усюды. *Усюдых у нас цяпер многа машын.*

УСЮ'ДЫЦЬКА і УСЮ'ДЫЦЬКІ *прысл.* Усюды. *Усюдыцька цяпер пычалі бульбу кыпаць. Усюдыцькі ён пыбываў.*

УСЮ'ЛЯ *прысл.* Усюды. *Усюля хырашо, дзе цябе німа.*

УСЮ'ЛЕКА і УСЮЛЕКІ (усюліка і ўсюлікі) *прысл.* Усюды. *Усюліка работы многа. Усюлікі жыць можна, толькі ні ляніся.*

УСЮ'ЛЕЦЬКА і УСЮ'ЛЕЦЬКІ *прысл.* Усюды. *Усюлецька ёсць людзі добрыя. Ці гэта ўсюлецькі так, як у нас.*

УСМЫЛІ'ЦЬ *зак.* Ударыць дубцом. *Усмылю пы плічах, ты ня будзіш ны гылаве хадзіць.*

УСУЧЫ'ЦЬ *зак.* Збыць брак, дрэнь. *Ну, і ўсучыў жа ты мне пілку, век помніць буду. Ён табе, дурному, і ўсучыў, што самому ня трэба.*

УТО'РКНУЦЬ *зак.* 1. *Перан.* Уладкаваць. *Цяпер думыя, куды б другую дачку ўторкнуць.* 2. *Перан.* Даць хабар. *Хто гэта ведыя, сколькі ён яму ўторкнуў.*

УТО'ЎСТКІ *прысл.* Таўшчынёй. *У яго шыя ўтоўсткі з пыравозную трубу.*

УТРО'ПНА *прысл.* Старанна. *Утропна ўсе работылі, што і кызаць.*

УХА'ЛІВАЦЬ (ухалівыць) *незак.* Адпраўляць прэч. *Дывай, ухалівый ацьсюль, каб цябе ні бачыла.*

УЦАЛІ'К *прысл.* Без дарогі, па глыбокім снезе. *Ішоў уцалік, дужа стаміўся.*

У'ЦІМКАМ (уцімкым) *прысл.* Прыцемкам або рана. *Уцімкым пыдняўся, схадзіў у грыбы.*

УЦЭ'ЛА *прысл.* Без дарогі. *Уцэла цяжка і сабе, і каню.*

УЧО'РАКА і ЎЧО'РАКІ (учорыка і ўчорыкі) *прысл.* Учора. *Учорыка ён у нас быў. Учорыкі я ў горадзі была.*

УЧОРА'ЦЬКА і ЎЧО'РАЦЬКІ (учорыцька і ўчорыцькі) *прысл.* Учора.

# Х

ХАЛАДЭ'ЧА (хыладэча) *ж.* Вялікі холад, сцюжа. *Такой хыладэчы, як сёння, ішчэ ні разу ні было.*

ХАЛАМЭ'НДЗІК (хыламэньдзік) *м., пагардж.* Старая невялікая гаспадарчая пабудова. *Гэты хыламэньдзік трэба каб хто пыдпаліў, а то вочы прымазоліў.*

ХАЛУ'ДРА *м.* і *ж., зняваж.* Неахайная асоба. *Пыглядзі, халудра, ны свае бацінкі. Павеліч.* Х а л у д р ы н а.

ХАМІ'ЛА *м., груб.* Хам, грубіян. *Маўчы, хаміла!*

ХАНДРА' (хындра) *м.* і *ж.* Хлюпік, плакса. *Болі ты са мной нікуды ня пойдзіш, мне ні нада тыкая хындра.*

ХАНДРЫ'ЦЬ *незак.* 1. Плакаць, скавытаць. *Што ты хандрыш, ня хочыш быць тут, дык ідзі дамоў.* 2. Хварэць. *А ты ўсё хандрыш, пыра пыпрыўляцца.*

ХА'ПЦАМ (хапцым) *прысл.* 1. Разам, дружна. *Давайце, хлопцы, ну, хапцым!* 2. Хутчэй, больш таропка. *І ны другі дзень узяліся, хапцым і выкыпылі нашу бульбычку.*

ХЛАБАЗА' (хлыбыза) *ж.* Сукаватая сухадрэвіна. *Гэтую хлыбызу пакуль парэжыш ды пакoліш, дык пуп ныдарвеш. Павеліч.* Х л а б а з і н а.

ХЛАБАЗЗЁ' (хлыбазьзё) *н., зб.* Сухое суччa. *Хлыбазьзё, што порых гарыць.*

ХЛЫ'З *м.* Лазіна, лазовы дубец. *Вазьму хлыз, дык я цябе скора ад гэтай вады адвяду.*

ХЛЫ'ЗЗЕ (хлызьзя) *н., зб.* Дубцы, суччa. *А што з гэтым хлызьзем дзелыць?*

ХЛЮ'МА *ж.* Неахайная жанчына. *У цябе сірада з-пыд пятніцы відаць, пыглядзі ны сябе, хлюма.*

ХЛЮНДРА *ж.* Неахайная жанчына. *І матка і дычка тыкая хлюндра.*

ХТО'ЦКІ *прым., іран.* Прысутны. *Хто тут гэтак нысурыў? — Хтоцкі; — Хто тут ытаптаў? — Хтоцкая.*

# Ц

ЦАЛІ'К *м.* 1. Аблога. *Ці будзя што расці на цаліку тым?* 2. Глыбокі снег. *Да Гуты пяць кіламетраў пы цаліку ішоў.*

ЦАПІ'ЛЬНА *н.* Дрэўка, за якое прывязваецца (валёк) цэп. *А ў дзеда сырвалося цапільна ды кыбану па лбу.*

ЦА'П-ЛА'П *дзеясл., выкл.* Пра паспешлівасць. *Цап-лап — і пайшла, няма таго, каб з акуратнысцю.*

ЦА'ХАЎКА (цахыўка) *ж.* Надворная свіння. *Сала з гэтый цахыўкі дужа вялікага ня будзя.*

ЦЕЛЯПА'ЦЬ (ціліпаць) *незак.* Сёрбаць. *А мой Валодзя дужа не перабірае, паціліпае, што падам, і пойдзе.*

ЦЕЛЯПЕ'НЬ (ціляпень) *м.* Мужчына, які асабліва нічога не бярэ да галавы: не спяшаецца, ні аб чым не турбуецца, не хвалюецца. *Такі-сякі целяпень, ды з ім ляпей.*

ЦЕ'ПЕРСЯ і ЦЕ'ПЕРСІ (цепірся і цепірсі) *прысл.* Даўным-даўно. *Цеперся гэта было? Цепірсі, як я зысталася адна.*

ЦЕ'ПЕРСІКА і ЦЕ'ПЕРСІКІ (цепірсіка і цепірсікі) *прысл.* Даўным-даўно.

ЦЕПЛЯ'НІШЧА (ціплянішча) *н.* Вогнішча. *Дзе пыстухі — там ціплянішча ны ціплянішчу.*

ЦЕ'ЦІК *м.* Гусяня. *Хадзіце, мае вы цецікі, пыкармлю.*

ЦЕЦЯРЛЮ'К (ціцярлюк) *м.* Цецярук. *Балбочыш, як ціцярлюк у лесі, нічога ні пайму.*

ЦІ'ПКА *ж.* Птушанятка. *Такія міленькія, такія харошынькія ціпкі, роцікі рызіваюць. Памянш.* Ц і п а ч к а (ціпычка).

ЦІХМА'Н *м.* Вельмі спакойны чалавек. *І чорт ціхмыным быў.*

ЦІ'ЦІ-МІ'ЦІ *выкл., жарг.* Шыта-крыта. *Зьдзелылі ўсё ціці-міці.*

ЦІШМА'Н *м.* Ціхі, спакойны чалавек. *І дома і ў школі ён цішман.*

ЦІЯ'ТРА *м., ж., н.* 1. Скамарох, жартаўнік, весялун. *Што ты высылыпіў язык, як ціятра?* 2. Відовішча, смешная сцэна. *Як ты пайшоў, дык там такое ціятра было, каб ты толькі бачыў.*

ЦО'Т У ЦОТ. Вельмі трапна, дакладна. *Цот у цот усё сыйшлося. Пуля пыпала цот у цот.*

ЦУ'П *выкл.* Стоп. *Ішоў — цуп, стаў, пыглядзеў у вакно.*

ЦЫРКУ'Н *м.* Цвыркун. *Увесь вечыр цыркун спаць ні даваў.*

ЦЫ'ТРА *м.* і *ж., н.* Скамарох, гарэза, жартаўнік. *Не цытра, дык і не курчыся.*

ЦЫТРАМА'Н *м.* Жартаўнік, скамарох. *Малыя ўсе такія цытраманы.*

ЦЫ'ЦАЛА (цыцыла) *ж., груб.* Ніткі ў растрапаным адзенні. *Абдрыпыўся, цыцылы быўтаюцца з кылашыння.*

ЦЮХЦЯ'Й *м.* Мешкаваты чалавек. *І ў ядзе, і ў хадзе цюхцяй быў, цюхцяём і астаўся.*

ЦЯЛЕПША *ж.* Маладая, мажная кабеціна. *Мыя жонка тыкая цялепша, як твыя.*

ЦЯЛЁПКАЦЬ (цялёпкыць) *незак.* 1. Сёрбаць. *Цялёпкыю юшку, што жонка ныварыла.* 2. Плявузгаць. *Ня ведыіш, дык ні цялёпкый, чаго ня трэба.*

ЦЯЛЬПУ'Х *м.* Камель зрэзанага дрэва. *Гэты цяльпух наўрад ці падымгм.*

ЦЯМНІ'ЛА *м., перан.* Невук. *Хоць ты і вучыўся, ды ты цямніла, ні абіжайся толькі.*

ЦЯ'МЦЯ-ЛЯ'МЦЯ *м.* Недарэка. *Ні трыктарыст, а я скызаў бы што цямця-лямця.*

ЦЯПЕ'РАКА і ЦЯПЕ'РАКІ (цяперыка і цяперыкі) *прысл.* Цяпер. *Цяперыка во што я вам скажу. Цяперыкі мне нічога ні страшна.*

ЦЯПЕ'РАЦЬКА і ЦЯПЕ'РАЦЬКІ (цяперыцька і цяперыцькі) *прысл.* Цяпер.

ЦЯРЭ'ШКА *ж.* 1. Матылёк. *Цярэшкі ны пагоду разліталіся.* 2. Брошка. *У мяне цярэшка з брылліянтам.*

# Ч

ЧАМАДО'Р (чымадор) *м., неадабр.* Ганарлівы чалавек. *Пажыў у горадзі тры дні, дык ужо чымадорым хадзіць пычаў.*

ЧАМАДО'РЛІВЫ (чымадорлівы) *прым.,* неадабр. Ганарлівы. *А твой, Алёна, зяць не сказаць што дужа чымадорлівы.*

ЧАМАДО'РЫЦЦА (чымадорыцца) *незак., неадабр.* Ганарыцца. *Будзя табе чымадорыцца, выпі во чарку як чылавек.*

ЧАПІРА'ДЛА (чыпірадла) *ж., зняваж.* Вельмі худая жанчына. *Здаецца і ем сы смакам, а ўсё чыпірадлай во такой хаджу.*

ЧАПУРЫ'ЦЬ (чыпурыць) *незак.* Прыбіраць (адзяваць, прычэсваць і г. д.). *Ці пызавеш хыця ны вяселле за тое, што цябе чыпуру кожны раз.*

ЧАПУРЫ'ЦЦА (чыпурыцца) *незак.* Прыбірацца, прыгожа, апранацца. *Хоць і хлопец, а любіць чыпурыцца.*

ЧАПУ'РНЫ (чыпурны) *прым.* Прыгожы, элегантны. *І хлопцы, і дзеўкі — усе хочуць быць чыпурнымі.*

ЧАСЦЯКО'М (чысцяком) *прысл.* Вельмі часта. *Чысцяком ты бываеш цёплінькім, хто ж цябе ўсё частуе?*

ЧА'ЎКАЦЬ (чаўкыць) *незак.* Жаваць гучна. *Кынчай чаўкыць.*

ЧАЧО'К *м.* Птушка чыж. *Я знаю, дзе чачкі вывіліся.*

ЧВЭ'РЫЦЬ *неадабр.* Вытвараць. *А дзеці застануцца адны, як пачнуць чвэрыць, к вечыру хаты ні ўзнаць.*

ЧВЯ'КАЦЬ *незак.* Гучна жаваць. *На кухню ідзі чвякаць, а ня тут.*

ЧМУ'Р *м.* Дурман. *А мне, як бы чмур які ў гылаву зайшоў.*

ЧМУРЫ'ЦЬ. Дурманіць. *Ты мяне не чмуры, я сама саб'юся.*

ЧО'Х *м.* Чыхаўка. *Нейкі чох ны мяне ныпаў, можа грыпым зыразілыся.*

ЧУ'НІ *мн.* Літыя гумавыя галошы. *Ны твае ногі ні бацінкі, а чуні трэба.*

ЧУРДЫ'-БУРДЫ' *выкл.* Пра хуткасць у дзеянні. *Чурды-бурды — і гатова.*

ЧЫ'К *м.* 1. Прамежак, які застаецца паміж пракосам. *У цябе, Масейка, такі чык зыстаецца, што можна*

*самога зы яго прывізаць.* 2. Невялічкі агрэх пры аранні. *Дужа ня хочыцца за тым чыкым нызад віртацца.*

ЧЭ'ЗЬ (чэсь) *м.* Мор, смерць. *Ны пырысят нейкыя чэсь ывалілыся. Чэсь нікога не мінуе, з касой ходзя.*

ЧЭ'ЗНУЦЬ *незак.* Губляць сілы, моц, паступова гінуць, знікаць. *А людзі чэзьлі тады як мухі. Ужо цэлы год, як ляжу і чэзну.*

## Ш

ШАБУНЯ'ЦЬ (шыбуняць) *незак.* Гаварыць напаўголаса. *Сустрэліся дзве кумычкі і шыбуняюць тут.*

ШАВЯЛЯ'ННЕ (шывіляньня) *н.* Шапялявенне. *Я цябе пыд зямлёй бы ўгыдаў па шывіляньню.*

ШАВЯЛЯ'ТЫ (шывіляты) *прым.* Шапялявы. *А малы ж быў такі шывіляты, саўсім ні рызыбраць было, што гыварыў.*

ШАВЯЛЯ'ЦЬ (шывіляць) *незак.* Не выгаворваць выразна слоў. *Ты пыстаў сабе новыя зубы, а то дужа шывіляіш.*

ШАЛУПА'ЙКА (шылупайка і шулупайка) *ж.* Лушпіна, шалупіна. *Шылупайкі вынісі карові. Шулупайкі ў цэбыр высыпі.*

ШАРА'М (шырам) *м.* Шрам, пісюг. *Хто табе такі шырам на ўвесь лоб пысадзіў? Шырам і цяпер ішчэ ні зажыў ны плічах.*

ШАРПІ'НКА *ж.* 1. Шарсцяная блузка. *Гадоў пітнаццаць тую шарпінку насіла.* 2. Драпінка. *Шарпінка на руцэ ня хоча ніяк зыжываць ны марозі.*

ШАТА'Н (шытан) *м.* Д'ябал, чорт. *Шытан яго ведае, дзе мой мылаток дзеўся.*

ШКА'РАДА (шкарыда) *м.* і *ж.* Невыносны па характару, задзіра. *Дзянісаў сын — шкарыда-шкарыда.*

ШКА'РАДЗЬ (шкарыдзь) *мн.* Невыносны па характару. *Сядзь, шкарыдзь!*

ШКА'РАДНЫ (шкарыдны) *прым.* Задзірысты, невыносны. *Такія шкарыдныя дзеці пашлі.*

ШЛАПА'К (шлыпак) *м.* Бадзяга, валацуга. *Ты ні работнік, а шлыпак.*

ШЛУ'Т *м.* Бадзяга, швэндала. *Ды гэта Дзямідыў шлут ныкурыў тут.*

ШЛУ'ННЕ (шлуньня) *н.* Вантробы. *Перарэзаў ты мне ўсё шлуньня.*

ШЛЭ'ПКА *м.* Бадзяга, валацуга. *Там хырашо, дзе нас німа, шлэпка.*

ШЛЭ'ПЦІ *мн.* Чаравікі. *Хаця б шлэпці свае пачысціў, шлыпак ты.*

ШМАНА'ЦЬ (шмынаць) *незак.* Прызнаваць за аўтарытэт. *Я цябе мала, братка мой, шмынаю.*

ШМЭ'НЦ *м.* Гусіны тлушч. *З гусыка дык руччом шмэнц ліўся.*

ШНА'РЫЦЬ *незак.* Шукаць, хадзіць, дзе не след, разглядаць. *Прыйдзя ў хату, дык шнарыць як сыбака.*

ШНЫ'ПАРЫЦЬ (шныпырыць) *незак.* Шукаць старанна. *Дзень шныпырыць, грыбы ўсё шукае.*

ШНЫРЫЦЬ *незак.* Шукаць старанна. *Шнырыць пы кырманах — німа там нічога.*

ШПУРЛЯ'К *м., пеpан.* Добры кавалак сала або мяса. *З'еўшы такі шпурляк сала, ды дваццаць сотык ні скасіць — смеху варта.*

ШПУРЛЯ'ЦЬ *незак.* Кідаць. *Куды ты шпурляеш гэтае каменьня, шчэ ў гылаву каму пыпадзеш.*

ШУПШЫ'НА *ж.* Шыпшына. *Я і паху шупшыны ні люблю.*

ШУКА'ЛА *м.* Той, хто шукае. *Сам шукала скызаў: — Прыпала...*

ШУРА'К *м.* Швагер. *Прышоў учора шурак, дык мы забілі кыбына і пляшку трэснулі.*

ШУРНУ'ЦЬ *зак.* Хутка пагнаць, прагнаць. *Шурнуў коней, дык мігым прыскочыў. Так шурнулі мы немцаў, што іхны палкоўнік пасьпеў толькі адну нагу абуць. Шурні там трошкі дзяцей, а то дужа мішаюць пісаць.*

ШЧАМЕ'ЛЬ *м.* Чмель. *Шчамлёў знайшоў, хлопцы, сюды!*

ШЧАМЛІ'ХА *ж.* Чмяліная матка. *А шчамліха, відна, тожа лётая.*

ШЧЫТНЯ'К *м.* Сухадольная трава, сівец. *Такія шчытнякі каб касіць, трэба каб сам чорт касу насіў.*

ШЧЫБЛЕ'ТЫ *мн.* Чаравікі. *Ня ведыю, ці доўга ты ў сваіх шчыблетах паходзіш.*

ШЫГА'ЛЛЕ (шыгалья) *н., зб.* Усялякае буйнае смецце. *Ня столькі тых грыбоў, сколькі шыгалья. Ці ж гэта жыта, гэта ж, браток шыгалья.*

ШЧЫ'ТНА *прысл.* Шчыльна. *Зачыняй дзверы шчытна. Спасіба табе, Кузёмка, так шчытна выкасіў.*

ШЫША'К *м.* 1. Гузак. *Хто табе такі шышак на лоб набіў?* 2. Камяк мёрзлай зямлі. *Па шышаках ехыць дрохка ны калёсах.* 3. Гузак. *Як толькі вічарынка, так у цябе і*

*шышакі. Іран.* Начальнік. *Шышак мне вялікыя твой брыгадзір.*

ШЭ'РСТКІ *прым.* 1. Чэрствы. *Гэты хлеб ужо шэрсткі.* 2. Зляжалы снег. *Сьнег шэрсткі, боты быстра дзяруцца.*

## Ю

ЮКАЦЕ'ННЕ (юкаценьня) *н.* Тупат ног. *Сярод ночы я і чула на вуліцы юкаценьня.*

ЮКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Бегчы бягом. *Юкацей, як сам хацей.*

ЮРЫ'ЦЬ *незак.* Хацець, марыць. *Юрый жаніцца, цяпер вучыцца.*

ЮРЭ'ННЕ (юрэньня) *н.* Хаценне. *Ад юрэньня сохня і карэння.*

ЮЮ'КАННЕ (ююкыньня) *н.* Войканне. *Найрад ці палягчэе табе ад ююкыньня.*

ЮЮ'КАЦЬ (ююкыць) *незак.* Войкаць ад болю. *Ну, пацярпі, ну, ні страшна, посьлі будзіш ююкыць.*

## Я

Я'ГЛІЦЬ *незак.* Хацець моцна. *Бачу, што выпіць ты дужа ягліш.*

ЯЛІ'НЕЦ *м.* Ядловец. *Ны цябе трэба, наверна, венік з ялінцу.*

Я'МНІЦЦА. Прападаць пад нагамі (пра зямлю). *Іду, іду, а пыд ныгамі ямніцца, здаецца, во-во — правалюся.*

Я'ХАЦЬ *незак.* Скуголіць. *Гляджу, а сыбака стаіць на задніх лапах і яхая.*

# ЗМЕСТ




*ЕГОР МИНОВИЧ ЕВСЕЕВ*

**МАТЬ ГОВОРИЛА ТАК...**

Из говора Белыничского района

На белорусском языке

Рэдактар М. М. Дубоўская. Мастак В. Ф. Капылоў. Мастацкі рэдактар Ю. С. Сергачоў. Тэхнічны рэдактар В. І. Кручонак. Карэктар М. А. Вячорка.

ІБ № 596

Здадзена ў набор 30.09.77. Падпісана да друку 02.01.78. Фармат 70×90[1]/32. Папера друк. № 2. Друк. арк. 3,5. Ум. друк. арк. 4,09. Уч.-выд. арк. 5,2. Тыраж 1950 экз. Выд. № 235. Зак. № 1894. Цана 35 кап. Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.